28 сакавіка 2020 | № 12 (671)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 20011

**Туалетная папера — наша ўсё!**

**стар. 20**

**4–5 «НЕ ВЕДАЮ, ЦІ ДАЧАКАЮСЯ СЫНА»**

**У судзе Фрунзенскага раёна Мінска днямі завяршыўся працэс аб збыце наркотыкаў, па справе праходзілі 13 чалавек. У «Новы Час» звярнулася маці аднаго з падсудных, каб распавесці, што адбывалася за дзвярыма закрытых судовых пасяджэнняў**

**6, 19 ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ НЕЛУКАШЭНКА**



**Першага прэзідэнта беларусы займелі зусім не ўлетку 1994 года, а ўвесну 1990-га. 30 гадоў таму ў СССР з'явілася пасада прэзідэнта**

**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22–23 СТАЛІНСКАЯ БУТАФОРЫЯ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**

**Неад'емным элементам палітыкі саветызацыі сталі выбары ў новыя вышэйшыя органы ўлады і кіравання**

# Свабода ў час чумы



Сяргей ПУЛЬША

**Свет ужо не будзе ранейшым. Эпідэмія каронавіруса, падаецца, паставіла пад пытанне асноўныя дэмакратычныя каштоўнасці. Пры гэтым у некаторых выпадках людзі адмаўляюцца ад іх добраахвотна.**

Зразумела, маштаб панікі ў свеце такі, што некаторыя самастойна абмяжоўваюць сябе ў асноўных свабодах — напрыклад, свабодзе перасоўвання. Можна зразумець і краіны Шэнгенскай зоны, якія закрылі свае межы з-за ўспышкі каронавіруса ў Італіі. Базавыя дакументы ЕС аказаліся пад пагрозай.

Можна таксама зразумець і адмову ад свабоды мірных сходаў і збораў — каранцін ёсць каранцін. І наўрад ці знойдзецца шмат ахвочых ахвяраваць жыццём дзеля дэманстрацыі сваіх перакананняў. У нашай краіне гэта выявілася ў тым, што спыніліся прайморыз... 

Але ў некаторых далёкіх ад дэмакратыі краінах улады скарыстоўваюць каронавірус як нагоду, каб «зацягнуць гайкі» і абмежаваць актыўнасць насельніцтва. Прыклад — Кыргызстан, дзе «ў сувязі з распаўсюджваннем каронавіруснай інфекцыі» ўведзена надзвычайнае становішча ў сталіцы Бішкеку і найбуйнейшых гарадах Ош і Джалал-Абад, а таксама ў прылеглых да іх раёнах. Ва ўсіх гарадах уведзеная камендантская гадзіна, цяпер працоўным нельга зволіцца па ўласным жаданні без паважлівых прычын. Забараняецца правядзенне відовішчных, спартыўных і іншых масавых мерапрыемстваў, а таксама забастовак, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетаў. Уводзіцца кантроль за СМІ, якія «могуць выкарыстоўвацца для нагнятання сітуацыі», прынятыя асаблівыя правілы карыстання сувяззю, абмяжоўваецца рух транспарту.

Па-першае, не зразумела, як такія захады (акрамя забароны масавых мерапрыемстваў) могуць паўплываць на распаўсюд віруса — асаблівая забарона звальнення па ўласным жаданні. Па-другое, ёсць вялікая розніца, калі абмежаванні людзі прымаюць на сябе добраахвотна ці калі іх правы абмяжоўвае дзяржава.

Безумоўна, у гэтым выпадку павінен быць баланс паміж інтарэсамі дзяржавы і інтарэсамі чалавека. У ЗША Дональд Трамп таксама абвясціў надзвычайнае становішча — тым больш, што цяпер ачаг заражэння перакідваецца туды. Аднак гэтае надзвычайнае становішча было ўведзенае для таго, каб федэральны ўрад мог скарыстаць для барацьбы з COVID-19 фонд надзвычайнай дапамогі памерам у 50 мільярдаў долараў.

Аднак найбольш непакояць захады дзяржаваў у абмежаванні свабоды слова — бадай, гэта самы незразумелы «накат» на грамадзянскія свабоды пад маскай каронавіруса. Апроч Кыргызстану за «нагнятанне сітуацыі» планующа ўвесці крымінальную адказнасць у Венгрыі, дый наш праваДыр загадаў КДБ «разабрацца з нягоднікамі, якія ўкідваюць фэйкі» наконт хваробы ў Беларусі. І вось ужо міліцыянты па звычцы хапаюць Мікалая Дзядка, які стварыў тэлеграм-канал па пытанні заразы.

Насамрэч, барацьба з панікёрствам і фэйкамі вядзецца не так. Іх можна перамагчы толькі галоснасцю і дакладнай інфармацыяй, а менавіта з гэтым у дзяржавы — вялікія праблемы. Напрыклад, айчынная Міністэрства аховы здароўя на мінулым тыдні выступіла з маштабным тлумачэннем, што каранцін у краіне непатрэбны, асабліва ў навучальных установах. А літаральна на наступны дзень Мінадукацыі патлумачыла, як перавесці школьнікаў на хатняе навучанне і дыстанцыйнае навучанне студэнтаў у ВНУ. Зразумела, у мозгу абывацеля ўтварылася каша: і каранціну не трэба, і дзіця са школы лепш забраць. Каму верыць?




**Мяжа паміж дэмакратычнымі свабодамі і інтарэсамі нацыянальнай бяспекі — хісткая. Яе лёгка перайсці, але цяжка вярнуць**

З аднаго боку, улады, нават у асобе кіраўніка дзяржавы, заклікаюць не панікаваць. А з іншага — тое ж Міністэрства аховы здароўя заклікае да «сацыяльнага дыстанцыявання» — трымацца ад людзей на дыстанцыі каля 1,5 метра, а тым, хто мае прыкметы рэспіраторнай інфекцыі, заставацца дома. Больш за тое, міністэрства падтрымала сусветны флэшмоб лекараў #StayAtHome — гэта калі дактары фатаграфуюцца з паперкамі, на якіх напісана: «Мы працуем дзеля вас! — Вы застаньцеся дома дзеля нас!». Сэнс заклікy ў тым, каб знізіць нагрузку на бальніцы і ўвогуле не падхапіць хваробу.

Вось менавіта з-за адчування, што «нешта не так» і «нешта ад нас хаваюць» і ўзнікаюць фэйкі і паніка. Але вінаватыя ў гэтым зусім не тэлеграм-каналы і журналісты.

Мяжа паміж дэмакратычнымі свабодамі і інтарэсамі нацыянальнай бяспекі — вельмі хісткая. Яе лёгка перайсці — асабліва ў тых умовах, калі людзі самастойна пагаджаюцца на абмежаванне сваіх правоў дзеля ўласнага здароўя і здароўя сваіх родных. Гэтым зазвычай карыстаецца дзяржава, калі ўводзіць непрапарцыйныя сітуацыі абмежаванні — напрыклад, цэнзуру. Заклапочанае грамадства гэтага не заўважае, і нават пэўны час падтрымлівае, але... Гэтыя свабоды потым вельмі цяжка вярнуць.

Вакцыну ад каронавірусу знойдуць — максімум праз год-паўтара. А вось на вяртанне «часова абмежаваных» (з самымі добрымі намерамі!) грамадзянскіх правоў можа спатрэбіцца значна больш часу.

28 сакавіка 2020 | № 12 (671) Новы Час

# Варта ў Курапатах будзе трымацца да закрыцця рэстарацыі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Варта абароны Курапатаў трывае ўжо больш за 1,5 года. Апошнім часам навінаў пра яе няшмат, самай гучнай і журботнай стала вестка пра смерць удзельніка Варты Барыса Дуброўскага на мінулым тыдні, які памёр, ідучы з Курапатаў. Але абарона мемарыялу трывае, і яе ўдзельнікі не думаюць здавацца. Больш за тое, за гэты час удалося дабіцца пэўных поспехаў, распавяла «Новаму Часу» сталая ўдзельніца Варты Ганна Шапуцька.**

***— Былі чуткі, што Варта прыпыняецца на каранцін. Што ўсё ж вырашылі?***

— Пакуль не прыпыняем, бо няма агульнай згоды на каранцін. Пакуль рэстарацыю не зачыняць на каранцін, то дакладна па пятніцах і суботах Варта будзе. Прапануем (на час эпідэміі. — НЧ.) максімальна задзейнічаць асабістыя машыны і на Варту прыязджаць здаровымі. Ну і наогул, тут павінны адказныя за свае дні вырашаць самі. Строгай дамовы, канешне, быць не можа. Свабодны фармат Варты, але ж пратэст трымаем.

Наогул, на гэтым тыдні машынаў наведвальнікаў фактычна няма. Але ж і ў пятніцу, і ў суботу прыязджалі людзі, каб нас падтрымаць, і вельмі дзякавалі за надзею. Адзін чалавек казаў, маўляў, еду па кальцавой, бачу бел-чырвона-белыя сцягі, і мне на душы лягчэй і спакайней. Шчыра так казаў. Зміцер Дашкевіч яму кнігу абяцаў выслаць з аўтографам, адрэсу ўзяў.

***— Няма перасцярогі, што, калі Варта ўсё ж прыпыніцца, яна ўжо можа не аднавіцца? Усё ж людзі стаміліся, як бы ні бадзёрыліся...***

— Не, няма. Наадварот, за каранцін адпачнуць, сіл набяруцца, ідэй, і з новай энергіяй, абноўленыя, — на Варту.

Вось, Ніна Багінская пасля смерці Барыса, калі я прасіла яе, каб адна не хадзіла ў аўтобус, адказала мне, маўляў, Ганна, я ні з кім дамаўляцца не буду, буду прыязджаць і стаяць адна. Бачна, што яна вельмі перажывае смерць Барыса. Яны ж апошнім часам на Варце па аўторках — і вада не разлые, на іх аўторкі трымаліся.

Таксама ў пятніцу а 17.00 людзі, хоць і няшмат, прыходзяць на малітву за Беларусь. Па нядзелях яшчэ царква «Ян Прадвеснік» малітву ладзіць.

Там яшчэ развіваецца эпапея з рэкламай. Знялі яшчэ адзін рэкламны шчыт рэстарацыі. Бо гэтая рэклама размешчаная ў зонах ахоў мемарыяла, а дазволу ад Мінкульта на яе не было і няма. Існаванне любой вонкавай рэкламы ў зонах аховы без дазволу Мінкульта забараняецца, ім павінны штраф даць, але ж можа быць, як заўсёды ў нас.

Ужо шчыт перад рэстарацыяй і шчыт пасля яе прыбралі. Апошні літаральна днямі. Мы ў суботу заўважылі яго адсутнасць. Застаўся толькі адзін рэкламны шчыт рэстарацыі. Іх прыбірае фірма, якая ставіла, а фірма мінская, таму за ліквідацыю адказвае горад. Генпракуратура ўзяла мой апошні зварот на кантроль, цяпер чакаю адказу з Мінгарвыканкама. Паглядзім, ці прыбяруць на гэтым тыдні. Калі ўсе шчыты прыбяруць, а іх пакінуць, то гэта вельмі цікавая гісторыя будзе.

***— Ці думаеце неяк пра тое, каб мяняць фармат Варты?***

— Наша тактыка — трымацца да закрыцця рэстарацыі. Ну а фармат, хутчэй, застанецца тым жа (стаяць на ўваходзе ў рэстаран і інфармаваць наведвальнікаў пра Курапаты. — НЧ.), хоць я б асабіста ўзмацніла б пятніцу, зрабіўшы Дзень салідарнасці і малітвы на Варце. Ну і пра талокі трэба думаць.

# Закрыццё межаў ужо пазбавіла даходу сотні тысяч беларускіх сем'яў

Павел КІРЫЛАЎ

**Пакуль самаізаляваныя беларусы, якія ў пераважнай большасці маюць магчымасць працаваць у тым альбо іншым аб'ёме аддалена, патрабуюць у Фэйсбуку ад уладаў Беларусі жорсткіх каранцінных захадаў, народ у рэале ўспрымае сітуацыю з каронавірусам інакш. І псіхалагічна, і з эканамічнага пункту гледжання.**

Бо нібыта ў серыяле-катастрофе доўга жыць не будзеш: ёсць надзённыя патрэбы дый перспектыва заўтрашняга дня. Якой яна будзе? Выглядае на тое, што існаванне ў працяглым каранціне будзе мець больш негатыўныя наступствы для краінаў агулам і для кожнай сям'і, чымсьці жыццё з каронавірусам.

«З раніцы да чатырох гадзін, амаль вечар ужо, у мяне было ўсяго толькі пяць заказаў, — скардзіцца мне кіроўца "Яндэкс-таксі". — Просты народ працягвае ездзіць грамадскім транспартам, а багацейшыя, відаць, на добраахвотных каранцінах сядзяць. От праблема! Ну, чарговы новы вірус, яны рэгулярна прыходзяць і сыходзяць. У Італіі — так, жах. Але сярэдні ўзрост памерлых там ад каронавірусу пад 80 гадоў. Ды ў нас сярэдняя працягласць жыцця значна меншая... Я, вось, таксую, дарэчы, менавіта з-за гэтага каронавірусу, дакладней з-за каронавіруснай панікі. Павінен быў працаваць на аўтобусных перавозках па Еўропе. Прайшоў у Польшчы навучанне кароткае дадатковае, афарміў дакументы ўсе, візу атрымаў для працы, а тут гэты капец...»

Закрыццё межаў ужо пазбавіла даходу сотні тысяч беларускіх сем'яў. Пра месяц-два людзі пачнуць праядаць зберажэнні. Унутры Беларусі рынак працы ўжо звузіўся, і гэтая тэндэнцыя працягнецца. Бізнес таксама стогне, многія фірмы папросту збанкрутуюць. Страцяць кліентуру, замовы і тыя, хто зарабляе ў анлайне. Дадайце сюды яшчэ і паўзучую дэвальвацыю нашага рубля. У свеце пры пралангацыі каранціну будзе адбывацца тое ж самае. Заможныя краіны паабяцалі палёгкі бізнесу (пераважна гэта проста адтэрміноўкі па сплаце падаткаў) і падтрымку грамадзян у выглядзе кампенсацыі часткі заробкаў. Але трываласці іх эканомік хопіць толькі на месяц-другі, і тое гэта адгукнецца эканамічным крызісам. Нездарма прэзідэнт ЗША Дональд Трамп ужо заявіў, што да Вялікадня, гэта значыць, праз два тыдні, амерыканцы павінны вярнуцца да працы. Інакш пра квітненне эканомікі ЗША можна будзе забыцца.

Рэаліі ёсць рэаліі. Ужо не кажучы пра тое, што дасюль не вядома, якая тактыка па мінімізацыі наступстваў каронавіруснай пандэміі самая слушная — татальны каранцін, калі ён наогул магчымы, ці сітуатыўная беларуская схема, хай яна ў пэўнай ступені змушаная праз заняпалую эканоміку і выклікае інерцыйны недавер значнай часткі грамадства што да інфармацыйнай адкрытасці. Верагодна, што вірус хутчэй аслабне тады, калі на яго перахварэе пэўная частка людзей, і таму дастаткова кропкавага каранціну, перадусім абараніць людзей сталага веку ды прытрымлівацца элементарнай індывідуальнай гігіены.

Між тым, доўгі каранцін і эканамічны крызіс, якога ўжо не пазбегнуць (пытанне толькі ў яго маштабе), могуць элементарна пашкодзіць здароўю і забіць значна больш людзей, чым уласна каронавірус. Паглядзіце на тое, што на паверхні. Праз барацьбу з каронавірусам скасаваныя многія іншыя медычныя мерапрыемствы. Ад планавых аперацыяў да прышчэпкавых працэдур. Гэта тычыцца і Беларусі. А іншыя ж хваробы нікуды не падзеліся. Прычым смяротнасць ад іх пастаянная, у адрозненне ад успышкавага каронавірусу, і куды больш вялікая. Эканамічны крызіс недадасць выдаткаў на ахову здароўя.

Апрача таго, вірусолагі кажуць, што імунітэт чалавека фарміруецца якраз у актыўным соцыуме: мы ж жывем у свеце мільёнаў бактэрый і вірусаў. Асабліва гэта важна для дзіцячага ўзросту, калі гэты самы імунітэт пераважна і фарміруецца. Доўгатэрміновы каранцін, вядома, гэтаму акурат не спрые. Гэта значыць, нейкі новы вірус, скажам, праз некалькі гадоў можа нарабіць вельмі страшнай шкоды. Нарэшце, сацыяльна-медычныя наступствы: эканамічны крызіс заўжды правакуе ўсплёск дэпрэсіяў і самазабойстваў, дадайце сюды яшчэ і разводы са з'ядленнем няпоўных, уразлівых што тычыцца дабрабыту сем'яў.

Як можа змяніцца свет і Беларусь пасля каронавіруснай пандэміі? З аднаго боку, гэта добры трэнінг па самаарганізацыі грамадства і выхаванне адказнасці кожнага чалавека (ад элементарнага «мыць рукі»). З другога боку, цяпер прасцей будзе прасоўваць дысцыплінарныя захады кантролю з боку дзяржавы («цвёрдая рука»). Напэўна, адбудзецца перадзел нейкіх сфераў у сусветнай эканоміцы. Для Беларусі эканамічны крызіс стане магчымасцю для правядзення рэформаў і маштабнага развіцця малога ды сярэдняга бізнесу для ажыўлення эканомікі. А ўлетку беларусы замест Турцыі ды Італіі будуць актыўна падарожнічаць па радзіме. З кніжкай. Бо цяпер, калі болей часу мы бавім дома, то багата чытаем, а не заядаем каронавірусны стрэс, праўда ж?

# Расследаванне знікнення Юрыя Захаранкі зноў прыпынена

**Стала вядома, што 18 сакавіка папярэдняе следства крымінальнай справы па факце знікнення Юрыя Захаранкі зноў прыпыненае: няма каго вінавáціць.**

Адпаведнае паведамленне са Следчага камітэта атрымаў праваабаронца і давераная асоба сям'і Захаранкі Алег Волчак. «Органам крымінальнага пераследу ў далейшым, як непасрэдна, так і праз органы дазнання, будуць прымацца меры па ўсталяванні вінаватай асобы», — паведаміў у адказе начальнік аддзела Следчага камітэта Юрый Вараўка.

Пасля прызнальных паказанняў былога байца САХРу Юрыя Гараўскага папярэдняе расследаванне па крымінальнай справе аб гвалтоўным знікненні былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі працягнулі да 18 сакавіка.

Адмова следства «Беларускай праўдзе» пракаментаваў Алег Волчак:

— У мяне не выклікаў здзіўлення той факт, што следчы Юрый Вараўка зноў прыпыніў расследаванне па справе Юрыя Захаранкі. Ведаеце, у любым выпадку, следчы быў абавязаны выкарыстаць усе магчымасці для допыту Юрыя Гараўскага, які прызнаўся ў забойстве і прадставіў свае доказы. Тым больш, што ўрад Швейцарыі яму б у гэтым не перашкаджаў. Атрымліваецца, што следству паказанні Юрыя Гараўскага не патрэбныя. Рашэнне следства яшчэ раз пацвердзіла, што пры гэтай уладзе ніхто не будзе праводзіць аб'ектыўнае расследаванне. Маглі б хоць бы правесці прэс-канферэнцыю і сказаць, што паказанні Юрыя Гараўскага не пацвердзіліся. Справы аб гвалтоўных выкраданнях міністра МУС Юрыя Захаранкі, віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага і журналіста Дзмітрыя Завадскага будуць зноў ляжаць у сейфе ў Вараўкі, а міліцыя будзе раз на год складаць рапарт, што прыклалі ўсе намаганні знайсці злачынцаў, але не змаглі.

Былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, які пасля адстаўкі спрабаваў аб'яднаць былых і дзеючых афіцэраў сілавых структур, стаў першай ахвярай «эскадронаў смерці». Палітыка выкралі 7 траўня 1999 года побач з уласным домам...

Толькі 17 верасня 1999 года ўзбуджана справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага артыкулам 101 Крымінальнага кодэкса. Сведкі выкрадання, якія былі знойдзеныя не следчымі органамі, а грамадскай камісіяй па пошуку зніклага генерала, сцвярджаюць, што Захаранка быў гвалтоўна вывезены некалькімі мужчынамі.

Адведзеныя законам на расследаванне 15 гадоў скончыліся 7 траўня 2014 года, таму справа аб знікненні былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі падлягае спыненню па тэрмінах даўнасці.

1 жніўня 2016 года Мінскі гарадскі суд адмовіў у задавальненні скаргі 92-гадовай Ульяны Захаранкі, маці экскіраўніка МУС Юрыя Захаранкі, аб прызнанні сына памерлым. На працягу 13 гадоў гэтым жа займаецца і жонка зніклага палітыка Вольга Захаранка.

Апошні раз расследаванне прыпынялася ў снежні 2018 года.

Расследаванне справы было адноўлена 18 снежня мінулага года — на другі дзень пасля выкрывальных прызнанняў Юрыя Гараўскага.

Папярэдняе расследаванне па справе аб знікненні Юрыя Захаранкі падоўжанае да 18 лютага 2020 года.

**Паводле belprauda.org, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не было б шчасця...

Сяргей САЛАЎЁЎ

**...Дык гора дапамагло. Гэта можна сказаць пра вынікі тыдня — тыя, якія не тычацца (альбо не вельмі тычацца) каронавіруса. Так, ёсць у нас і збольшага суцяшальныя навіны.**


Фота www.neg.by

Нагадаем, што праблема ў нас не толькі ў распаўсюдзе заразы. Ад пачатку года беларускія ўлады чухалі патыліцу, дзе ўзяць нафту для нашых нафтаперапрацоўчых заводаў. У гэтым плане «дысконт» АПЕК, якія пачалі збіваць цэны на сыравіну, стаўся сапраўдным падарункам. Рынкавая вартасць нафты ўпала да 27 долараў за барэль, і на гэтым фоне Расія хуценька прыняла рашэнне аднавіць пастаўкі нафты на беларускія НПЗ.

Кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Расіі перамаўляліся па тэлефоне па гэтым пытанні і «адзначылі дасягненне прынцыповых дамоўленасцяў па параметрах супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў у нафтавай сферы, якія дазволяць забяспечыць пастаўку расійскіх вуглевадародаў на беларускія НПЗ у поўным аб'ёме». Пагадзіцеся, гучыць гэта так, быццам Беларусь зрабіла ласку, пагадзіўшыся ўзяць у перапрацоўку расійскую нафту.

Праўда, некаторыя яшчэ варушацца. ТАСС са спасылкай на неназванага прадстаўніка «Раснафты» распаўсюдзіў яго заяву пра тое, што рашэнне аб аднаўленні паставак нафты ў Беларусь «Раснафтай» прынята на ўмовах прэміі 5 долараў за тону да цаны, якую прапаноўвала кампанія. Праўда, крыніца не паведаміла, у якія тэрміны і ў якіх аб'ёмах будзе ажыццяўляцца гэтая пастаўка.

Гэтая заява, напэўна, адкінула «Раснафту» ў самы канец спісу прэтэндэнтаў на кантракт з Беларуссю. Прэм'ер Сінявокай Сяргей Румас адрэагаваў жорстка. Паводле яго слоў, пастаўкі расійскай нафты ў Беларусь будуць ажыццяўляцца па цэнах, якія не прадугледжваюць выплату прэміі расійскім нафтагазавым кампаніям.

«Беларусь з канца мінулага года вяла перамовы аб тым, што нафта для перапрацоўкі на нашы заводы расійскімі кампаніямі павінна пастаўляцца без прэміі. Мы дасягнулі дамоўленасці з расійскім урадам, што ўсе расійскія кампаніі змогуць пастаўляць нафту без прэміі», — сказаў Румас.

Ён нагадаў, што раней прэмія для расійскіх пастаўшчыкоў нафты складала 11,7 долара. 3 гэтай прэміі 7 долараў зніжаюць кампаніі. А рэшта ў 4,7 долара будзе ўрэгуляваная міжбюджэтнымі разлікамі. То-бок урад Расіі возьме яе аплату на сябе.

А ўвогуле заяўкі на пастаўку нафты на беларускія НПЗ на другі квартал падалі аж восем расійскіх кампаній. І таму выбіраць ёсць з каго. У першую чаргу, адзначыў Румас, Беларусь абярэ тых, хто дапамог з пастаўкамі нафты ў першым квартале або прапануе больш выгадныя ўмовы ў параўнанні з іншымі пастаўшчыкамі. «Гэта кампаніі Гуцырыева, невялікія кампаніі. Ім пры іншых роўных умовах будзе аддадзены безумоўны прыярытэт... І яшчэ далёка не факт, што «Раснафта» апынецца ў ліку пастаўшчыкоў», — заявіў Румас.

Адзінае, над чым варта падумаць, — гэта спрадвечнае пытанне «беларускай эканамічнай мадэлі». Ужо неаднаразова казалася, што цяпер важна не ствараць прадукцыю, а прадаць яе. І вялікае пытанне, па якіх коштах і каму мы прададзім тое паліва, што выйдзе ў выніку з нашых НПЗ, — асабліва ва ўмовах крызісу авія- і аўтаперавозак.

Тым не менш, ва ўрадзе палічылі абнадзейваючым факт таго, што пастаўшчыкі нафты сабраліся да нас у чаргу, і пачалі задумвацца наконт мераў дзяржпадтрымкі, якую трэба было б аказаць тым ці іншым галінам гаспадаркі і бізнесу на фоне запаволення росту эканомікі з-за пандэміі каронавіруса. Як паведаміў першы віцэ-прэм'ер Дзмітрый Крутой, цяпер улады аналізуюць меры падтрымкі, прынятыя ў іншых краінах, а таксама магчымую шкоду эканоміцы Беларусі з тым, каб вызначыцца, чым і як дапамагчы, і ці дапамагчы ўвогуле. Будуць, напэўна, улічаныя і прапановы бізнес-саюзаў, пра якія ўжо пісалася.

«Там вельмі вялікі спіс (прапаноў). Плюс мы глядзім тыя рашэнні, якія прынятыя еўрапейскімі краінамі, Расіяй, ЗША. Паглядзім, можа быць, нешта цікавае з гэтых дакументаў для сябе возьмем», — дадаў першы віцэ-прэм'ер.

Пакуль жа сярод захадаў для стымулявання дзелавой актыўнасці — рэкамендацыі Нацбанка камерцыйным банкам увесці «крэдытныя канікулы», а Міністэрства па падатках і зборах Беларусі разглядае магчымасць прадастаўлення падатковых вакацый прадпрыемствам.

Яшчэ адна навіна не можа не цешыць. Чэмпіянат свету па хакеі з шайбай 2020 года ў Швейцарыі адменены. Адпаведнае рашэнне апублікавала прэс-служба Міжнароднай федэрацыі хакея на лёдзе (IIHF). Як адзначаецца ў дакуменце, рашэнне было прынятае пасля абмеркавання з усімі зацікаўленымі бакамі ў сувязі з пандэміяй каронавіруса.

Чаму навіна ўсцешвае? Таму што раней разглядалася магчымасць перанесці ЧС–2020 у іншую краіну, а мы ведаем, як да зімовых відаў спорту ставіцца наш правадыр. Яшчэ не паспела забыцца сітуацыя з прыездам да нас чэмпіянату па біятлоне — у поўную адсутнасць снегу. А федэрацыя хакею ўсур'ёз абмяркоўвала пытанне аб пераносе турніру ў Беларусь. Але адмовілася ад гэтай ідэі. Гэта ж колькі грошай мы зэканомілі!

Па прагнозах адмыслоўцаў, пандэмія каронавіруса можа працягнуцца год альбо два. Пандэмія — гэта, канешне, кепска. Але пад пытаннем пакуль што застаецца і наступны ЧС па хакеі, які павінен прайсці ў Беларусі і Латвіі ў наступным годзе. Тут ужо не ведаеш, што і думаць: ці маліцца пра спыненне каронавіруса, ці пра тое, каб ён патрываў яшчэ крышачку.

А пакуль уся краіна сыходзіць у добраахвотны каранцін, самымі трывалымі салдатамі застаюцца 110 беларускіх дэпутатаў парламента. 2 красавіка павінна пачацца сесія Палаты прадстаўнікоў, і пра яе адмену пакуль не паведамлялася. Дый як можна яе адмяніць, калі першым (і, падаецца, галоўным) яе пытаннем будуць... Не, нават не прэзідэнцкія выбары. Нашы дэпутаты павінны ратыфікаваць пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі з Еўрасаюзам.

Па словах кіраўніка Пастаяннай камісіі па міжнародных справах ППНС Андрэя Савіных, якога мы стала ведаем як прэс-сакратара МЗС, гэтае пагадненне «будзе ратыфікавана ў прыярытэтным парадку. Гэта будзе 2, максімум 3 красавіка».

Калі парламент ратыфікуе гэтае пагадненне, кошт Шэнгенскай візы для беларусаў знізіцца да 35 еўра. І, калі эпідэмія пойдзе на спад, ЕС пачне адкрываць межы, пагадненне набудзе моц, што дазволіць грамадзянам Беларусі атрымліваць таннейшыя візы.

Дзеля гэтага варта рызыкнуць здароўем!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Павел Сцяцко



**Пайшоў з жыцця доктар філалагічных навук, прафесар Павел Сцяцко. 5 сакавіка ён адзначыў 90-годдзе. Яго называлі «галоўным змагаром з русіфікацыяй беларускай мовы».**

Павел Сцяцко нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Грабава Зэльвенскага раёна. Скончыў літаратурны факультэт, аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Гродзенскага педагагічнага інстытута. Абараніў кандыдацкую дысертацыю пра лексіку гаворак Зэльвенскага раёна.

Выкладаў у Мінскім педагагічным інстытуце на кафедры беларускай мовы. Загадваў кафедрай рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пазней працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце на кафедры польскай філалогіі, з ліпеня 1990 года ўзначаліў кафедру беларускай культуры.

Аўтар звыш 600 кніг і навуковых артыкулаў, манаграфій «Антрапонімы Беларусі», «Слоўнік прозвішчаў Гарадзеншчыны». У ягоным дробку ўнікальны «Дзярэчынскі слоўнік», прысвечаны гаворцы аднайменнага мястэчка на Зэльвеншчыне.

## Івонка Сурвіла



**Старшыня Рады БНР звярнулася да суродзічаў з нагоды гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Тэкст звароту апублікаваны на фэйсбук-старонцы Рады БНР.**

«Ад імя Рады БНР віншую кожнага з вас, у Беларусі і дзе бы вы ні знаходзіліся ў свеце, з нашым светлым нацыянальным святам. Незалежнасць абвясцілі продкі ўсіх нас, перад тым як акупанты пачалі дэнацыяналізаваць наш народ, — піша Сурвіла. — У 2019 годзе мы ўсе перажылі вялікае шчасце, бачачы мора бел-чырвона-белых сцягоў на вуліцах Вільні, падчас пахавання Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў-змагароў. Усім, хто спрычыніўся да гэтага слаўнага дня, хачу сёння яшчэ раз падзякаваць з глыбіні душы».

Прыгадаўшы гэта, Івонка Сурвіла адзначыла, што «на жаль, пасля радасці прыйшлося перажыць вялікую трывогу, калі Пуцін намагаўся захапіць наш край. Дай Божа, каб гэта ўсё толькі было страшным кашмарам, які мы мусілі перажыць, каб усвядоміць сабе вартасць для кожнага з нас незалежнасці нашай дзяржавы».

«Хочацца думаць, што людзі нашыя, а менавіта нашая моладзь, адчула, што незалежнасць вартая таго, каб мы яе баранілі ўсе, кожны як можа, шчыльнымі радамі, — завяршае свой зварот Івонка Сурвіла. — Памятайце, што вас будуць паважаць у свеце і з вамі лічыцца, толькі калі нашая дзяржава зойме пачэснае месца ў сям'і вольных народаў свету».

## Аляксандр Глеб



**Знакаміты беларус-футбаліст, экс-паўабаронца «Арсенала» і «Барселоны» Аляксандр Глеб заявіў, што ён — на самаізаляцыі. Але заклікаў не хваляваціся.**

«Я разумею, што цяпер няпростыя часы і кожная навіна пра каронавірус выклікае і хваляванне, і вялікую цікавасць. Я ўжо выказаўся з гэтай нагоды, але вымушаны яшчэ раз гэта зрабіць, звярнуўшыся ў першую чаргу да журналістаў, якія, на жаль, дзеля гучных загалоўкаў гатовыя пайсці на скажэнне сэнсу ўсяго інтэрв'ю!» — абурыўся Глеб.

Гаворка ідзе пра яго інтэрв'ю для The Sun, у якім ён выказаў сваё меркаванне наконт сітуацыі з каронавірусам у Беларусі. Глеб пацвердзіў, што ён на самаізаляцыі, «і ў нашай краіне дазволена гэта зрабіць тым, хто рэальна бачыць у гэтым неабходнасць», але пры гэтым у інтэрв'ю ён сказаў, што «калі Адміністрацыя прэзідэнта не бачыць рэальнай неабходнасці сыходзіць краіне на каранцін, значыць, сітуацыя знаходзіцца пад кантролем».

«Я супраць якой-небудзь панікі. Пра наведванне футбольных матчаў — тут ужо кожны сам вырашае. Нашы футбалісты без панікі выходзяць на поле і гуляюць. Сярод іх мноства маіх знаёмых і, калі наступіць рэальная пагроза іх здароўю, здароўю гледачоў, я ўпэўнены, матчы спыняцца», — напісаў ён у Instagram. А таксама звярнуўся да журналістаў з просьбай «не нараджаць сенсацыю там, дзе яе няма».

# «Не ведаю, ці дачакаюся

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У судзе Фрунзенскага раёна Мінска днямі завяршыўся масавы працэс аб збыце наркотыкаў, па справе праходзілі 13 чалавек. У рэдакцыю «Новага Часу» звярнулася маці аднаго з падсудных, каб распавесці пра тое, што адбывалася за дзвярыма закрытых судовых пасяджэнняў.**



**Нават запрошаныя на працэс аналітыкі сумняваліся ў тым, што маладыя людзі дзейнічалі ў складзе арганізаванай групы. Безумоўна, маладзёнаў варта было пакараць, «каб не лезлі, куды не трэба, і думалі», але не такімі тэрмінамі**

Як распавяла спадарыня Ірына, яе сына і яшчэ 12 чалавек судзілі паводле 4-й часткі 328 артыкула Крымінальнага кодэкса. Іх абвінавачвалі ў збыце наркатычных рэчываў у складзе арганізаванай злачыннай групы (АЗГ). Але, як сцвярджае жанчына, большасць з падсудных не ведалі адзін аднаго да суда.

### «Б'юць прафесійна — ныркі, печань, селязёнка...»

— Людзей пахапалі ў Мінску, Мінскім раёне, Жодзіне — іх проста сабралі і падаюць гэта так, нібыта яны разам працавалі. Адзінае, там здымалі жыллё разам дзве пары (хлопцы з дзяўчатамі), і яшчэ двое хлопцаў. Астатнія — адзіночкі, — распавяла жанчына.

Яна мае падазрэнне, што на лаву падсудных трапілі і выпадковыя людзі.

— Кагосьці затрымлівалі напрыканцы 2018 года, кагосьці ў лютым 2019 года, кагосьці ў сакавіку 2019-га. З некаторымі праводзілі аператыўны эксперымент: чалавека затрымалі з наркотыкамі, узялі яго тэлефон і з яго акаўнта пачалі правакаваць людзей. Чалавек сем па гэтым эксперыменце прыцягнулі. Пасля затрымання сына нават мне сталі прыходзіць СМС: «Хочаш зарабляць ад 150 долараў на дзень?».

Жанчына тлумачыць, што падчас эксперыментаў аператыўнікі робяць фальшывыя закладкі: у пакеты насыпаюць муку, пясок, хаваюць іх і недалёка ад хованкі чакаюць чалавека, які «клюнуў» на прынаду. Калі ён прыходзіць, яго затрымліваюць. Пасля небарака трапляе на лаву падсудных — і яму прад'яўляюць абвінавачванне, нібыта ён браў сапраўдныя наркотыкі, а не муляж.

Па словах Ірыны, з фігурантаў справы выбівалі прызнанні. Адзін хлопец пасля такога допыту трапіў у траўматалогію, другі — у хірургічнае аддзяленне, і потым сказаў маці, што за шклянку вады падпісаў усё, што яны хацелі. Таксама падсудныя казалі, што іх запалохвалі, забаранялі казаць пра збіццё.

— Майго сына білі. Б'юць прафесійна — ныркі, печань, селязёнка — так, каб не было сінякоў. Але ён не мог ім нічога сказаць, бо нічога не ведаў, — распавяла суразмоўца. — Хлопцы расказвалі, што адзявалі пакет на галаву — душылі. Ёсць яшчэ адно катаванне — я нават не ўяўляю, як гэта адбываецца — бутэльку ў рот пхаюць.

Сына Ірыны затрымалі з сябрам у Мінскім раёне, дзе яны здымалі пакой. Трое сутак яна не ведала, дзе знаходзілася яе дзіця і што з ім адбывалася. З сакавіка малады чалавек пад следствам. Яго нават не адпусцілі на развітанне са старэйшым братам, якога не стала летась у жніўні.

Жанчына звяртае ўвагу: з моманту затрымання прайшоў амаль год, на судзе сведкі-аператыўнікі выдатна памяталі, колькі пакункаў з забароненым рэчывам, якіх колераў і памераў яны бачылі, але не могуць узгадаць нічога пра затрыманых: у якім становішчы яны знахозіліся, ці былі збітыя.

— Тыя аператыўнікі за гэты час сталі займаць больш высокія пасады: начальнік аддзела, намеснік начальніка аддзела. З раёна многіх перавялі ў Мінск. Яны раскруцілі вялікую справу і атрымалі свае званні і «зоркі», а тое, што справа не вытрымлівае ніякай крытыкі, іх не хвалюе, — абураецца жанчына.

**Сярод затрыманых маладых людзей, так званай арганізаванай злачыннай групы, толькі некалькі чалавек ведаюць адзін аднаго. Большасць з іх убачыліся ўпершыню на судзе. У абвінавачванні былі распісаныя ўсе іх функцыі, але яно грунтавалася выключна на меркаваннях**

Па яе словах, шмат пытанняў і да іншых сведак: адзін з пятага паверха ўбачыў, што нейкі чалавек ля слупа закапаў пяцісантыметровы скрутак. Праўда, быў гэта мужчына ці жанчына — не ўбачыў. Другі сцвярджаў, што спалохаў групу маладзёнаў, якія шукалі нешта ў снезе, пасля сам знайшоў нейкую трубачку. Праўда, быў упэўнены, што гэта адбылося ў дзень нараджэння яго зяця — 24 лютага, а ў пратаколе апытання ўказана, што 18-га.

Ірына распавядае, што абвінавачванне ў працэсе спрабавала паказаць, нібыта фігуранты справы ведалі адзін аднаго, і кожны з іх выконваў сваю функцыю. Да АЗГ іх аднеслі на той падставе, што раней у Кіеве затрымалі «вярхушку» інтэрнэт-крамы, якая распаўсюджвала забароненыя рэчывы. Але гэта яшчэ не значыць, што фігуранты справы дзейнічалі ў складзе групы. Яны прызнаюць, што працавалі на гэтую краму, але кожны — аўтаномна. У матэрыялах справы няма ніякіх пацвярджэнняў і сведчанняў адваротнага, затое вельмі шмат "неўстаноўленых" асобаў і месцаў. Адзін з супрацоўнікаў аддзела аналітычнай разведкі, які працаваў з кожным фігурантам і таксама выступаў сведкам у працэсе, сам заявіў, што няма падстаў судзіць маладых людзей па чацвёртай частцы «наркатычнага» артыкула.

— Ён сказаў пракурору: «А што вы так перажываеце? Ну асудзяць па трэцяй частцы — ад 6 да 15 гадоў». Але ім начальства загадала ўсіх па чацвёртай частцы судзіць, хаця там яе няма. Можа, у іх план быў на 2019 год — колькі павінна быць асуджана па гэтай частцы?.. Чаму ў нашай краіне чалавек ад пачатку лічыцца вінаватым, і ён павінен даказаць адваротнае, хаця паводле прэзумпцыі невінаватасці так быць не павінна? Паралелі з 1937 годам, калі людзі падпісвалі сабе смяротныя прысуды і даносілі на іншых, — рэзюмуе жанчына.

Яна разважае пра тое, што на лаве падсудных маладыя людзі аказваюцца не ад добрага жыцця. Так, яе сын паўгода не мог знайсці працу. Апошняй кропляй сталі фінансавыя праблемы сябра, які казаў, што накладзе на сябе рукі, бо мае шмат пазык. Сын Ірыны пагадзіўся дапамагчы таварышу. Усё яго «злачынства» — гэта некалькі фатаграфій гарадскога асяроддзя, якія ён зрабіў на свой тэлефон. За гэта яму пагражала ад 10 да 20 гадоў пазбаўлення волі.

**Непаўналетнія, асуджаныя за незаконны абарот наркотыкаў**

арт. 328 КК




- ч.1 — 23 асобы
- ч. 2 — 2 асобы
- ч. 3 — 23 асобы
- ч. 4 — 4 асобы

**Меры крымінальнага пакарання**

арт. 328 КК




- 31 асоба (59,6 %) пазбаўленне волі
- 8 асобаў (15,4 %) адтэрміноўка выканання пакарання
- 10 асобаў (19,2%) абмежаванне волі
- 2 асобы (3,9 %) умоўнае непрымяненне пакарання
- 1 асоба (1,9 %) вызваленне ад пакарання

Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь www.court.gov.by

# сына»



— Я разумею, калі чалавек вінаваты, няхай ён адкажа за гэта, калі парушыў закон. Хай панясе пакаранне за тое, што зрабіў, але не за чыюсьці пасаду ці кватэру. Я лічу, што няправільна рабіць так, як робяць нашы супрацоўнікі органаў унутраных спраў, — перакананая суразмоўца.

Родныя падсудных абураюцца тым, што адбывалася падчас следства і ў ходзе судовых пасяджэнняў. У прыватных размовах маці падсудных кажуць, што яшчэ шмат чаго могуць распавесці, але ва ўмовах, калі правасуддзе далёкае ад справядлівасці, а супрацоўнікі сілавых структур часта перавышаюць паўнамоцтвы і адчуваюць сябе беспакаранымі, яны баяцца называць імёны і казаць пра падрабязнасці справы. Да таго ж некаторыя катэгарычна супраць асвятлення працэсу ў СМІ, паколькі баяцца агалошвання.

— Мне 55 гадоў, і я не ведаю, ці дачакаюся свайго сына. Але вы абавязкова напішыце, што я прашу ў Госпада даць здароўя ўсім апаратыўнікам, следчым, тым, хто катаваў майго сына і іх дзецям. Але таксама прашу, каб яны прайшлі праз тое, праз што праходжу я. І хай яны ведаюць — гэта будзе, мацярынская малітва вельмі моцная. Ёсць суд чалавечы, а ёсць — Божы, — скрозь слёзы кажа Ірына.

### «Ёсць інфармацыя, што сын ляжаў у траўматалогіі»

Маці яшчэ аднаго фігуранта справы, Валянціна, распавядае, што яе сына затрымалі падчас эксперыменту. Яго ўзялі з муляжом і пры затрыманні моцна збілі.

— Яго справакавалі — і прад'явілі чацвёртую частку. Адвакат у нас бясплатны, бо я не ў сілах аплачваць, але і яна прасіла, каб замянілі на першую частку, паколькі гэта быў эксперымент. А пракурор запрасіла 11 гадоў. Гэта вельмі вялікі і несправядлівы тэрмін.

Жанчына выхоўвала дзяцей адна — яе мужа забілі. Яна кажа, што калі нехта з блізкіх доўга не выходзіць на сувязь, у яе пачынаецца паніка і яна абтэлефаноўвае шпіталі, моргі, міліцыю... Так яна даведалася пра затрыманне сына.

— Цяпер ім амаль па 30 гадоў, і калі ўлічыць тэрміны, якія для іх просяць, кім яны выйдуць? У іх ні будучыні, нічога. Нашы дзеці трапляюць у гэта не дзеля сябе ці сваёй выгады, а праз жаданне дапамагчы іншым, — разважае Валянціна.

Па яе словах, нават запрошаныя на працэс аналітыкі сумняваліся ў тым, што маладыя людзі дзейнічалі ў складзе арганізаванай групы. Безумоўна, маладзёнаў варта было пакараць, «каб не лезлі, куды не трэба, і думалі», але не такімі тэрмінамі.

— Мой сын ішоў на закладку разам з адным хлопцам — той быў за кампанію. Іх затрымалі разам, але таго хлопца пасля трох сутак выпусцілі — ён быў як чорны яблык ад збіцця. І калі мы спыталі, як выглядае наш Андрэй, ён сказаў, што ў яго прабітая галава. У нас ёсць інфармацыя, што ён ляжаў у траўматалогіі, але дакументальна пацвердзіць гэта мы не можам, паколькі пракурор адмовілася дасылаць туды запыт.

Сына Валянціны затрымалі год таму, і за час знаходжання пад вартай у яго былі праблемы са здароўем — балелі зубы, але ўрача да яго так і не выклікалі. Таксама адмаўляліся прымаць некаторыя лекі і гігіенічныя сродкі.

Валянціна не апраўдвае тых, хто трапляе на лавы падсудных праз наркотыкі, але перакананая, што маладыя людзі ідуць на гэта праз адсутнасць годных заробкаў. У гэтым ёсць і віна кіраўніцтва дзяржавы, кажа жанчына.

### Адвакат: Абвінавачванне будавалася выключна на меркаваннях

«Новаму Часу» ўдалося паразмаўляць з адным з адвакатаў, які ўдзельнічаў у працэсе. Паводле яго словаў, абвінавачванне, якое выстаўляла фігурантам пракурор, празмернае. У матэрыялах крымінальнай справы адсутнічаюць доказы складу часткі чацвёртай артыкула 328 Крымінальнага кодэкса.

Праваахоўнікі ўстанавілі інтэрнэт-крамы, якія арганізуюць збыт наркатычных сродкаў на тэрыторыі нашай краіны. Але кіраўніцтва гэтых крамаў звычайна знаходзіцца за межамі. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі кур'ераў, якія знаходзяцца на канцы ланцужка. Звычайна гэта выпадковыя маладыя людзі, без жыццёвага вопыту, якія праз сваю няўважлівасць пагаджаюцца на прывабныя прапановы працы. Мала хто з іх ведае пра адказнасць паводле дзвюх частак артыкула 328: 3-й — за збыт і 4-й — за збыт у складзе арганізаванай злачыннай групы. У першым выпадку пакаранне ад 6 да 15 гадоў, у другім — ад 10 да 20.

Па словах адваката, практыка прыцягнення дробных кур'ераў да адказнасці бывае вельмі неадназначнай: усё залежыць ад канкрэтных абставін, кваліфікацыі здзейсненага, здабытых доказаў, асобы абвінавачанага і гэтак далей.

Асаблівасць сітуацыі ў тым, што сярод затрыманых маладых людзей, так званай арганізаванай злачыннай групы, толькі некалькі чалавек ведаюць адзін аднаго. Большасць з іх убачыліся ўпершыню на судзе. У абвінавачванні былі распісаныя ўсе іх функцыі, а таксама функцыі неўстаноўленых арганізатараў. Але яно грунтавалася выключна на меркаваннях, а матэрыяламі справы не пацвярджалася. Усе фігуранты справы прызналі віну, але не ў тым аб'ёме, які ім прад'яўляўся, кажа адвакат.

— Калі яны паедуць адбываць пакаранне ў папраўчую калонію, то будуць там мець зносіны з іншымі асуджанымі, у тым ліку з сапраўднымі злачынцамі. І доўгі час знаходжання ў такіх установах ім на карысць не пойдзе, — падсумоўвае юрыст.

### «Гэта проста канвеер. Маштабы страшныя»

Прысуд па справе быў абвешчаны 23 сакавіка.

— Гэта проста страшна, не ведаю, што вам сказаць, — паведаміла Ірына. — Прыяцелю сынаваму далі 9 гадоў, і сыну майму 9, а прасіла пракурор 13 па 4-й частцы. Але далі па 3-й частцы. Па ёй планка пачынаецца ад 6 гадоў, і столькі б яму далі ў любым выпадку, бо хоць і невялікая яго віна, але ёсць. Але чаму майго сына прывязалі да яго прыяцеля, калі ў матэрыялах справы няма таго, за што яго пакаралі?

Ірына мае намер падаваць апеляцыю на прысуд.

Па яе словах, вялікія тэрміны далі ўсім фігурантам, нават 16-гадовы атрымаў 6 гадоў калоніі (але, паколькі ён непаўнагадовы, два гады скасавалі). Самы вялікі тэрмін па 4 частцы атрымаў адзін фігурант, яму прызначылі пакаранне ў 13 гадоў зняволення. 18-гадовай дзяўчыне, якая з ім жыла, далі 9 гадоў. Сыну іншай суразмоўцы «Новага Часу», Валянціны, для якога пракурор прасіла 11 гадоў, далі 8.

— Запрасілі «Зону-Х», яны здымалі, хаця бацькі абураліся, бо першапачаткова здымкі забаранілі, пасяджэнне было закрытае. Але ім напляваць.

Па словах Ірыны, суддзя вельмі спяшалася абвясціць прысуд, паколькі ў яе на разглядзе ўжо знаходзіцца новая справа, таксама па 4-й частцы 328 артыкула.

— Разумееце, гэта проста канвеер. Маштабы страшныя. Я не разумею, дзеля чаго гэта. Маладыя людзі, ім жаніцца, дзяцей нараджаць... А іх гэтага ўсяго пазбавілі цяпер. У нас што, насельніцтва шмат? Вельмі хацелася б папярэдзіць моладзь, каб не хадзілі па парках, не падкідвалі каменьчыкі нагамі — бо іх (маладзёнаў. — НЧ.) возьмуць, скажуць, што падымалі закладку. Калі сыну я ўжо не магу дапамагчы, то хоць іншаму дзіцяці.

### Звесткі за 2019 год пра злачынствы, звязаныя з незаконным абаротам наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў

У Рэспубліцы Беларусь у 2019 годзе ў параўнанні з 2018 годам знізілася колькасць асуджаных паводле артыкулаў 327–332 КК на 6,9% (з 2 452 да 2 284). Пры гэтым колькасць непаўналетніх, асуджаных за злачынствы, звязаныя з незаконным абаротам наркатычных сродкаў, зменшылася на 14,8% (з 61 у 2018 г. да 52 у 2019 г.).

У 2019 годзе асуджаныя паводле артыкулаў 327–332 КК за ўчыненне злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў, 2 284 асобы, або 5,9% у агульным аб'ёме правасуддзя (у 2018 г. — 2 452 асобы, або 6,04%).

З указаных 2 284 асобаў значная частка — 2 191 асоба, або 95,9% — асуджаныя паводле артыкула 328 КК (у 2018 г. — 2 367 асобаў, або 96,5%). Зніжэнне судзімасці паводле артыкула 328 КК у 2019-м склала 7,4% у дачыненні да 2018 года.

Колькасць асуджаных паводле часткі 1 артыкула 328 КК у 2019 годзе знізілася да 1 551 асобы і склала 70,8% ад колькасці ўсіх асуджаных паводле артыкула 328 КК (у 2018 г. — 1 650 асобаў, або 69,7%).

З гэтай колькасці большая частка — 892 асобы (57,5%) — асуджана да пакарання ў выглядзе абмежавання волі, 354 асобам (22,8%) прызначаныя розныя тэрміны пазбаўлення волі (у 2018 годзе — 922 асобам (55,9%) і 430 асобам (26,1%) адпаведна).

Колькасць асуджаных паводле часткі 1 артыкула 328 КК з адтэрміноўкай выканання пакарання і ўмоўным непрымяненнем пакарання (артыкулы 77 і 78 КК) у 2019 годзе склала 19,1%, або 296 асобаў (у 2018 годзе — 17,3%, або 285 асобаў).

Колькасць непаўналетніх, асуджаных за незаконны абарот наркотыкаў без мэты збыту, знізілася з 32 да 23 асобаў. З іх у дачыненні да 9 асобаў (39,1%) прыменена адтэрміноўка выканання пакарання і ўмоўнае непрымяненне пакарання, 10 непаўналетнім (43,5%) прызначана абмежаванне волі, у дачыненні да 3 асобаў (13%) ужытае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі і 1 падлетак вызвалены па прыгаворы ад пакарання па амністыі і іншых падставах.

Колькасць асуджаных паводле частак 2–5 артыкула 328 КК у 2019 годзе знізілася на 77 чалавек і склала 640 асобаў, або 29,2% ад колькасці ўсіх асуджаных паводле артыкула 328 КК (у 2018 годзе — 717 асобаў або 30,3%).

Пры гэтым асуджана:

- паводле часткі 2 артыкула 328 КК — 124 асобы (у 2018 г. — 139 асобаў);
- паводле часткі 3 артыкула 328 КК — 455 асобаў (у 2018 г. — 487 асобаў);
- паводле часткі 4 артыкула 328 КК — 61 асоба (у 2018 г. — 87 асобаў);
- паводле часткі 5 артыкула 328 КК — не асуджаліся (у 2018 годзе — 4 асобы);

Пазбаўленне волі паводле частак 2–5 артыкула 328 КК прызначанае 638 асобам, або 99,7% (у 2018 г. — 709 асобам, або 98,9%).

За здзяйсненне збыту наркотыкаў (паводле часткі 2 артыкула 328 КК) 1 асоба асуджаная з адтэрміноўкай выканання пакарання і 1 асоба асуджаная з умоўным непрымяненнем пакарання.

Колькасць асуджаных непаўналетніх за незаконны абарот наркотыкаў з мэтай збыту ў параўнанні з 2018 годам павялічылася на 11,5% (29 у 2019 г. супраць 26 у 2018 г.).

Паводле артыкула 328 КК 1 непаўнагадовы апраўданы.

«Новы Час» пачынае публікацыю рэтраспектыўнага цыклу артыкулаў пра 1990-я гады ў нашай гісторыі паводле архіваў, тагачаснай прэсы і ўспамінаў відавочцаў. Нехта называе іх ліхімі, хтосьці — поўнымі свабоды і надзеі. У любым выпадку, гэта вельмі цікавы перыяд з процьмай падзеяў. І шмат таго, што адбываецца цяпер, мае карані ў 90-х гадах. Багата і паралеляў.

# Першы прэзідэнт Нелукашэнка

Кірыла ПАЗНЯК

Першага прэзідэнта беларусы займелі зусім не ўлетку 1994 года, а ўвесну 1990-га. 30 гадоў таму ў СССР з'явілася пасада прэзідэнта. Што праўда, ненадоўга: яна знікла разам са сконам Савецкага Саюза. Абіраць першага савецкага прэзідэнта павінны былі па законе ўсенародна, але ў выніку гэта зрабілі саюзныя дэпутаты, сярод якіх было і некалькі дзясяткаў беларусаў. Многія іх прозвішчы вам добра вядомыя.




**Народныя абраннікі з Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы (гэта была першая легальная парламенцкая апазіцыя ў СССР) не галасавалі, бо былі абураныя тым, што прэзідэнт абіраецца, лічы, кулуарна, а не ўсімі грамадзянамі краіны**

**1989. Перадвыбарчы мітынг у Мінску.** Фота www.vytoki.net

### Не ўсенародны

У законе аб заснаванні пасады прэзідэнта СССР казалася, што яна ўводзіцца «дзеля забеспячэння далейшага развіцця глыбокіх палітычных і эканамічных пераўтварэнняў, умацавання канстытуцыйнага ладу, правоў, свабодаў і бяспекі грамадзян, паляпшэння ўзаемадачыненняў вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання». Карацей, пасада была адной з прыяваў Перабудовы. Прэзідэнтам мог стаць грамадзянін ад 35 да 65 гадоў. Абмежаванне па ўзросце павінна было прадэманстраваць, што на чале СССР больш не акажуцца пажылыя нямоглыя функцыянеры. Прасунута выглядала і абмежаванне прэзідэнцтва для адной асобы двума тэрмінамі па 5 гадоў: звычайна ў СССР (за рэдкім выключэннем) яго лідары паміралі на кіроўных пасадах. Нарэшце, прэзідэнт Савецкага Саюза павінен быў абірацца «на падставе ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры таемным галасаванні».

Але адразу ж ад гэтага пункту закона адступілі, каб у якасці выключэння першага прэзідэнта абраць не ўсенародна, а на З'ездзе народных дэпутатаў СССР. Можна спрагназаваць, што, каб СССР не распаўся, то ўсенародных прэзідэнцкіх выбараў магло б не адбыцца ўвогуле ніколі, або норма пра два тэрміны была б скасаваная. Як, напрыклад, гэта аўтарытарна адбылося ўжо ў незалежнай Беларусі.

На З'езд народных дэпутатаў СССР на прэзідэнта былі вылучаныя тры кандыдатуры — Міхаіла Гарбачова, генеральнага сакратара Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі СССР (іншых партыяў і не было) і старшыні Вярхоўнага Савета, які быў кіраўніком краіны, а таксама Мікалая Рыжкова і Вадзіма Бакаціна.

Двое апошніх прадказальна ўзялі самаадводы. Яны былі такімі ж высокапастаўленымі наменклатуршчыкамі, як і Міхаіл Гарбачоў. Мікалай Рыжкоў працаваў тады саюзным прэм'ер-міністрам — ад пачатку Перабудовы з 1985 года. У постсавецкі перыяд займаў розныя дзяржаўныя пасады ў Расіі. У 2014 годзе на пасяджэнні Савета Федэрацыі галасаваў за дазвол прэзідэнту Расіі выкарыстоўваць пры неабходнасці войскі на тэрыторыі Украіны. «Падзеі ва Украіне — сапраўдны бунт. Карычневая чума захапіла ўладу», — заявіў тады Рыжкоў. Вадзім Бакацін у сакавіку 1990 года займаў пасаду міністра ўнутраных спраў СССР. Калі Гарбачоў стаў прэзідэнтам, Бакацін узначаліў Прэзідэнцкую раду. Увосень 1990 года Бакаціна на пасадзе шэфа МУС змяніў Барыс Пуга, што ў жніўні 1991-га стаў удзельнікам путчу, які меў на мэце адхіленне Міхаіла Гарбачова з пасады прэзідэнта СССР і згортванне Перабудовы. Сярод путчыстаў быў і Генадзь Янаеў, які стаў віцэ-прэзідэнтам СССР. Карацей, наменклатура тасавала партфелі міжсобку і гуляла ў закулісныя схемы.


Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ

Орган Центрального Комитета Коммунистической партии Белоруссии, Верховного Совета и Совета Министров БССР

● Основана в августе 1927 года
● ИНДЕКС 63889

● Выходит пять раз в неделю, кроме воскресенья и понедельника, — 250 раз в году

Среда, 27 февраля 1991 года
№ 41 (18122)

● Время подписания номера в печать: по графику — 19.10, фактически 22.00.

● Цена: по подписке — 1 рубль в месяц, при розничной продаже — 10 копеек за номер.
● Тираж 595.000 экз.

## Время требует ответственности и надежности

### Встречи М. С. Горбачева с трудящимися столицы Белоруссии

...ИНСК, 26. (ТАСС). В стра... решаются огромные зада... которые кардинально меня... нашу жизнь. Эту сложную ...боту трудящиеся Белорус... выполняют с большой от...ственностью. Надежные лю... Это сказал Президент ...СР сегодня во время пер... же встречи на территории ...единения «Минский трак...ный завод им. В. И. Лени...

...жегодно здесь производят... 100 тысяч тракторов — ...ть выпускаемых в Совет...м Союзе. Предприятие, ра...ющее на молоко и мясо, ...тошку и хлеб... Короче, на ... стол. Минчане делают это ...оша. Но при осмотре но...шних моделей пропашных ...кторов, машин для ферме..., мотоблоков для приуса...бных участков разговор шел ... только о достоинствах и ...блемах МТЗ. Рабочие, ин...нерно-технические работни... с горечью говорили о нару...нии межхозяйственных свя.... Естественно, не раз бесе...касалась проблем, связан... с ликвидацией последст... Чернобыля.

...минувшую пятницу Вер...ый Совет Белорусской ССР ...ым принял Закон «О со...ьной защите граждан, по...давших от катастрофы на ...обыльской АЭС». В нем

У выніку 15 сакавіка 1990 года на безальтэрнатыўнай аснове першым і, як сталася, апошнім прэзідэнтам Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік быў абраны Міхаіл Гарбачоў. З тых, хто ўзяў удзел у галасаванні, яго падтрымалі 1329 дэпутатаў, супраць прагаласавалі 495. Перамога з 59,2% галасоў — круты плюралізм для СССР на такім уладным узроўні. Гэтая раскладка пацвердзіла слушнасць рашэння савецкага кіраўніцтва не праводзіць усенародных прэзідэнцкіх выбараў. Калі б яны адбыліся, то ў канкурэнтнай барацьбе шанцы Гарбачова на прэзідэнцтва былі б так сабе.

Пры дэпутацкім галасаванні не абышлося без скандалу. Народныя абраннікі з Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы (гэта была першая легальная парламенцкая апазіцыя ў СССР) не галасавалі, бо былі абураныя тым, што прэзідэнт абіраецца, лічы, кулуарна, на З'ездзе народных дэпутатаў, а не ўсімі грамадзянамі краіны. Да фронды належалі і многія дэпутаты-беларусы. Напрыклад, пісьменнікі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, палітыкі Станіслаў Шушкевіч, Аляксандр Дабравольскі, Віктар Карняенка, прыкметныя потым і ў незалежнай Беларусі.

Дзеля чаго спатрэбілася пасада прэзідэнта Міхаілу Гарбачову? Каб умацаваць уладу. Па-першае, у тыя самыя дні ў Канстытуцыі адмяняўся шосты артыкул аб манаполіі кампартыі, якой ён кіраваў. Па-другое, з 1989 года Вярхоўны Савет працаваў на сталай аснове, Гарбачову даводзілася шмат часу знаходзіцца на пасяджэннях. Гэта абцяжарвала кіраванне краінай. Апрача таго, сама па сабе пасада прэзідэнта надавала цывілізаваную аздобу рэформам.


**1989. Перадвыбарчы мітынг у Мінску.** Фота www.vytoki.net

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (163)
(сакавік)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

**lit-bel.org**
**novychas.by**



## Змест



# Вялікі дзень

## За свабоду сваю...

Янка КУПАЛА

*За свабоду сваю*
*Ўсёй душой пастаю;*
*У агонь, у ваду*
*Я за ёю пайду.*

*Лепей сам сябе дам*
*Пахаваці людзям,*
*Як свабоду хаваць,*
*Злыбядзе аддаваць.*

*У сэрцы, ў думках сваіх*
*З самых лет маладых*
*Я яе ўзгадаваў*
*І сваёю назваў...*

*Гэй ты, гэй, вецер, пей*
*Аб свабодзе маей!*
*Гэй ты, гэй, бор, шумі,*
*Аб свабодзе грымі!*

*Гэй ты, сонца, гары*
*Ад зары да зары,*
*Ланцугі распалі*
*Па ўсёй чыста зямлі!..*

**1911**

## 25 Сакавіка

Алесь ЗМАГАР

*Радзіўся Ты — у Менску Беларускім,*
*Пажарам Край дыміўся у вагні.*
*Наўкол чужынцы на палетках вузкіх*
*Тапталі скарбы нашых родных ніў.*

*Народ стагнаў, угору ўздымаў рукі,*
*Лавіў святла недасяжны прамень.*
*Быў цяжкі час. Сярод нясцерпнай мукі*
*З'явіўся Ты, прыгожы, светлы Дзень.*

*Цудоўнай зоркай ўзняўшыся высока,*
*Народу шлях да волі асвяціў,*
*І зашасцелі казкаю асокі,*
*Мінулай славай лес загаманіў.*

*І Край ажыў. Народ паймкнуўся к свету,*
*Ў вачах крынічыць радасці струмень.*
*І нашых продкаў слаўны запаветы*
*Ўваскрослі ў гэты незабытны дзень.*

*Вялікі Дзень! Нічым Цябе не сцерці!*
*Стагоддзям нат Цябе не пераждыць!*
*Вякі мінуць, а Ты ў народным сэрцы*
*У песнях, былях будзеш жыць!*

**Кіргхайм — Аўстрыя, 25 Сакавіка 1946**

## 25 Сакавіка

Рыгор БАРАДУЛІН

*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Годны дзень*
*Беларускай дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*
*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной, і з дзвюма галавамі.*
*Мы не з нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*
*Мы — ратаі святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўміруючай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*




Фота Радыё Рацыя

## Дзень Волі

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

**I**
*У камеры турэмнай, нібы звер,*
*Глухім адчаем выючы да столі,*
*Святкую я стагоддзе БНР —*
*няспраўджанае свята нашай Волі.*

*Прынік да вочка*
*Вокам*
*вартаўнік.*
*Мардаты. Зубы сцяты. Чын па чыну.*
*А недзе там, над столлю, — сакавік.*
*І недзе там — за кратамі — Айчына.*

*І раптам я адчуў, што мы ўдваіх*
*За кратамі, як з ланцугом на шыі,*
*Я вые ў столь па гэты бок ад іх,*
*Яна — па той бок у нябёсы вые.*

*Аж дрыжыкі бяруць з яе выцця!*
*Такая ў ім туга, нуда такая.*
*Як не хапае ёй, каб жыць, жыцця,*
*І смерці, каб памерці, не хапае!*
*І так — скрозь век, скрозь сто*
*студзёных год,*
*Скрозь боль і жах, скрозь песні*
*з карагодамі —*
*І скрозь правадыроў, і скрозь народ,*
*Які ніяк не можа стаць народам.*

**II**
*Вясна, вясна! Скажы, шапні ты мне,*
*Калі ўжо ты прыйшла на наш гасцінец,*
*Чаму я ў роднай, крэўнай старане*
*Турме — радня, а ўсёй радні —*
*чужынец?*

*Шапні, вясна чаканая, скажы:*
*У чым я прад Айчынай вінаваты?..*

*І слухаў я, як б'юцца капяжы*
*Аб падваконнік,*
*Аб сцяну,*
*Аб краты...*

**III**
*О, Беларусь! О, Крывія мая!*
*Ты*
*Ува мне*
*Жывой крывёй струменіш!*
*І гэта ўжо ніяк,*
*Нічым не зменіш:*
*Кроў на ваду не памяняю я.*
*Дарма — турма! А Воля — не дарма!*
*І не дарма Пагоні меч узняты!*
*Мы рассячэм ланцуг!*
*Мы вырвемся з ярма!*
*Мы ўсё-ткі спраўдзім*
*Волі нашай*
*Свята!*




Фота www.by24.org

## 25 сакавіка

Уладзімір АРЛОЎ

*У краіне,*
*на вуліцах якой*
*ідзе паляванне*
*на паэтаў*
*і проста на людзей,*
*што гавораць на мове*
*сваіх продкаў,*
*пачынаеш асабліва цаніць*
*смак віна*
*і свежага хлеба,*
*талент жаночых вуснаў*
*і тое, што сёння*
*зноў удалося*
*своечасова прыйсці*
*на спатканне.*

## Лаўцы́ аблокаў (верш з шуфляды)

Анатоль ІВАШЧАНКА

*Адпрасаваныя сцягі*
*чакаюць Свята*
*у шуфлядах.*
*Сыходзяць чэзлыя снягі*
*шумлівым вадаспадам.*
*На Панікоўку крумкачы*
*з Кальварыі*
*на кліч шалёны*
*зляцеліся сярод начы.*
*Не спіцца Завулону!..*
*Над Пляцам сёння «рыбакі»*
*закінуць у аблокі вуды.*
*Адпрасаваныя сцягі —*
*прадвесце цуду.*

**25.03.2011**

# «Смерці няма» — Рыгор Барадулін

**Глухому не раскажаш, як пяе салоўка, сляпому не пакажаш, як узыходзіць над салаўіным спевам сонца. А духоўна глухому, духоўна сляпому ды яшчэ й бязмоўнаму не давядзеш, што Рыгор Барадулін (якому б сёлета споўнілася 85 гадоў) — гэткі самы цуд, як салаўіны спеў і ўзыход сонца...**

На ўзыходзе сонца мы стаялі на ўзлеску пад Каралішчавічамі і глядзелі на мураша, які бегаў па пні ўчора спілаванай сасны. Ён бег і бег кругамі па колцах дрэва, пашыраючы кругі ад стрыжня да абалоні, не падбіраючы нічога ні для сябе, ні для мурашніка — і немагчыма было вызначыць мэту гэтага бегу.

«Гады́ лі́чыць», — сказаў Барадулін.

Для яго было зусім натуральна, што мураш, бегаючы па колцах на пні спілаванага дрэва, лічыць гады, якія яно пражыло. Бо сапраўдны паэт — гэта цэласнае ўяўленне свету. Непадзельнае ў вялікім і малым, чалавечым і мурашовым — у жыцці і смерці.

«Смерці няма», — сказаў ён напрыканцы жыцця.

Калі на Бутаўскіх кладах у Вушачах хавалі ягоную маці, ён, тады яшчэ малады, адышоў ад магілы і стаў кідаць у неба сасновыя шышкі. Немагчыма было вызначыць мэту гэтага дзеяння — як бег мураша па крузе. Але на небе быў Бог. А ў зямлю апускалі маці.

Пасля ён напіша, што маці — суперніца смерці. І выдыхне вершы з выяўленнем такой любові да жанчыны, якая падаравала яму жыццё, такога жалю праз яе страту, якіх ніхто ў паэзіі да яго не выяўляў.

У фізічных высілках чалавек здольны не на шмат большае, чым мураш. Калі нават нешта закіне ў неба. А ў высілках духоўных ён можа наблізіцца да Бога.

«Паэт будуе сам сябе, як храм...» — сказана Барадуліным не ў маладосці — на схіле веку. Калі ўжо з'явілася адчуванне, што ён «адзін, як час».

*Да зоркі лёсу*
*Пазычаным ценем*
*Прывязаны,*
*Я пасуся тут...*

Хвароба, якая ў апошнія гады бязлітасна яго згрызала, адбірала рухі, адбірала рукі — не закранула дух, розум, талент. Бог не даў. Абараніў свайго абранца. І да апошняга радка, да апошняга свайго выдыху Рыгор Барадулін — светлы, ясны, высокі, пранізлівы. Паэт невераготнай сілы і красы. Найпершы паэт крывіцкай мовы, чарадзей беларускага слова.

Калі яго апускалі ў зямлю, клалі побач з маці, сонца ўжо схавалася — і над кладамі, над вершалінамі соснаў хутка-хутка ўзышоў, нібы ўскрыліў, маладзік. Не выпадкова ўскрыліў: першая кніга Рыгора Барадуліна пазначаная маладзіком. Бог пра гэта не забыўся. І новенькі, толькі што адкаваны серпік маладога месяца здаваўся залатой прыступкаю, стаўшы на якую Барадулін і пайшоў ад нас. Так, як звык: пехатаю. Туды, дзе ягоная маці Куліна, ягоныя сябры Быкаў і Караткевіч: у неба.

**Уладзімір Някляеў**

# Анталогія старагрэцкай драматургіі

**Пры спрыянні Саюза беларускіх пісьменнікаў у серыі «Драматургі свету» выдавецтва Зміцера Коласа выйшла анталогія «Старагрэцкая драматургія» з перакладамі антычнай класікі, зробленымі Лявонам Баршчэўскім і Юльянам Дрэйзіным. Пераклады Юльяна Дрэйзіна 1920-х гадоў выйшлі ў абноўленай рэдакцыі Лявона Баршчэўскага.**




Зборнік старагрэцкай драматургіі ўключае шэраг найбольш вядомых твораў такіх выдатных майстроў трагедыі, як Эсхіл («Персы» і «Прыкуты Праметэй»), Сафокл («Эдып-цар», «Антыгона») і Эўрыпід («Бакханкі»), а таксама камедыі — Арыстафан («Люсістрата» і «Жабы») і Менандр («Адлюднік»). Кніга змяшчае грунтоўную прадмову Алеся Жлуткі і такія ж грунтоўныя каментары да кожнага твора, падрыхтаваныя Лявонам Баршчэўскім.

У такім прадстаўнічым аб'ёме, на 460 старонках, драматургія Стаpажытнай Грэцыі па-беларуску выходзіць упершыню за ўсю гісторыю айчыннай перакладной літаратуры.

Наклад выдання — 99 асобнікаў.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Паэт, святар, вязень ГУЛАГу

**У сакавіку адзначаецца 130-годдзе з дня нараджэння беларускага пісьменніка, дзеяча культуры і хрысціянскага руху Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага).**



Язэп Германовіч нарадзіўся ў мястэчку Гальшаны Ашмянскага павета Віленскай губерні (цяпер Ашмянскі раён Гродзенскай вобласці). Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі — Станіслаў і Ганна (з дому Савіцкіх) Германовічы. У 1898—1902 гадах наведваў Гальшанскую народную школу, а наступныя чатыры гады — Ашмянскае гарадское вучылішча. У 1913-м скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. 29 чэрвеня 1913 года пасвечаны ў святары, тады ж распачаў душпастырскую дзейнасць як вікарый у мясцовасці Далістова Беластоцкага павета. Пазней працаваў у розных парафіях Беластоцкага дэканата (Беласток, Крынкі, Мсцібава, Вялікая Лапеніца).

У 1921 уступіў у Таварыства беларускай школы; арганізоўваў беларускія школы, у касцёле гаварыў казанні на беларускай мове. Выступаў у беларускім перыядычным друку. Празаічныя і паэтычныя творы В. Адважнага рэгулярна з'яўляліся на старонках перыядычнага друку («Krynica», «Chryścijanskaja Dumka»). Пераследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі.

З 1932 года быў на місіянерскай працы ў Харбіне (Маньчжурыя), дзе таксама быў дырэктарам гімназіі.

У 1936-м вярнуўся ў Вільню, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў. У 1938-м дэпартаваны разам са студэнтамі ў Цэнтральную Польшчу, адкуль у хуткім часе зноў выехаў у Харбін. У 1948 годзе арыштаваны кітайскай паліцыяй і перададзены савецкім органам бяспекі. Быў прысуджаны да 25 гадоў прымусовых работ у лагерах. Знаходзіўся ў зняволенні ў Сібіры. Пасля смерці Сталіна вызвалены.

Выехаў у Польшчу, пад канец 1959 года — у Рым, а неўзабаве прыбыў у лонданскі Дом Марыянаў. Прымаў удзел у рэлігійным і культурным жыцці беларускага замежжа. Рэдагаваў часопіс «Божым шляхам» (Лондан). Пра свае знаходжанне ў лагерах напісаў успаміны «Кітай — Сібір — Масква», якія выклікалі вялікую цікавасць, былі апублікаваныя на беларускай, італьянскай, польскай, літоўскай мовах.

Памёр у Лондане 26 снежня 1976 года.

# Новы музей Караткевіча

**Прапанову аб стварэнні музея Уладзіміра Караткевіча ў доме, дзе пісьменнік жыў і працаваў над сваімі творамі, калі прыязджаў у госці да дзядзькі, выказаў дырэктар рагачоўскай школы № 4, краязнавец Аляксандар Лейкін. Мясцовыя ўлады яе падтрымалі.**

Паводле Аляксандра Лейкіна, дом і пакой пісьменніка захаваныя, аднак будынак прыходзіць у заняпад, бо людзям, якія жывуць там, «у сілу стану здароўя складана падтрымліваць яго ў належным парадку». А дом-музей стаў бы цэнтрам прыцягнення турыстаў і месцам для правядзення рэспубліканскага літаратурнага свята, лічыць краязнаўца.

Але пакуль на рэалізацыю ідэі няма фінансавання, а таксама трэба вырашыць жыллёвае пытанне родных пісьменніка, якія жывуць у доме.

У лістападзе 2020 года на Рагачоўшчыне плануюць арганізаваць маштабны фестываль, прысвечаны 90-годдзю Уладзіміра Караткевіча. Запланаваны выставы, акцыі, літаратурныя конкурсы. Таксама вырашаецца пытанне з устаноўкай памятнага знака Гервасію Выліваху — галоўнаму герою «Ладдзі роспачы», якую Караткевіч напісаў у Рагачове.

Цяпер у Рагачове імя Уладзіміра Караткевіча носяць вуліца і цэнтральная раённая бібліятэка, партрэт Караткевіча змясцілі на тарцы аднаго з дамоў у цэнтры Рагачова, у мясцовым музеі ёсць некалькі кніг з аўтографамі пісьменніка, у многіх месцах устаноўленыя памятныя знакі.

**Радыё Свабода**

# Лютаўскі «Дзеяслоў»

**Выйшаў з друку першы за 2020 год і 104-ты ў агульнай нумарацыі «Дзеяслоў». Чым ён парадуе чытачоў?**

Адкрывае часопіс паэма Уладзіміра Някляева «Вавукі», напісаная ў шведскім Лундзе, дзе паэт цяпер жыве.

Таксама ў паэтычнай частцы — вершы Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай, Міколы Гіля, Анатоля Брусевіча, Вадзіма Кораня.

Празаічная частка нумара пачынаецца з аповесці галоўнага рэдактара «Дзеяслова» Барыса Пятровіча «Пуцявіна». Аповесць пісалася праз трыццаць гадоў пасля паездкі аўтара на Сахалін і ёсць працягам аповесці «Пуціна». Цікава, што ў канцы гэтага твора, як і ў выпадку з паэмай Някляева, пазначана шведская лакацыя — горад Вісбю.

У нумары друкуецца пачатак яшчэ адной аповесці — «Нашчадкі казённага лёсу» Віктара Казько, прысвечанай няпростаму кону пасляваеннага пакалення бязбацькавічаў.

Аматараў прозы лютаўскі «Дзеяслоў» парадуе таксама «Вясковымі гісторыямі» Міхася Зізюка, апавяданнем Леаніда Левановіча «Пчаліная вернасць», а таксама — апавяданнем Ксеніі Крывецкай «Нарадзіцца нанова» (рубрыка «Дэбют»).

Рубрыка «Пераклады» прадстаўленая вершаванымі нізкамі двух украінскіх паэтаў — мэтра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Украіны Дзмітра Паўлычкі ў перакладзе Міхася Скоблы, а таксама — «менскім цыклам» Вячаслава Лявіцкага, паэта, вядомага менскай публіцы па нядаўнім фэсце «Вершы на асфальце» (пераклад Сержа Мінскевіча).

У рубрыцы «Словы» — гутарка з італьянскім літаратарам Альда Анараці «пра італьянскую літаратуру і не толькі», у якой беларускі чытач пабачыць процьму паралеляў з сітуацыяй нашага літаратурнага працэсу.

У рубрыцы «Кантэкст» — «Вялікае Княства паэзіі Алеся Разанава» (пераклад Галіны Лінкевіч), сведчанні літоўскіх калегаў пра кнігу «Літоўскія пункціры», напісаную Разанавым ад пачатку па-літоўску.

Валянцін Акудовіч працягвае друкаваць свае ўспаміны. Гэтым разам спадар Валянцін распавядае пра гісторыю паўставання першага беларускага філасофскага часопіса «Фрагменты».

Таксама ў нумары: старонкі з новай кнігі Альжбеты Кеды, малюнкі з дзяцінства Кастуся Тарасава, штрыхі да творчага партрэта Алеся Ксёндзава і гутарка Уладзіміра Сіўчыкава з мастаком, рэпрадукцыі твораў якога ўпрыгожылі вокладку 104-га «Дзеяслова».

У рубрыцы «Кнігапіс» — рэцэнзія Эдуарда Дубянецкага на кнігу Святланы Явар «Дзівосны сад», а таксама — водгук Леаніда Галубовіча на кнігу літаратурнай крытыкі Паўла Абрамовіча «Мой спосаб чытання», якая нядаўна пабачыла свет у бібліятэчцы «Дзеяслова».

Традыцыйна завяршае нумар агляд кніжных навінак «Дзеяпіс».

# Легендарны Ніл Гілевіч

Васіль ЖУКОВІЧ

**1**

Прайшло чатыры гады, як не стала Ніла Гілевіча (29 сакавіка 2016-га). У той жалобны час нібы самі прыйшлі да мяне словы смутку ад цяжкае страты і словы натуральнага гонару за здзейсненае Ім. Атрымаўся верш «Паэт купалаўскага гарту»:

*Спачыў пясняр, не скажа больш*
*Слоў праніклёных, палымяных,*
*За нашу Бацькаўшчыну боль*
*Больш не вярэдзіць сэрца рану.*
*Ён, дум высокіх валадар,*
*Прайшоў сваю дарогу годна,*
*А больш за ўсё жадаў змагар,*
*Каб Беларусь жыла свабодна.*
*За мову і за родны сцяг*
*Змагацца ўсёй істотай мусіў,*
*Праз церні церабіў ён шлях*
*Да незалежнай Беларусі.*
*Герой, над кім не ўладны час,*
*Любові нашай вечнай варты.*
*Быў, ёсць і будзе ён у нас,*
*Паэт купалаўскага гарту.*

**29–30.03.2016**

Адначасова з вершам і ўслед за ім у памяць хлынулі ўспаміны пра слыннага творцу і прызнага чалавека. Узгадваліся шматлікія сустрэчы, сумесныя паездкі (у прыватнасці, у снежні 1994-га ў Берасце, дзе праводзілі ў апошні шлях Уладзіміра Калесніка, і ў верасні 2003-га ў Белаазёрск, дзе віншавалі з 60-годдзем Ніну Мацяш). Успомнілася і тое, як хараша Ніл Сымонавіч прамаўляў на маёй юбілейнай вечарыне ў касцёле імя святых Сымона і Алены і як жыва жартаваў пасля на вячэры...

Ляцеў час, і падкрадваліся хваробы. Народны паэт у апошнія гады рухаўся толькі ў межах кватэры. Калі ж я прачытаў у «Народнай волі», што ён пабываў у Бараўлянах, то не без трывогі, але спадзеючыся на лепшае, набраў нумар яго хатняга тэлефона. Калі запытаўся, чаго давялося быць у Бараўлянах, ён сказаў, што туды трапляюць не проста так. І адчуўшы мой неспакой, працягваў: «Васіль Аляксеевіч! Я гляджу на гэта па-філасофску: мне амаль 85. І я адбыўся!..». Ён ужо ведаў прысуд: анкалогія! І так па-багдановічаўску светла заявіў з прыцэмку... нібыта ў працяг аднаго з вершаў:

*Ніякі рахунак, ніякі разлік*
*Ужо мне не страшны:*
*я збыўся, Айчына.*
*Я марна не згінуў, бясследна не знік.*
*Мяне для цябе ўратавала Жанчына.*

**2**

Ніл Гілевіч — не проста яскравая, адметная постаць нацыянальнае літаратуры, культуры, навукі, а постаць легендарная. Народны паэт Беларусі (1991), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980), кавалер ордэна Кірылы і Мяфодзія. Прафесар (1978). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980). Паэт, празаік, драматург, публіцыст, літаратуразнаўца, перакладчык, фальклрыст.


**Апошні з літаратурных патрыярхаў.**
Фота Віктара Талочкі, 2015 г.
Фота www.sputnik.by

Вялікая чытацкая аўдыторыя не магла не заўважаць: знакаміты наш класік надзелены ўніверсальным талентам. Усе віды літаратуры і ўсе жанры яму былі падуладныя. Найбольш поўна і разнастайна праявіў сябе Ніл Сымонавіч у цэху паэзіі, тут ён майстра на ўсе рукі: паэт-лірык, паэт-публіцыст, паэт-гумарыст і сатырык, паэт-песеннік, аўтар рамана ў вершах «Родныя дзеці» (1985), арыгінальнага маленькага лірычнага рамана «...І плямы на табе няма» (2003), унікальнага «Сказу пра Лысую гару» (1972), шэрагу кніжак для дзяцей... Які дзівосны паэтычны дыяпазон!

Звяртае на сябе ўвагу ягонае ўменне выказаць сябе, свае пачуцці, думкі, назіранні ў самых розных вершавання формах, уласцівых найперш еўрапейскай паэзіі. Няхай у сучаснай беларускай літаратуры ўжо даўно не з'яўляюцца навінкамі вянкі вянкоў санетаў, ды ім дарогу праклаў у гісторыі нашай літаратуры вянок санетаў «Нарач» (1964), створаны Нілам Гілевічам. Выбітны паэт аблюбаваў яшчэ адну класічную форму верша, у выніку з'явіся кніга «Актавы» (1976). І на мінімальнай плошчы Майстру ўдавалася напоўніцу выказаць глыбіню пачуццяў і думак, данесці да чытача сваё запаветнае, што засведчыў яшчэ адзін яго зборнік васьмірадкоўяў «Святлынь» (1984). Дасканалае валоданне размаітымі вершаванымі формамі асацыюецца з майстэрствам Максіма Багдановіча.

У Ніла Гілевіча дужа цікавыя, багатыя зместам пры дасканалай форме і сюжэтныя вершы, вершаваныя апавяданні, праўдзівыя проза, драматургія, эсэ, бездакорныя пераклады, узрушальныя прадмовы да выбраных твораў нашых класікаў. Нельга не заўважыць яго вялікай прыхільнасці да веснай народнай творчасці. Ён уклаў і адрэдагаваў цэлыя тамы беларускага фальклёру, стварыў, апроч таго, кнігі пра паэтыку беларускай народнай лірыкі ды беларускіх загадак.

**3**

Але найбольш уражвае і радуе тое, што ён цягам усёй сваёй творчасці выступаў як няўхільны і паслядоўны патрыёт нашай мілай Бацькаўшчыны — за родную мову, культуру, за адраджэнне нацыянальнае свядомасці, супраць нацыянальнага нігілізму. Мне, яго сучасніку, прыемна знайсці і ў залатым фондзе каласальнай духоўнай культуры чыста гілевічаўскія красу лірыкі, моц публіцыстыкі, дасціпнасць гумару, сакрушальную сілу сарказму, багаты ўзор эпічнага палатна, кампетэнтнае слова пра паэтычную і спеўную спадчыну беларусаў, пераствораныя на матчынай мове мастацкія ўзоры знаных замежных творцаў.

Яшчэ ў 1966 годзе я з радасцю чытаў простыя і праніклёныя яго радкі:

*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне паслухаць, дай!*
*Як на лад пявучы*
*Старажытнай мовы*
*Тут гамоняць пушчы,*
*Там шумяць дубровы, —*
*Дай жа мне паслухаць, дай!*

Тады ж усхвалявалі яшчэ больш праніклівыя словы заключнага чатырохрадкоўя верша «Не баюся, што мой век не вечны...»:

*А мацней за ўсё я пашкадую*
*Перад тым, як свет пакінуць весні,*
*Што ўжо больш ніколі не пачую*
*Нашай роднай беларускай песні.*

Але маё чытацкае знаёмства з паэзіяй Ніла Гілевіча пачалося нашмат раней — калі я толькі паступіў у Берасці ў педагагічны інстытут. У вольны час хадзіў па кнігарнях, набываў літаральна ўсе зборнікі беларускіх паэтаў. І вось займеў кніжку «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959). Яго (другую па ліку) кніжку. Мне не забыць, як жа ўскалыхнула яна мне душу вершам «Маці»...

*Я гляджу ў яе вочы,*
*Што свецяцца шчасцем,*
*Гладжу рукі сухія,*
*Прапахлыя зеллем,*
*І хілюся да сэрца...*
*А трэба б упасці*
*Перад ёю — нядужай, сівой —*
*На калені...*

Паэт гэтак прачула распавядае пра сустрэчу з матуляю-сялянкаю ў родным двары, у сваёй вясковай хаце, куды ён, відаць, прыехаў з горада, з пяшчотаю гаворыць пра яе, вечна стомленую ў вірах бясконцае працы, звяртаецца (ад імя не толькі свайго — і ўсіх братоў, сёстраў) да маміных вачэй: «Вы над намі вясёлымі зоркамі ззялі», да вачэй, якія, калі нават «у нясцерпнай дрымоце зліпаліся», «усміхаліся нам, забаўлялі», звяртаецца да матчыных рук, якія аж нылі ўвечары, «спавіваючы нас перад сном галубіным» (я не ведаў тады, што паэт рос у вялікай сям'і, у якой было дзесяць дзяцей, двое з якіх памерлі малымі), звяртаецца да сэрца маці:

*Наш боль быў тваім,*
*Не іначай,*
*Сорам наш*
*Ты насіла вялізарным горам,*
*Кропля ж кожная*
*Радасці светлай дзіцячай*
*Напаўняла цябе,*
*Разлівалася морам...*

Гэтыя словы мною ўспрымаліся так, быццам яны — пра маю матулю, якую страціў юнаком, і таму яны, асабліва заключныя радкі пра тое, як позна мы, дзеці, «няўдзячнасць сваю разумець пачынаем», абуджалі ў душы шчымлівае пачуццё шкадавання. Невыпадкова кампазітар Павел Яроменка стварыў з верша цудоўную песню. Дарэчы, на вершы Ніла Гілевіча напісана мноства песняў вядучымі кампазітарамі: У. Буднікам, Я. Глебавым, Э. Зарыцкім, Л. Захлеўным, І. Лучанком, Э. Ханком ды іншымі. Я быў сведкам аншлагу ў Белдзяржфілармоніі, дзе цягам усёй вечарыны гучалі такія песні, а пасля выступаў улюбёнец публікі Ніл Гілевіч. Паломніцтва нагадвала і вечарына (з яго ўдзелам) у Доме літаратара, праведзеная паэтычным тэатрам «Зьніч» на чале з Галінаю Дзягілевай.

Як чытач і як літаратар я з добрым хваляваннем разгортваў кожную новую кнігу Майстра: «Неспакой», «Бальшак», «Перазовы», «А дзе ж тая крынічанька», «У добрай згодзе», «Родныя дзеці» і многія іншыя. На іх у друку з'явілася шмат выдатных рэцэнзій такіх ведучых літаратараў, як У. Калеснік, Р. Бярозкін, А. Вярцінскі, М. Ермаловіч, Н. Мацяш, П. Макаль. Можна не сумнявацца: наперадзе і грунтоўныя даследаванні творчасці Ніла Гілевіча, ёмістыя манаграфіі, жыццяпіс народнага паэта, вучонага, фальклрыста, асветніка, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча.

**4**

У Ніла Гілевіча ўнушальная колькасць (больш за сто) выдадзеных кніг. Паспяхова прайшла і справа з выданнем 23-х тамоў выбраных твораў. Выбранае — гэта, вядома, частка ўсяго, што падараваў апостал духу свайму народу амаль за 60 гадоў актыўнай творчасці. Але не ў колькасці здзейсненага сапраўдная заслуга аўтара, а ў красе і сіле яго мастацкага слова, у тым, наколькі дзейсна служыць ягонае слова чалавеку, Бацькаўшчыне. Кнігі Ніла Гілевіча маюць невычэрпныя выхаваўчыя магчымасці, трывалы патэнцыял. Відаць, яны будуць цікавыя і карысныя і з цягам часу — для новых і новых генерацый.

Найбольш вялікая выхаваўчая роля вершаў для дзяцей. Здымаю з палічкі адзін з дзіцячых зборнікаў паэта — «Калі рана ўстанеш», разгортваю. На 13-й старонцы чытаю пра шпака:

*Ён цяжкі шлях пераадолеў,*
*Пакуль вярнуўся ў родны край.*
.......................................
*Смяецца сонца. Дзень прыгожы.*
*А шпак ля доміка свайго*
*Сядзіць і кліча ўсіх прахожых*
*Паслухаць песеньку яго.*

Шпак спявае ў родным раздоллі, на волі. А вось злоўлены хлопчыкам конік (верш «Конік у палоне») спяваць не захацеў — і, шкрабаючы па дне шклянкі, ён нібы з крыўдаю кажа:

*Сумна мне тут без сяброў*
*Аднаму ў палоне.*
*Адпусці мяне дамоў —*
*У прастор зялёны.*
*І прыходзь тады гуляць*
*На лужок мурожны:*
*Буду я табе спяваць*
*Дзень і вечар кожны.*

І яшчэ адзін верш не магу не працытаваць:

*Бацька ўзяў вялікі кош,*
*Сын — маленькі кошык.*
*У кішэні ў бацькі — нож,*
*А ў Сяргейкі — ножык.*

*Бо Сяргейка знае ўжо:*
*Рваць грыбы няможна —*
*Трэба нізенька нажом*
*Рэзаць асцярожна.*

Вось вам і выхаванне дзяцей: і патрыятычнае, і маральнае, і працоўнае, і экалагічнае, а найперш — эстэтычнае.

У заключэнне скажу: у Ніла Гілевіча ёсць што пачытаць чалавеку любога ўзросту, бо ён — творца ўніверсальны.



Фота www.belnovosti.by

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (163) | 28 сакавіка 2020 | № 12 (671) Новы Час

# «Па» з матыльком

Людміла АНДЗІЛЕЎКА

**Увесь свет змагаецца са мной... Я змушаны туляцца глухімі завулкамі, не жадаючы трапіць на вочы тым, хто няспынна палюе на мяне. Кожны дзень паштар прыносіць позвы з пракуратуры. Ён грукае ў дзверы маёй кватэры, распытвае суседзяў, заглядвае ў замочную адтуліну — ледзь дыхаю, хаваюся па кутках... Мая паштовая скрыня напіхана пакамечанымі лістамі і паведамленнямі з розных судовых органаў... Скрупулёзныя, законапаслухмяныя паштары дамагаюцца майго подпісу на новую і новую позву...**

Фота www.9111.ru

Я стаміўся... Я запалоханы, мяне непакояць начныя жахі, я пакутую на бяссонне, мяне праследуюць слухавыя і зрокавыя галюцынацыі...

Аднойчы меў я неасцярожнасць будзённым сонечным ранкам шырока расчыніць акно і вытыркнуцца на вуліцу... Мая вуліца!!! Мае дамы, мой горад, неба, сонца... Радасць! Радасць!!! Я смелы! Я самаўпэўнены! Усё ў маім жыцці — як трэба! Так было і будзе! Гэты свет — для мяне! Гэтыя людзі са мной за адно...

Прыляцеў... фанабэрысты... выхваляецца ўборамі. Сеў на далонь, страпянуўся, расправіў фарсіста крылы ў «турэцкіх кашамірах» — махаон! Я для яго ўсяго толькі пасадачная пляцоўка... Рука мая паплыла ўверх: трымаецца ўчэпістымі лапкамі — лёгкае казытанне па жылах... Рука слізганула ўніз, управа, улева — балетныя «па» з матыльком. Набіраю паветра: ф-ф-ф-ф — я для яго вецер; ф-ф-ф-ф — бура! Крылцы затрапяталі. Узлятае — лаўлю... Я шчаслівы! Я адкрыты. Гэты свет — для мяне! «Людзі, я люблю вас!» — напалохаў махаона...

Мінак панура крочыў паўз мае вокны, дакорліва пахітаў галавой. «Людзі, я ўсіх вас люблю!» Некалькі прахожых спыніліся: «Непрыстойна так адкрыта выказваць свае пачуцці — які сорам!» Запатрабавалі: «Змоўкні!», «Прыраўняць усіх разам?! І забойцаў, і зладзеяў, і бамжоў, і маньякаў?!», «А псіхічна хворыя? А ўрэшце, сэксуальныя адшчапенцы?!», «Якая бездухоўнасць — усіх раўнуючы любіць! На ўвесь свет пра тое крычаць!», «А чужыя жонкі? Пасягаць на сямейны спакой?!», «Маўчаць! Маўчаць!» Я зачыніў акно, пырскаючы ад рогату, і стаў збірацца на работу...

Перад адыходам я зноў зірнуў на вуліцу — пад вокнамі скандзіравалі мітынг: «Маўчаць! Маўчаць! Маўчаць!» Арганізатары мас разгарнулі плакаты і транспаранты з патрабаваннямі «блюсці» цішыню і спакой. Вялікія белыя літары па чырвоным заклікалі: «Весяліцца толькі па агульнапрызнаных прычынах і ў прынятым парадку».

Транспарт аператыўна даставіў драўляныя драбіны, пры дапамозе якіх планавалася «браць» мае вокны.

Я зашчапіў засаўку і шчыльна захінуў фіранкі. Дварамі збег на работу... Наступным днём і была прынесена першая позва ў суд. Пракурор абвінаваціў мяне ў тым, што тры гады таму назад я адмовіўся вынішчыць у сваім палісадзе мае любімыя кветкі і па прыкладзе перадавых ініцыятыўных грамадзян — жыхароў нашага горада — разбіць клумбы з пунсовымі сальвініямі ў форме лозунгаў: «Мы — найшчаслівейшыя людзі свету!» Я не супраць лозунгаў — сальвініі не люблю...

Жадаючы заглушыць думкі пра судовыя мітрэнгі, я патроіў працоўны энтузіязм, гэтаму спрыяў і каляндарны дзень, які абяцаў завяршыцца салодкім змоўніцкім чаканнем ля невялічкага акенца з надпісам «КАСА», з якога кожнаму ў свой час прыемна «адшалясцяць» порцыю купюр...

Больш за ўсё грэла надзея, што ўжо на гэты раз не прадбачыцца ніякіх незапланаваных збораў, узносаў і падаткаў... Аналізуючы папярэдні разлік, кішэню апалавінілі: «чырвоны крыж», «ахова помнікаў», «выратаванне на водах», «барацьба з п'янствам і алкагалізмам», дапамога хворым і малазабяспечаным, а яшчэ — стварэнне музея мясцовых знакамітасцяў...

Але халодныя маланкі бліскучых акуляраў касіркі прадвясцілі гром паведамлення: грошай не хапае — будуць выдаваць часткова латарэйнымі білетамі.

Чарга зацята праглынула затоенае абурэнне, яно ператварылася ў пільнасць: дзясятак пар прагных вачэй рэўнасна сачылі за выкананнем справядлівасці: каб кожнаму адлічвалі па роўнай частцы «каляровых фанцікаў». Я паспрабаваў пажартаваць, што не цікаўлюся латарэяй, таму ніколі не купляю білеты — не маю ніякай ахвоты набываць іх і цяпер... Што тут пачалося!!! Чаргу нарэшце прарвала! І тыя, што стаялі за мной, і тыя, якія паспелі ўжо атрымаць грошы, але засталіся тут «добраахвотнікамі-назіральнікамі» з мэтай кантролю, абрынулі ўсю назапашаную злосць і крыўду — на мяне...

Працэс расправы са «злачынцам» учынілі на здзіўленне дружна і аператыўна, быццам кожны з калег меў загадзя распрацаваны і выверaны план дзеяння і выношваў яго не менш як палову жыцця. Мяне зацяснілі да акенца, акуратна пералічылі належную частку латарэйных білетаў, асобна — грошы, з дакладнасцю да капейчыны, увапхнулі роўненькім скрутачкам у нагрудную кішэню, паставілі маёй рукой подпіс і, задаволеныя ды горды выкрыццём парушальніка грамадскага спакою, актыўна выштурхалі на вуліцу...

Сябар мой адданы як мог падтрымліваў ува мне бадзёрасць духу. Праводзячы дадому, ён ашчадна паклаў руку на маё плячо і пранікнёна зазірнуў у вочы:

— Я хачу азнаёміцца з тваім унутраным распарадкам і жыллёвымі ўмовамі, — душэўна паведаміў сябар. — Так-так, мы ідзём да цябе...

Мне зусім не хацелася прыводзіць у свой дом гасцей сёння. Па-першае, знік настрой; па-другое, мне б хацелася самому выбіраць, перад кім адчыняць дзверы маёй кватэры... Па-трэцяе, я — сціплы грамадзянін: у мяне «горш чым» не багаты інтэр'ер, мой камп'ютар — пазаўчарашні дзень «тэхнічнага прагрэсу» сэканд хэнд... халадзільнік мой страляе і калоціцца, калі спрабуе падключыцца ў належны час да электрычнай сеткі, мой гараж ганебна пустуе... І наогул, мне не падабаецца, калі так нахабна і настойліва шчэмяцца ў маё жытло. Мой дом — мая крэпасць. Ці не так? Хто мае права азнаёміцца з маім побытам без майго на тое дазволу? Толькі я не змог прымусіць сябе прамовіць уголас хоць бы адзін з пералічаных пунктаў...

Я доўга кружляў з сябрам вакольнымі сцежкамі, спадзеючыся, што яму надакучыць сноўдацца пад дажджом і мы цёпла развітаемся... Не вытрымаў я. Ногі самі прывялі дадому. Ужо стоячы перад замкнёнымі дзвярыма, я безнадзейна ўхапіўся за выратавальную думку, стаў марудна корпацца па кішэнях, шукаючы «згубленыя» ключы. Сябар паверыў, але не адступіўся ад мэты вывучэння маіх побытавых абставін. Будучы натурай цэльнай і ахвярнай — перананачаваў разам са мною на ганку...

Раніцай да мяне прыйшла крыўдная думка: «Не смелы я чалавек!» Наведвала яна мяне і ўдзень, калі сябар раз-пораз падбягаў з настойлівым напамінам пра дублікат ключа... «Зусім баязлівец!» — дзяўбла бязлітасная думка маю галаву вечарам: хаваўся я ў прыбіральні, пакуль сябра мой абыходзіў аддзелы і кабінеты, не дачакаўшыся мяне ў прызначаным месцы...

Тым часам позвы няспынна заклікалі мяне да адказнасці перад грамадствам і дзяржавай... «Згуба» ключа аказалася сімвалічнай — з таго самага вечара я ні разу не ўваходзіў у свой дом праз дзверы. Мусіў пракрадвацца, як звечарэ, заднімі дзвярамі і сігаў праз кухоннае акно; не запальваючы святла, знаходзіў ежу, спешна вячэраў і, балансуючы на дыбачках, дабіраўся да ложка — ныраў у яго да раніцы. Падхопліваўся досвіткам, каб апярэдзіць мітынгоўцаў, і тым жа ходам: вітальня, кухня, акно, унутраны дворык — вылузваўся праз дзірку ў агароджы ў паркавы масіў...

Не магу сказаць, што існаванне маё ператварылася ў суцэльны бязмежны жах... Калі з дня ў дзень мне даводзілася бавіць светлы адрэзак сутак на беразе возера, я марыў пра лепшае — верыў і чакаў... І аднойчы да мяне падышла маладая жанчына, села побач і паклала сваю далонь на маю руку... Яна нічым не парушыла цішыню: задумліва пазірала на процілеглы бераг возера і пяшчотна тулілася да майго пляча... Так сталася — нечалавечыя пакуты цесна перапляліся ў маім жыцці з невыказным шчасцем.

Лёсам было наканавана нам падглядзець векавечны рух прыроды: як вясной пацягваюцца, скідваючы коўдры-пупышкі, ліпкія кволыя лісточкі, як усё лета на сваім магутным карэнні пасе волат-дуб мурашыны народ і спраўляе ў буйной кроне фэсты сімфанічных аркестраў птахаў-віртуозаў. Падслухаць шэпт замоў і заклёнаў дажджу над густым мурагом; сачыць, як дамавітая восень па-гаспадарску пераніцоўвае зялёныя аксаміты ў залатую парчу...

Я перастаў лічыць позвы, іх назбіралася поўная скрыня — даверху. Мае апаненты засумавалі, прыціхлі і мітынгоўцы — скруцілі транспаранты. На сцяну майго дома прышрубавалі шыльду, у якой пазначылі, што тут з такога па такое жыў я, тут і сканаў...

Карыстаючыся абставінамі, я разняволіўся, страціў пільнасць... Толькі-толькі развітаўшыся з каханай, не чакаючы цемры, натхнёны сустрэчай, кіраваўся я ў свой «мемарыяльны дом»... Мяне схапілі, мяне скруцілі, звязалі вяроўкамі, збілі з ног і — кулаччом і ботамі, кулаччом і ботамі — шчыра адвялі душу.

Урэшце мне ўручылі-ткі паштоўку. Я не мог зразумець, пра што паведамлялася ў ёй. Хоць паперу разгарнулі, разраўнялі і моцна сціснулі маімі ж рукамі, падсунулі пад самыя вочы. Хтосьці падняў з ходніка патрушчаныя акуляры і з сілай напяў на мой разбульбянелы нос. Хтосьці здагадаўся падсвяціць тэкст кішэнным ліхтарыкам — толькі б дайшоў да мяне сэнс друкаванага радка. І ўсё ж я не здолеў прачытаць нават літары. І яны, і папера былі чорнымі-чорнымі! Тады мне афіцыйна зачыталі тэкст: дасціпна, культурна і далікатна... У ім тлумачылася, што за даўнасцю часу з мяне здымаюцца ўсе папярэднія абвінавачванні — справы і скаргі закрываюць... Што ў мяне шчыра просяць прабачэння за дастаўленыя хваляванні і мітрэнгі, віншуюць мяне ад усёй душы і зноў выбачаюцца... І з нецярпеннем чакаюць у госці, каб азнаёміць з новай справай...

Мая... Мая каханая жанчына абвінавачвае мяне ў тым, што доўгія гады я праследаваў яе, што не даваў ёй праходу сваёй назойлівасцю. Што подла і гнюсна падмануў яе, драпежна згвалціў, за што і павінен быць жорстка пакараны самай найвышэйшай мерай пакарання. Інакш яна не зможа спакойна адчуваць сябе побач... са сваім каханым мужам...

# Старонкі з «памятнай кніжкі»



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

*«Иногда нужно иметь противу себя озлобленных!»*
***Мікалай Гогаль***

*1 снежня 2019 г., нядзеля.*

З'яўленне, а тады і даволі хуткае пашырэнне ў Расійскай імперыі чыгункі Фёдар Дастаеўскі адлюстраваў апакаліптычнымі фарбамі, — параўнаў чыгунку з зоркай палын.

Па сутнасці, такога перабольшання трымаўся й Леў Талстой.

Невыпадкова ж адзін вядомы рэжысёр паведаміў неяк у тэлевізійным выступленні: маўляў, каб напалохаць уражлівых чытачоў тым злом, якое, на думку Льва Талстога, прынесла чыгунка, знакаміты граф і прыдумаў трагічную гісторыю пра Ганну Карэніну.

А наш Якуб Колас у аповесці «У палескай глушы» выказаў удумнае захапленне здабыткамі сучаснай яму цывілізацыі:

«...Было штосьць велічнае, магутнае і захапляючае ў гэтай імклівасці поезда. Мімаволі хацелася схіліць галаву прад геніем чалавечага розуму, атрымаўшага верх над бясконцымі адлегласцямі...».

Якуб Колас нібыта спрачаецца і з Дастаеўскім, і з Талстым, а найбольш з відавочна бліжэйшым да сябе Аляксандрам Блокам, стаўленне якога да чыгункі было драматычна-стрыманым.

Дарэчы, у такой гаворцы немагчыма не згадаць і яшчэ адно вялікае імя!

Вядома, Якуб Колас памятаў апісанне жахлівага будаўніцтва рэйкавай дарогі, якое даў у сваім гранічна-змястоўным вершы Мікалай Някрасаў.

І тут варта асобна адзначыць, што сярод будаўнікоў-пакутнікаў Мікалай Някрасаў убачыў і беларусаў!

Так, Якуб Колас памятаў някрасаўскі твор пра чыгунку і разумеў: неабходнае для людзей вырастае з людскіх жа трагедый, і захапляўся неабходным, бо яно неабходнае!

*2 снежня 2019 г., панядзелак.*

Што такое дакладнасць мастацкага адлюстравання?

Як адказаць на гэта пытанне? Хіба што разгарнуць усё тую ж аповесць Якуба Коласа і прачытаць уголас першае ўбачанае:

«...Бабка не спіць. Яна проста думае свае старэчыя думкі, сухія, як і сама старасць, простыя, як і ўсё жыццё яе, нецікавыя, як і яе доля...»

Думкі сухія, бо сухая старасць!

Гэта ўражвае.

Дакладнасць мастацкага адлюстравання робіцца хараством.

*3 снежня 2019 г., аўторак.*

Малады настаўнік Лабановіч (галоўны герой аповесці «У палескай глушы») здзіўляецца — маўляў, чаму людзі звыкліся з тым, што памруць, чаму яны не выступаюць супраць смерці, аднак жа заўсёды зацята змагаюцца проці дробнага, малазначнага:

«...Калі парушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызціся за гэта і кусацца зубамі; там жа, дзе разбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна згінае сваю галаву і моўчкі падстаўляе яе пад абух...».

Выходзіць, такая яна, выведзеная Якубам Коласам, вечная наша чалавечая памылка.

*4 снежня 2019 г., серада.*

Проза «У палескай глушы» — адначасова і мастацкі твор, і своеасаблівы зборнік этычных правілаў, якіх неабходна пільнавацца.

Мне здаецца, што самае асноўнае правіла Якуб Колас выказаў гэтак:

«...Навязваць... людзям сваю волю, вымагаць ад іх, каб яны рабілі іменна так, а не іначай, мы не маем права, бо хто можа паручыцца за тое, што мы не памыляемся?..»

Так разважаў пясняр на пятым годзе чырвонага панавання!

*5 снежня 2019 г., чацвер.*

Ідэалізацыя дзяўчыны ў нашай літаратуры, можна сказаць, асобная тэма.

Янка Купала ў паэме «Магіла льва» адносна гэтага прамовіў:

*На беларускую дзяўчыну,*
*Калі тут праўду ёй аддаць,*
*Ніхто йшчэ каменем не кінуў*
*І не паважыцца кідаць...*

Зрэшты, у «Магіле льва» перш за ўсё паказана крывадушная дзеўка Наталька; прыведзенае ж чатырохрадкоўе ўвасабляе дзяўчыну наогул, — вобраз дасканалай дзяўчыны.

А ў Купалавай паэме «Бандароўна» знаходзім ужо ідэалізацыю дзявочага хараства:

*Хараства такога ў свеце*
*Не было, не будзе;*
*Аб ёй (Бандароўне. — Л.Д.-М.) людзі гаварылі,*
*Як аб нейкім цудзе...*

І ў Якуба Коласа (у маладога настаўніка Лабановіча!) да дзяўчыны (дзяўчыны наогул!) іконныя адносіны:

«...Лабановіч ніколі, нават у думках, не дазваляў сабе зняважыць дзяўчыну. Адно слова «дзяўчына» выклікала ў душы яго чыстыя і пригожы вобраз, на які можна пазіраць і любавацца толькі здалёк...»

*6 снежня 2019 г., пятніца.*

І зноў жа твор Якуба Коласа нагадвае пра неабходнае, ну, скажам, хоць бы пра тое, што не трэба піць, а лепей штодня працаваць, што трэба навучыцца радавацца і пры гэтым ніколі не забываць пра смерць...

Здаецца, можна адсоўвацца ад людзей, але не варта аддаляцца ад прыроды, а сваё настаўніцтва (і любую іншую работу) лепш за ўсё ўспрымаць як з'яву дзяржаўную, а не бытавую.



Фота www.pikabu.ru

І што цікава, трэба ж імкнуцца шукаць здаровае (!) пачуццё, разумеючы — яно першаснае, бо:

«...Пачуванне ж ёсць папярэднік розуму ў доследах і вызначэннях сутнасці рэчаў...».

І ці не галоўнае ў творы: пясняр вуснамі Лабановіча гаворыць пра школу (навучальную ўстанову), у якой «...мова мацеры зневажаецца і забіваецца...».

*7 снежня 2019 г., субота.*

Завяршаючы гэтыя запісы, нагадаю: аповесць «У палескай глушы» — першая кніга трылогіі «На ростанях».

«На ростанях»!

Сімвалістыка назвы заўважана ці не ўсімі даследчыкамі.

Якуб Колас умеў сваім творам даваць загалоўкі; начытаны, адукаваны і надзвычай творча багаты, ён матэматычна дакладны ў фармулёўках:

«...формы жыцця абмежаваны, само... жыццё не мае граніц...».

У адным чалавеку ён бачыў усіх людзей; ведаў: у любых пытаннях (найбольш рэлігійных!) трэба быць памяркоўным, абачлівым, бо людзі жывуць не нейчым, а заўсёды сваім жыццём.

І вось, як трапна заўважыў:

«...палешукі не вельмі кідаліся да царквы...».

Сапраўды ж, дакладнае назіранне!

І Коласавы святары, дарэчы (тыя ж айцец Кірыла і айцец Мадэст) амаль не адрозніваліся ад сваёй паствы, бо ў духоўнай службе трымаліся болей жыццёвых, чым царкоўных правілаў, таму, лічу, можна сцвердзіць, што і яны «...не вельмі кідаліся да царквы...».

Здаецца, наш пясняр і такія ягоныя героі, як згаданыя святары, меркавалі: чалавек заўсёды на ростанях, на раздарожжы, на нервах, а раз так, то лішне лепей (штодзённая мудрасць!) не чапаць чалавека.

*11 студзеня 2020 г., субота.*

Сапраўды, шмат у чым аповесць Якуба Коласа можна ўспрымаць як скарбонку этычных правілаў, таму ўсё часцей і часцей думаю, што блізкая мне тая проза, і не толькі наша, а наогул, якая прывучае да парадку, дапамагае жыць, уплывае на пачуцці, нават можа цвяроза пакпіць з цябе:

«Ты верыў, што ўсё жыццё будаваў — не, дружа, ты ўсё жыццё разбураў... Ты спадзяваўся, напрыклад, што ўсе гавораць на мове любові, а кожны размаўляе па-свойму — хто баязліва, хто сквапна, хто хітра...».

Так, не толькі наша проза, а наогул...

От жа руская літаратура, умоўна кажучы ад Мікалая Гогаля да Аляксандра Салжаніцына, акрамя мастацкага ўздзеяння імкнулася яшчэ і выхоўваць чалавека, перабудоўваць ягонае жыццё.

Стварыліся вялікія павучанні (духоўныя дакументы!), у якіх якраз і было распісана — як жыць і працаваць, куды накіроўваць думкі і што чытаць, як любіць радзіму і людзей; якія павінны быць адносіны мужа да жонкі.

Гаварылася пра шкоду маркотасці і згубнай аднабаковасці высноў, згадвалася вартасць разумення, паводле якога, скажам, імя рэчы бывае часам больш каштоўным, чым сама рэч!

Цікава даведацца з тых павучанняў пра жанчыну (пра тое, як павінна паводзіць сябе жонка губернатара!), і пра сэнс хвароб, і пра значэнні слоў, і, вядома ж, аб тым, што песняры (паэты) вышэй па грамадскай значнасці за праўнікаў (то-бок, законнікаў).

А па-над усім — тэма царквы і духавенства, ідэалізацыя Расіі, яе дзяржаўная веліч і (што істотна!) яе прыватныя страхі...

Так, я пра «Выбранные места из переписки с друзьями» Мікалая Гогаля.

Дарэчы, у назву свайго шэдэўра вялікі ўкраінец увёў, як бачым, назоўнік множнага ліку «друзья» і, здаецца, зрабіў гэта крыху ў іранічным сэнсе, бо не дзе-небудзь, а менавіта ж тут, на старонках «Выбранных мест...» заўважыў, што наогул у жыцці, калі казаць зусім шчыра, сяброў няма, пераважная большасць людзей пасварана, ці не кожны на кожнага ўзводзіць паклёп, сусед часта брэша на суседа, амаль ніякага сяброўства не існуе, а сяброўюць (дзеля дробнай сваёй выгады!) толькі ашуканцы і махляры.

Праўда, якую не абмінеш!

Вось чаму сёння цяжка знайсці шчырага субяседніка сярод пыхлівых сучаснікаў, таму й шукаеш субяседніка ў літаратуры...

У 1835 годзе Мікалай Гогаль прамовіў: нам у музыцы патрэбна рускае, французскае надакучыла!

Уплыў ягоных слоў, можна сказаць, быў імгненны: у 1836 годзе Міхаіл Глінка напісаў оперу «Иван Сусанин».

Так, французскае надакучыла, і наогул непрымальнае ўсяго чужога — таго ж каталіцтва, напрыклад, сталася ў павучаннях з'явай ці не дамінантнай.

У «Выбранных местах...» выразна акрэслена: Расія чуе Божы голас, а заходнія краіны — не; заходняя царква аддаляе чалавецтва ад Хрыста, праваслаўная ж — заўсёды разам з людзьмі!

Часам вялікі пісьменнік размаўляў, здавалася, бы, мовай анёлаў і тады рабіў дзіцячыя высновы: як толькі паны пачнуць сумленна жыць, тады й парабкі, гледзячы на паноў, стануць сумленнымі, а Хрыстос, які дае мудрасць, — бясспрэчны аўтарытэт, як і рускі цар, дарэчы...

# Сюды, дзе мы ёсць



Алесь РАЗАНАЎ

*

Слова ў вершы — пчала ў роі: яно мае суадгукацца з усім вершам, пазнавацца ўсімі астатнімі словамі і здзяйсняць ролю, вызначаную менавіта яму.

*

У вершах і ў лістах прысутнічае чыннік адлегласці: ёсць ён — і яны пішуцца, знікае — ім няма куды пісацца.

Вершы — лісты ў наступнасць.

*

У творчасці выяўляецца відушчы пачатак: ці гэта свечка, ці лучыніна, ці каганец — ён ад агню.

І нічым іншым — ні прачытаным, ні сустрэтым, ні перажытым, а адно ім, відушчым пачаткам, кмеціцца і ахрышчваецца мастацтва:

ёсць ён — ёсць яно,
ёсць яно — ёсць ён.

*

Спадарыня Тамара ідзе Роўным Полем і вітаецца, нібы яны павыходзілі са сваіх хат, з тымі, хто жыў вось тут і вось тут і каго цяпер тут няма.

Для староннягa чалавека яе паводзіны ў здзіў, а для яе звычайная з'ява: тыя, каго тут цяпер няма, застаюцца ў яе памяці, у ёй яна з імі, яны з ёй.

Памяць — асабовая айчына.

*

Пасля таго, як вярнуўся з падарожжа на той свет, дзве рэчы былі мне ў пярэчанне: класціся нанач спаць і апранацца ў чорнае.

І яшчэ вісеў водгук незасвоенай веды: быць — любіць, а ўсякі чалавек быў у дарунак.

*

Pereat mundus et fiat justicia (хай загіне свет, але спраўдзіцца правасуддзе) — гэтая, сфармуляваная некалі некім, выснова, чырвонаю ніткай праходзіць праз усе часы і праз усе жыцці. Праходзіць і дзейсніцца, але дзейсніцца не раптам і не адразу, а паступова і пастаянна — колькі доўжыцца самое жыццё, колькі доўжыцца сам час.

*

Метафізіка — тое, што было перад фізікай?..

Што было перад фізікай?

Усё тое самае, але не падзеленае на суб'ект і аб'ект, усё тое самае, але не разасобленае на словы і справу, усё тое самае, што было сваім.

*

Чалавек упісваецца ў тое, што ёсць, і з таго, што ёсць, выпісваецца. Калі б ён быў адно ўпісаны, супадаў бы з тым, што ёсць, і калі б быў адно выпісаны — мінаў бы і яно для яго станавілася б мінулым. Але ён такі і гэтакі, ён усё яшчэ стаецца сабой — і, у знадворным сустракаючы адлюстраванне ўнутранага, да ўсяго мае дачыненне.

«Які вуглаваты чалавек —
за ўсё чапляецца...» — напісаў Янка Сіпакоў.

Чапляюся за верш.

*

У праграме дыскусія «Што такое беларуская літаратура?». Зададзены фармат — і ўсё, што тут ні скажу, загадзя меншае за тое, чаго не скажу, — меншае на самую беларускую літаратуру.

*

«Непачаты край работы!..» — абвяшчае спадарыня Святлана Вежнавец і паказвае рукою на агароды, засаджаныя бульбай, буракамі, агуркамі, памідорамі, морквай, капустай, гарбузамі ды кукурузай, на загарадкі, дзе рохкаюць свінні ды таўпехаюцца цяляты, на падворак і задворак, дзе корпаецца курыная гурма, на недакошаную лугавіну...

«Пачаты край!..» — кажу ёй насустрач. Яна любіць працаваць і, гледзячы на аднаго і другога суседа, што сярод белага дня злеглі ў траву, шкадуе найперш няспраўджаную справу.

Яны ёй нейкія сваякі, ды і самім Ратміравічам таксама, ды таксама й самой Беларусі, і той з іх, што мае прозвішча Сапега, вымаўляе яго калі з нейкім гонарам, калі з нейкаю вінаватасцю.

У свеце ідзе неабвешчаная вайна, і вось яны «ляжаць як падкошаныя». Ці — зваяваныя.

*

Ледзь павыторкваліся з зямлі, а ўжо чарвівыя — і баравікі, і падбярозавікі, і чырвонагаловікі... Пра што б ні вялася тутэйшая размова, яна закране і грыбную пару.

Гэта ад надвор'я, — кажуць адны.

Ад людзей, — дадаюць другія.

Людзі, надвор'е, грыбы — усё звязана між сабой так, што людзі не ведаюць, як усё гэта развязаць, а развязаўшы, звязаць нанова.

*

Чалавек да ўсяго мае дачыненне і на ўсё апраўданне, якое ўмяшчаецца ў словах: мусіць, так трэба.

Але любое «так трэба» вынік дзеяння, і ад таго, якое яно, гэтае дзеянне, залежыць, якім апынаецца тое «так трэба».

*

Страты выпадаюць з кругабегу часу і вядуць з чалавекам сваю размову, і ўсякая страта спрабуе даць яму нешта, чаго ўмясціць ён не ў стане і што нагогул не здольна куды б ні было ўмяшчацца, — б е з д а н ь.

*

Калодзеж зусім непадалёку — за падворкам, але гаспадыня, выходзячы з хаты, накладае на дзверы замок.

«Адзін раз, не зачыніўшы хаты, пайшла ў лес, а вярнулася — сядзяць за сталом незнаёмыя людзі; другі раз, пакінуўшы дзверы адчыненымі, выйшла ў агарод, вярнулася, гляджу — па верандзе пахаджвае велічэзны сабака, ажно гэта воўк...»



Фота www.sputnik.by

Спадарыня Антаніна жыве ў Мурагах, у вёсцы, каля якое сніць свае сны возера Нешчарда і перад якою стаіць камень-валун з барэльефам Яна Баршчэўскага, аўтара «Шляхціца Завальні»: ён родам адсюль.

І самі Мурагі, аднойчы ўпісаўшыся ў «казкі і страшылкі» знакамітага земляка, хоцькі-няхоцькі, а і дагэтуль адчуваюць на сабе іхняе ўздзеянне.

*

Той, хто шукае Сэнс, пакуль шукае, не можа Яго знайсці.

Сэнс знаходзіцца, калі той, хто шукае, сам апынаецца знойдзеным Ім самім, а таму й сабою.

Самы відушчы пошук — імкненне.

*

Калі думкі птушкі — сінее неба;

калі думкі рыбіны — цякуць рэкі;

калі думкі пчолы — цвітуць кветкі, і вытлумачвае сам сябе свет.

*

Асабовасць — камень, укінуты на ўскрай мора. Яна безупынна шліфуецца, пакуль не выбавіцца ад краёў і няроўнасцяў, пакуль не стане дасканалай, пакуль канчаткова не супадзе з самім морам.

*

Гісторыя — геаграфія часу, і кожны яе абжывае па-свойму і знаходзіць у ёй сваю вотчыну і сваё месца.

*

«Она прекрасная сестра...» — трымаю ў руках даведку-атэстацыю, выдадзеную 11 лістапада 1936 года Надзеі Іванаўне Крыпан, медыцынскай сястры 1-й Мінскай Гарадской бальніцы, — маёй маці.

Ёй дваццаць чатыры гады: усемагчымыя выпрабаванні, сустрэчы, расстанні, страты, беды, перажыванні, — усё гэта яшчэ наперадзе. І праз усё гэта яна пранясе атрыманую даведку як наказ, якой яна мае быць, як запавет сваёй маладосці...

Папера пажоўкла, друкаваныя на машынцы літары пабляклі, а подпіс дырэктара клінікі, што стаіць пад даведкай-атэстацыяй, жывы і красамоўны: «Клумов».

Подпіс пад запаветам.

Подпіс-запавет.

*

Пасля месяца заняткаў новай мовай неспадзявана заўважыў, што яна да мяне не набліжаецца, а, наадварот, аддаляецца.

Прычына была на паверхні і адначасова мела глыбокую падаснову: стамілася імкненне — і перастала быць відушчым, а разам з ім пачаў згасаць і вынік.

Давялося адступіцца — вяртацца ў пачатак, калі тое, чым займаешся, табе ў цікавасць і ў адкрыццё.

*

Вершы, што пішуцца і чытаюцца, на якой бы мове ні былі напісаны, — транскрыпты мовы, што засталася ў пачатку, у тым пачатку, калі словам тварыўся свет.

*

Калі сустракаюцца двое, сама сустрэча становіцца нечым трэцім, што вызначае паводзіны тых дваіх і мае свой кшталт і модус.

*

Падышоў да той хаты, што пад ліпаю, і раптам, быццам іх нехта штурхануў знутры, дзверы адчыніліся...

Пакінутыя хаты — яны скрозь: і ў адной вёсцы, і ў другой, і ў трэцяй, на іх нават няма замка.

Хочаш — уваходзь, хочаш — усяляйся.

Але ўваходзіць не хочацца: у іх ужо нешта ўсялілася само — у іх усялілася нешта не тое.

*

«І са шчытом ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем», —

гэтымі радкамі завяршаецца знакаміты верш-выклік Алеся Дудара.

Прыйсце доўжыцца, краіна аддаляецца і западае за далягляд, і адно вершы становяцца тымі ваярамі, якія туды даходзяць — са шчытамі і на шчытах.

*

Калі знемагае агонь, тады пераймае ўладу дым і куродым аб'яўляе свае выявы.

Ім няма месца ў агні, але і без агню іх няма, і яны не гасяць яго дарэшты, а ўпрыгожваюць — аздабляюць сабой.

Аздобнае — месца, дзе вядуць сваю гульню самасці.

*

«Я не анёл», — кажа адзін і кажа другі.

Але між гэтымі словамі і між самімі гэтымі людзьмі істотная розніца: адзін спрактыкаваны махляр, другі амаль праведнік.

*

Школа не для таго, каб у ёй заставацца, а каб, асвоіўшы яе праграмы і засвоіўшы ўрокі, яе пакінуць.

«Можна было б, я пражыла б сваё жыццё яшчэ раз», — кажа руплівая гаспадыня з Роўнага Поля, знахарка — знаўца ўсіх зёлак.

Пытаюся ў яе сына, што ўсё ніяк не абзавядзецца сваёю сям'ёю: «Чаму твая матуля хоча заставацца ў тым самым класе на другі год?»

Ён не мае адказу.

Яна таксама.

Жыццё — школа.

*

Жук, Жукаў, Жукоўскі, Жуковіч, Жукаўскас... — «жук», што так спраўна паўсяляўся ў людскія прозвішчы, мае мецьне абы-якія і адно яму ўласцівыя асаблівасці, імі вызначацца, імі пазнавацца, імі атэставацца, хто ён і што.

Хто ён і што? Літоўскае слова žuklys падказвае знанае: рыбак.

*

Верш пераймае асаблівасці эсэ і апавядання, эсэ і апавяданне — асаблівасці верша.

Але асноўная асаблівасць прозы, што застаецца адно з ёю, у тым, што яна кажа тое, што выяўляе; і асноўная асаблівасць паэзіі, што, у сваю чаргу, застаецца адно з ёю, у тым, што яна выяўляе тое, што застаецца нявыказаным.

*

Старасць марыць пра маладосць...

Не зважаючы ні на што і ні на кога, спадар Леанід, якому трохі болей за восемдзесят, ідзе Доўгаю вуліцай і нясе галінку ружовага бэзу. Ідзе са старасці ў маладосць.

Аднак тая, каму ён яе аддае, не хоча станавіцца ягонай спадарожніцай і, пацешыўшыся ды прыняўшы ягоны дарунак, наўзамен уручае яму сцяблінку крапівы ды яшчэ сцёбае ёю.

Ён яе не выкідае, трымае і разам з ёю падаецца тойсамаю вуліцаю назад — з пяклівай адзнакаю маладосці на руцэ.

*

З кожнай наступнай прыступкай папярэдняя пакідаецца, калі не пакідаецца — наступная не асягаецца.

Перашкоды — набыткі, якімі належыць аваладваць;

набыткі — перашкоды, якія належыць адпускаць.

*

«Біце ў сэрцы іх, — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!..» — радкі з «Пагоні» Максіма Багдановіча.

Чужынцамі становяцца знутры, калі згасаюць у сэрцах агні, калі знадворнае засланяе ўнутранае, часовае — вечнае, поцемнае — святое, разумовае — боскае.

Мечы прызначаны для таго, каб імі змагацца з ворагам, наваць, забіваць, але ў вершы ў іх іншае прызначэнне. Яны маюць тое ж прызначэнне, што і меч, пра які ў Евангеллі гаворыць Ісус Хрыстос: «Не мір прыйшоў Я прынесці, а меч». Меч — не забіваць, а абуджаць, не знішчаць, а ўваскрашаць, не губіць, а аднаходзіць.

Мечы ў «Пагоні» аднаходзяць сваё і сваіх.

*

Быццё вызначае свядомасць — і ўсё роўна свядомасць застаецца дарэшты не ўбыцяванай;

свядомасць вызначае быццё — і ўсё роўна быццё застаецца дарэшты не ўсвядомленым.

Але ў самім чалавеку дзейсніцца тое «дарэшты», што вывадзіць яго за абсягі свядомасці і быцця ды іхняга распадабнення.

*

Мастацтва ва ўсім існым шукае падабенства, а знайшоўшы — адметнасці непадабенства, і калі знаходзіць — здзяйсняецца.

*

Мы тут, але нейкім чынам і там: калі б не былі там, не змаглі б знайсці дарогу туды.

Пачатак змяшчае ў сабе зярняты выніку і тым, што змяшчае, змястоўны.

*

Той, хто спяшаецца, наштурхоўваецца на тых, што наперадзе, той, хто вядзе сваю мэту з сабою, ідзе сваёю хадой.

*

«Кур!.. Кур!.. — канваір хапае дваіх дзяўчатак за плечы, за рукі, штурхае, паказвае рукой на далёкую вёску. Гэтак ён хацеў іх вызваліць, адсылаў іх, каб яны прынеслі яму курэй, аднак яны не паслухаліся і засталіся з усімі», — Феня Габрусёнак вытлумачвае паводзіны канваіра, што ёй запалі ў памяць.

Вясной 1943 года яна, васьмігадовая дзяўчынка, апынулася ў гурце жыхароў, якіх з-пад Асвеі карнікі гналі ў Мілавіды, дзе адных застрэляць, другіх, зачыніўшы, спаляць у пуні, трэціх адвядуць у Саласпілс, лагер зняволеных.

У той наяве нялюдскасці яна вышуквае хоць якія моманты чалавечнасці, вылучае іх, затрымліваецца на іх, зберагае…

А мне тая сцэна бачыцца па-іншаму. Двое дзяўчатак спрабуюць уцячы, канваір (латыш, а не немец) хапае іх, спыняе, крычыць: «Кур?!. Кур?!.», што па-латышску азначае: «Куды?!. Куды?!.»

Кажу пра гэта гаспадыні. Яна доўга маўчыць, урэшце згаджаецца: «Мусіць, так». Яна адчувае сябе нібыта вінаватай, што гэтак доўга жывіла ілюзію, я — што яе парушыў.

*

Калі ўзыходзіш, належыць узыходзіць усёю істотай, калі не ўсёю, то там, дзе не ўсёю, утвараюцца прагалы і трэшчыны, у якія правальваешся, у якіх захрасаеш, якімі захопліваешся — відочна ці невідочна, адразу ці паступова, часткова ці цалкам.

*

Дапытлівыя вышукваюць у творах класікаў «аблуды» — дзе яны што сказалі не так ці напісалі не тое.

Аднак ва ўсім напісаным вось гэтым творцам у гэтым месцы і ў гэтым тэксце невідавочным чынам заўсёды прысутнічае ўсё ім напісанае, у сказаным — нявыказанае і невыказнае, і ў невыказным ён сам увесь.

*

Каб траціць сілы, неабходна быць дужым, і каб быць дужым, неабходна траціць сілы.

*

Memento mori!

Помніць пра смерць заўсёды недастаткова. Памяць проста не тая інстанцыя, якая ведае пра смерць усё і з якою смерць лічыцца.

Адзіная інстанцыя, якая ведае пра смерць усё і з якою смерць лічыцца, — Бог: ён у самім чалавеку, у самой ягонай сутнасці, куды і смерць не мае доступу.

*

Не да ўсяго льга датыкацца рукамі: можна ўпэцкацца, апячыся, параніцца, думкамі — гэтаксама.

*

Сярод зімы вясна, і людзі няпэўныя ў сваіх паводзінах, не ведаюць, ці ім радавацца, ці смуткаваць.

Знаёмца з замежжа, віншуючы з Калядамі, апрoч усяго іншага зычыць «і цеплыні».

Адкладаю гэтае зычэнне на потым: цяпер цеплыня проста слата, проста гнілое надвор'е. Зычу сабе і краю снегу, завеяў ды маразоў.

*

Расстраляная літаратура…

Творцы расстрэльваліся і асуджаліся на зніяволенне найперш за тое, што яны творцы. І калі Фрыдрых фон Шлегель казаў, што гісторык — гэта прарок, звернуты ў мінулае, то паэт — прарок, звернуты ў сучаснасць: ён гаворыць тое, што асягае душа і ведае сэрца, а яна асягае больш, і яно ведае глыбей, чым якія б там ні было палітычныя праграмы і грамадзянскія маніфесты.

Адтуль, дзе іх няма, сюды, дзе мы ёсць, ідуць запаветы творцаў — іхнія лёсы, што сталіся мета-зместам саміх іхніх твораў.

*

Для таго, хто паварочваецца і йдзе назад, правае апынаецца левым.

Чалавек адначасова і правы, і левы: куды б ні ішоў, ён вядзе з сабой адваротны кірунак, і сонца апынаецца то перад ім, то за ім.

*

Гучныя заявы бы надзьмутыя пухіры: яшчэ адна, што зусім нядаўна была на слыху і ў языцах — аб выгнанні «чырвоных чалавечкаў».

Чырвоныя чалавечкі — што гэта? Дзе гэта? І хто іх намерваецца выганяць? Нейкія іншыя чалавечкі? Якія? Рабыя? Чым яны адметнейшыя ад чырвоных?

Агучаны і агучваны некім дыягназ-пастулат пра чырвоных чалавечкаў — ён і самадыягназ, з якога высноўваецца самаперш ая ўмова: «Знаўца, разбярыся з самім сабою!.. Урач, ацаліся сам!..»

*

Даражылава: парушаныя будынкі, занядбаныя сядзібы, але адна хата жывая, і сядзіба, агароджаная плотам, дагледжаная.

А перад самаю хатай, у агародчыку, дзе квітнеюць вяргіні, узвышаецца пудзіла — у яго чалавечая постаць, на ім чалавечыя апранахі.

Нашто яно тут?

Гаспадар, што наведваецца сюды з Полацка па суботах і нядзелях ды на святы, тлумачыць: «Некага — каб вітаць, некага — каб палохаць, некаму — дык і пажаліцца на сваю долю, а з некім дык і пасмяяцца з яе: гэта ўжо залежыць ад таго, хто як яго ўбачыць».

Ну а самая першая пазнака, якую яно аб'яўляе ўсяму наваколлю і кожнаму, хто сюды прыходзіць: у вёскі ёсць хата, у хаты ёсць гаспадар.

*

Ці захаваць смяротнае пакаранне, ці адмяніць — усякае адназначнае «так» і «не» будзе аднабокім і аднавокім: нешта праміне і нечага не ўлічыць.

Самыя істотныя законы, дзякуючы якім існуе і развіваецца грамадства, маральныя. Гэта вядома здаўна, і Скарына пра гэта нагадвае: «Раней за ўсе пісаныя законы, правілы і правы ўсім людзям дадзены быў адзіны ад Госпада Бога існы закон».

Дзейнічае гэты закон — Бог паварочваецца да людзей, не — адварочваецца, і вызваленае месца займаюць сурагаты — рабаўнікі, хлусы, аўтарытэты.

Наш час змяшаны: у ім выяўляецца і сутыкаецца і тое, і гэтае, і адно, і другое. Другое, ва ўсякім разе пакуль што, мае калі не большую моц, дык большую людскую ўвагу — перавагу.

І самі людзі пакуль што.

*

«Бяззубая літаратура…»

Аднак зубы і нават язык не тыя органы, якімі творыцца літаратура. І адно тады, калі яна вольная ад «зубастага», «языкастага», «гарластага» і яшчэ якога саўдзелу, кажа свае слова.

*

Калі якія радкі ў вершы творца знаходзіць недасканалымі, не адпаведнымі вершу, ён іх закрэслівае, перапраўляе, шукае адпаведнейшыя і, каб знайшліся, разам з імі правіць і перапісвае самога сябе.

Знаходзіць — аднаходзіць: у творчасці аднаходзяцца першаўзоры.

*

Папярэднія пакаленні не мелі такой магчымасці, затое вы цяпер наслаждайцеся — выносіць на людзі сваю тэзу адна лаўрэатка.

І гэта арыенцір? І гэта формула шчасця? І гэта наказ у дарогу? Каму? Мажорам? А духоўны рост? А абавязкі перад людзьмі і Богам?

Яўны ці няяўны гэты наказ ужо вісіць на дзвярах дамоў распусты, смакавальнікаў наркоты, алкаголікаў.

Няхай з гэтай тэзай пройдзе па іхніх слядах — па знявечаных жыццях, разбураных сем'ях, зламаных лёсах, і што пачуе — запіша.

Зводзіцца насалодай — у гэтым ёсць нешта згубнае.

Зводзіць насалодай — у гэтым ёсць нешта ганебнае.

*

«Да заўтрага́», — кажа, развітваючыся, Віктар Яндула з Мілавідаў. І вось гэтае га стаецца падставай, каб сюды вярнуцца, каб пачуць тое, чаго яшчэ не пачуў, каб, як у жывую хату, увайсці ў тутэйшую гаворку.

*

Зямля і неба — яны з'яднаны між сабою адваротнаю суадносінай. І адваротнаю суадносінай з'яднаны з сабой чалавек: нябесны — ён перакулены ў зямное, зямны — у нябеснае.

# Нішто не ператворыцца ў пыл



Анатоль ДЭБІШ

## У горне

*Самотаю сэрца агорне,*
*Бядой беспрасветнай дыхне.*
*Нібыта жалезу, што ў горне,*
*Жыццём выпрабоўвацца мне.*

*Чым болей турбот і навалы —*
*Тым прага свабоды мацней.*
*Жалеза падатлівым стала,*
*Каб сталлю дамаскай звінець.*

***

*Дзень паціху сыйшоў за пагорак,*
*Хутка ноч кужаль змроку саўе.*
*Старажытнымі рунамі зорак*
*Неба піша паданні свае.*

*Час праз Вечнасць імчыцца ўпарта,*
*Голас продкаў між змроку не знік…*
*Нібы вершнік крылаты на варту —*
*Выйшаў з хмараў сівых маладзік.*

## Распарасонілася неба

*Распарасонілася неба*
*Суквеццем красачак жывых.*
*Пасля дажджу паруе глеба,*
*І лёг туман на паплавы.*

*За лесам — сонца дагарае.*
*Чуцён царквы вячэрні звон.*
*І вечар дрэвы спавівае*
*У сон начны, салодкі сон.*

*Заняў паважна месяц срэбны*
*Трон ночы, нібы падзішах.*
*Распарасонілася неба,*
*Зямля, Сусвет, мая душа.*

## Растанне

*Хутка поўнач. На вуліцы змрочна —*
*бы ў склепе.*
*І чужое ўсё. Мы з табою — чужыя.*
*Ліхтары не гараць, як калісьці —*
*паслеплі*
*Вокны, веснiцы, ганкі —*
*нібы нежывыя.*

*Крочым вулкай пустою —*
*даўно не гаворым,*
*Нашы вусны марозам пякельным*
*скавала.*
*Аняменне і ціша. А толькі ўчора*
*Ўсё, дзе вокам не кінеш, —*
*цвіло, трапятала.*
*Пра каханні і шчасце шапталі*
*начамі*
*І ў абдымках спляталіся мы*
*да знямогі.*
*Ліхтары сарамліва блукалі за намі,*
*Шчодра кідалі гронкі святла*
*нам пад ногі.*

*Як зрабілася так, што чужымі мы сталі,*
*Што згубілі каханне сваё недарэчы?..*
*Заблукалі. Не там сваё шчасце*
*шукалі.*
*Ты — у золак пайшла, я кіруюся —*
*ў вечар.*

***

*У белым покрыве зямля,*
*Вядзе мяне праз пушчу сцежка.*
*Дадому сцелецца мой шлях,*
*Дзе маміна чакае ўсмешка.*

*Шатры ялін над галавой,*
*Бягуць насустрач мне бярозкі.*
*Кружляюць знічкі нада мной,*
*Ноч лепіць поўню — нібы з воску.*

*Мой шлях нялёгкі і даўгі, —*
*Ды, не зважаючы на стому,*
*Мінаю пожні і лугі,*
*Іду, праз многа год, дадому.*

*Вясну баюся прапусціць,*
*На зорных сцежках заблудзіцца.*
*А пад нагамі снег скрыпіць,*
*Бы ў хаце матчынай масніцы.*

## Ноч на Раство

*Ноч на Раство. Гамонка на падворку.*
*Чакаюць цуду — дрэвы, птушкі, люд.*
*На небе Батлеемаўская зорка*
*Ўзышла і асвяціла ўсю зямлю.*

*Куццю па місках маці разлівае.*
*А за сталом і бацька мой, і дзед —*
*Малітвы твораць і Яго чакаюць,*
*Каб Веру даць:*
*Хрыстос прыйшоў на свет.*

***

*Нішто не ператворыцца ў пыл,*
*І продкаў прах аднойчы*
*уваскрэсне,*
*Каб стаць малітвай, музыкаю, песняй…*
*Нішто не ператворыцца ў пыл.*

*Яны паўстануць з ямаў і магіл.*
*Як сонейка з-за хмар*
*дзянёчкам веснім…*
*Нішто не ператворыцца ў пыл,*
*І продкаў прах аднойчы*
*уваскрэсне.*

# Адамавыя сыны



Валянціна АКСАК

### Навіны

*Расчынены вокны,*
*уключаны радыё,*
*тэлік і ноўт,*
*а навіны*
*ўсё роўна*
*прыходзяць*
*з душы.*

### Маладая

*Ужо даволі*
*працяглы час*
*назіраю*
*за адным*
*зацятым двубоем.*
*Душы і цела.*
*Перамагае першая.*
*Напэўна, таму,*
*што —*
*маладая.*

### Ад Малухі — да Татухі

*Не хачу разбуці рабыніча, —*
*сказала Рагнеда*
*бастарду Малухі,*
*якому тая спрытная баба*
*выдумала радавод.*
*Не хачу прызнаці прыплоду*
*з прыполу махляркі, —*
*сказаў нашчадак Рагнеды,*
*абмінаючы*
*кірмашовую дзеўку,*
*і прышпорыў каня.*
*Але Татуха*
*не спыняе намераў*
*упісаць*
*у княскія метрыкі*
*свайго байструка.*
*Навука*
*кіеўскай ключніцы*
*ўпала*
*на гнойную глебу*
*базарнага Слуцка.*

### Шчодрая дзеўка Татуха

*Зазірнуць у шчылінку*
*княскае апачывальні —*
*любімы занятак*
*дваровае дзеўкі Татухі.*
*Ні праці, як Арыядна,*
*ані ткаць, як Пенелопа,*
*і ні кветкі ўзгадоўваць,*
*як каралева Бона,*
*яна не мае ахвоты.*
*Толькі пляткарыць*
*пра не ўбачанае*
*і не пачутае.*
*Княгіня шкадуе*
*шкадлівую дзеўку*
*і просіць Божачку*
*не караць*
*вельмі моцна дурнічку.*
*Татуха ж*
*шляхетную літасць*
*трактуе па-свойму*
*і шчодра*
*дамешвае чэмеру*
*ў акавіту княгіні.*

### Vol'e bene

*Перад Калядамі,*
*як пацеры,*
*перабіраю зычэнні*
*сваіх рэальных сяброўак.*
*Вось Лера некалі ўведала,*
*што я дужа люблю*
*гранічную шчырасць радкоў*
*Anne Sexton,*
*а таму можа й сёння*
*ўбяруся ў пухнатую футру*
*і пайду ў свой carport,*
*і ўсядуся зручна*
*ў надзейную і даўна любімую*
*Toyota Corolla Verso,*
*і ўключу рухавік,*
*і застануся ў камфортным аўто*
*назаўжды.*
*Ах Лера,*
*ты трохі спазнілася —*
*я ўжо развіталася*
*і з Таётай,*
*і з усімі шафёрскімі завядзёнкамі.*
*Ната ж хацела,*
*каб я, як найболей*
*падобнай была*
*да Sylvia Plath.*
*Ну, ясная рэч,*
*хто ж тады,*
*як не я,*
*у імя найвышэйшага*
*эратаўзрушання*
*па ўласнай ахвоце*
*мог голаў усунуць*
*у газавую печку.*
*Мілая Ната,*
*Ты, пэўна, не ведаеш,*
*што ў маёй кухні*
*спраўна слугуе*
*электрычная Bosch.*
*Аксана жадала*
*заўжды аднаго —*
*перадозу.*
*Ну й дажадалася —*
*нуль праміле ў мяне,*
*а яна ўся запойная.*
*І на канец*
*віртуальных*
*колькі зычэнняў*
*успомню.*
*Мовы пазбудуся, —*
*прарочыла Таня.*
*Як чуеце?*
*Адкажыце!*
*І розум пакіне*
*істоту маю*
*трапяткую, —*
*казала іншая Таня.*
*З гэтым няясна.*
*Пакуль што.*
*Мо на Каляды*
*не спраўдзіцца*
*ейны праклён,*
*і я,*
*пераажыўшы*
*amore*
*годна прайду*
*ўвесь свой шлях,*
*наканаваны Звышнім,*
*vol'e bene.*

### Хмурынкі, захмар'е і вечная цемень

*Закапалася ў нетры*
*вярдлівасці*
*і прыкрасці шлю*
*на каханых.*
*Мне б твае болькі, —*
*сказала зажурана Ніна,*
*жонка Пятра.*
*Не ладзіцца ў справах,*
*і вінаватыя ў тым*
*блізкія і дарагія.*
*Як добра,*
*што мой Міхаіл*
*не чуе ўжо*
*гэткай глупоты, —*
*прамовіла Ганна*
*і адвярнулася ў скрусе.*
*Захмар'е бясконцай*
*прамозглай зімы*
*так мне абрыдла,*
*што хочацца*
*без аглядкі ўцячы*
*ў край вечнага сонца.*
*Не бывае*
*такога на свеце, —*
*прашаптала зблажэлая Вольга.*
*Убачыўшы ейныя*
*чорныя вочы,*
*якія да леташняе вясны*
*глядзелі на сына*
*балтыйскім блакітам,*
*я ўраз зразумела,*
*што жывых спасцігае*
*толькі вечная цемень.*
*І яна абрынаецца*
*неспадзеўна тады,*
*калі ўжо не маеш*
*каму пажаліцца*
*на хмурынкі*
*на ранішнім аквамарыне.*

### Інспірацыя

*Манікюр.*
*Педыкюр.*
*Фрызура.*
*Рыхтуюся.*
*На ўсякі выпадак.*
*А раптам —*
*апошні прарыў да красы.*
*Вочы ў апачывальні*
*глядзяць з захапленнем.*
*Сукенка ў гасцёўні*
*ўсё тая ж*
*і тыя ж памеры.*
*Аднойчы*
*абраныя колеры*
*і сілуэты*
*жывыя*
*і праз сорак гадоў.*
*Акцэнты*
*на селязіне*
*і строга пазначаным стане*
*спраўныя і да сёння.*
*У суладдзі*
*з зяленівам зрэнак*
*зіхцяць*
*на шэрадзі*
*тлумнага вечара.*
*Зрэшты,*
*болей нічога*
*й не маю.*
*Сукенка ад мамы.*
*Твае вочы насустрач.*
*Цёплыя рукі*
*абапал дакліваага стану.*
*І інспірацыя —*
*на заўтрашні дзень.*

### Ідэальны святар

*Малады і натхнёны святар*
*раптоўна аднойчы прызнаўся*
*ў прыватнай гамонцы,*
*што ніколі не спавядае*
*сваіх родных і блізкіх.*
*На пытанне, чаму,*
*быў шчэ больш*
*нечаканы адказ,*
*што баіцца спакусы*
*выявіць свае*
*чалавечыя чуцці.*
*Гэта я разумею —*
*якая ж*
*можа быць*
*таямніца*
*між тымі,*
*каго любіш*
*і каму давяраеш.*
*Але зусім*
*мне няўцямна,*
*як жа можна*
*з міласкаллю*
*назаўтра вітаць*
*кожнага верніка,*
*які сёння*
*такі спіс правінаў*
*на споведзі распавёў,*
*што яго*
*самы час*
*ад царквы*
*адлучаць.*
*Бог пачуў*
*і зрэагаваў, —*
*усміхнуўшыся, кажа*
*мой сумоўца святарны.*
*І дадае,*
*што сам ён*
*толькі транслюе*
*ў нябёсы*
*пра няжытыя хібы*
*нашчадкаў*
*Адама і Евы,*
*і анічога пра іх*
*не носіць цяжарам*
*ва ўласнай душы.*

### Сэкс са скальпелем у руках

*Самахоць аддалася Дзянісу.*
*Падпалкоўнік медслужбы*
*прамаўляе паўшэптам*
*пра нешта ўзвышанае*
*і па-элінску бесклапотнае.*
*Вінадайныя словы ягоныя*
*цурчаць ручайком*
*па ўсіх маіх венах,*
*хмеляць думкі,*
*пазбаўляюць трывогі душу,*
*ацаляюць збалелае цела,*
*нараджаюць дзівосныя*
*гукі і вобразы,*
*запаўняюць наўколле*
*гармоніяй і весялосцю...*
*А як выплыла*
*з анестэзійнага аргазму,*
*то цвяроза ўсвядоміла,*
*што ніякі то быў*
*не Дзяніс,*
*а самы сапраўдны*
*Дыёніс.*
*Толькі ў спрытных*
*ягоных руках*
*быў не кубак*
*з гаючаю акавітай,*
*а скальпель,*
*бліскучы і гойстры.*

### Адамавыя сыны

*У Піліпаўку ўшлося чамусьці*
*пра Евіных дочак,*
*а ў Калядную ноч*
*усялякія згадкі пра іх*
*засталіся далёка,*
*дзесь за бліскаўкай*
*першае зоркі,*
*і з празрыстае хусты*
*агністага неба*
*ў душу паплылі*
*абрысы аблічаў*
*Адамавых сыноў,*
*і запаланілі мой свет*
*цёплыя ўсмешкі вачэй*
*гасцей трох вандроўных,*
*і азваліся яслі*
*першым новым,*
*нікім не паўтораным,*
*гукам,*
*і апынуліся*
*рукі мае*
*ў тваіх*
*любадайных*
*далонях.*

### На высокіх абцасах

*Піліпаўская ваўчыца*
*захлынулася*
*ва ўласным голасе.*
*Крывыя вечары*
*спруцянелі*
*ў падманным усходзе.*
*Калядны агонь*
*спапяліў*
*тваньгнілую.*
*Набываю пантофлі*
*на высокіх абцасах.*
*Выпраўляюся*
*ў абмаладзелую вясну,*


Малюнак Алега Амельчанкі, 2008 г.

*не даткнуўшыся*
*леташніх ходнікаў.*

### Вячэра з закаханым футбалістам

*А сёння восьмы год пайшоў,*
*як закаханая я ў футбаліста*
*аднаго вясёлага.*
*Пад вечар*
*ён вярнуўся*
*з нейкіх важных вельмі збораў*
*і так натхнёна распавёў,*
*што ўрэшце яму*
*той суп нясмачны,*
*але ж патрэбны дужа*
*для спартоўцаў,*
*што й я надумала*
*карміць яго*
*булёнам з морквай.*
*О не і не, —*
*пачула рэзкі тэнар, амаль фальцэт.*
*Не для таго*
*я так імкнуўся*
*да цябе,*
*каб зноў душыцца*
*гэтаю брыдотай.*
*Кумпяк з баравікамі, калі ласка!*
*І трошачкі шаткаванай капусты.*
*І для сябе асобна не гатуй,*
*калі ты сапраўды*
*мяне кахаеш.*
*Бо я ж вось*
*поліўку агідную*
*еў на зборах,*
*каб дзеля цябе*
*галоў*
*як найболей*
*забіваць.*

### Набуду каня рудагрывага

*Аксаміты й ядвабы адпрэчваю.*
*Забываю паркалі і кашаміры.*
*Сукно стала лямчыцца,*
*і таму адрынаю сувоі*
*даўнейшага ткацтва.*
*Нават лён улюбёны*
*не вабіць*
*кужэльнаю светлынёю,*
*не кажучы ўжо*
*пра шарачковае зрэб'е.*
*Ашчаджаю*
*рублікі й эўры,*
*даляры і талеры,*
*на якія*
*ўжо хутка*
*набуду*
*каня рудагрывага*
*і паеду на ім*
*за далягляд хваляўладны.*
*На захад.*

### Плато

*Убраўшыся калісь*
*у разнаколерную вясну*
*ў радзінным,*
*разлеглым на роўнядзі садзе,*
*усвядоміла раптам,*
*што хочацца ўверх*
*ад туманавага поплаву,*
*туды,*
*дзе па схілах пагоркаў*
*плятуць свае крозы*
*вінадайныя лозы,*
*і вінарні страчаюць*
*здарожаных пілігрымаў.*
*І пайшла без аглядкі,*
*каб не стаць*
*дзесь пры новым развоі*
*слупом саляным.*
*Шлях уверх*
*на высокіх абцасах —*
*асалода,*
*зраўнаная з кожнадзённым*
*эратаўрашаннем.*
*І вось скончыўся ўздым —*
*краявід без узгоркаў наперадзе.*
*Плато.*
*За якім — толькі строма.*
*Зноў па роўнядзі йду.*
*Ні квету лозаў, як у дзявоцтве.*
*І ні вінарняў, як у раскошы жыцця.*
*Цвяроза абрынуцца ў прорву —*
*найбольшы мой страх.*

### У сузор'і Арла

*Птушыны шлях —*
*найлепшы ў цёмным небе.*
*У ім ёсць зорка Альтаір,*
*якая так зіхціць,*
*што хочацца*
*навечна затрымацца*
*бліз гэтай знічкі жніўня,*
*якую па-арабскі*
*можна патлумачыць,*
*як лятучага Арла.*
*Ну а далей там*
*Чаруе зорка Таразед,*
*якую мы ўжо ведаем,*
*як тую,*
*што ў Арла спынілася.*
*Прыветную, прыязную,*
*лагодную і летуценную.*
*Ідзем па гэтым шляху,*
*які, што праўда,*
*спрэс туман —*
*Barnard 143.*
*Прыдумка Зеўса —*
*Эўропа, Іа, Калісто і Ганімед.*
*І шчэ мо восем, дзесяць,*
*шаснаццаць ці дваццаць пяць*
*планетаў у сузор'і жніўня,*
*якое па шляхох птушыных*
*імкне ў мой лёс.*
*Але ў завершшы —*
*хлопчык Альтаір.*
*Любімец Зеўса.*
*Птушка, што ляціць —*
*Арол.*

### Насалода жыцця

*Сёння быў дзень —*
*чароўная осім хаім.*
*Габрэі мяне зразумеюць,*
*пра што тут гамонка.*
*Дык вось —*
*пра осім хаім.*
*Гэта калі*
*ўсмешка ў вачох,*
*што насупраць,*
*за ранішняй кавай*
*замяняе*
*ўвесь свет за вакном,*
*і сонца можа працягваць*
*свой зімовы спачын,*
*калі за абедам дэсерт*
*праплыве раптам з кухні*
*ў схмялелую спальню*
*і Бетховен замоўкне*
*перад гукамі Джуліяні,*
*і калі вось цяпер*
*вогнішча й зоры,*
*і кубак гарбаты*
*адзін на дваіх.*
*Ну то — лэ хаім*
*за заўтрашні дзень*
*осім хаім.*

# Нябёсы стагоддзяў



Сяргей ПАНІЗЬНІК

### Бясконцае ў вечнасці жыццё

***«Такія нябёсы стагоддзяў,***
***як вочы ў Караткевіча Валодзі».***
***Данута Бічэль-Загнетава.***
***(Зборнік «Гускі вяртаюцца», 2020 г.)***

*Мы разбегліся па Мацерыку,*
*дзе гняздоўямі Гаўя, Каложа…*
*…Вось гляджу ў сваю Волту-раку.*
*Як пазнаць мне: чыё гэта ложа?*

*Пад нябёсамі белых буслоў*
*утрымала Данута на горцы*
*з хваляў Нёмана жменю слоў:*
*«Ўсё залежыць ад Створцы».*

*Вось вам праўда ўся… Аналой*
*слёзы грэе для Маці Божай.*
*А грахі свае чапляй*
*недаверак падгрэбсці зможа?*

*Благаславіла скрыжалі дарог*
*беражыстае Беларусі.*
*Кроў блакітную —*
*Гаўі мурог*
*акрыляць — ёй пакінулі гусі.*

***

*— А зладзеі не саскрабуць*
*нашу Памяць. Жураўка — высока!*
*Не за лежнасць мяне хай пабʼюць:*
*НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ кармлю сваім сокам.*

*Станіслаў і Генадзік са мной,*
*тата Яська, Марылечка-мама.*
*Зноў блакітнай крывёю вясной*
*для Жыцця мне адкрыецца Брама.*

*Вечнасць — гэта Прадвесніка знак*
*на магутнае крылле паэта…*
*Для Бясконцасці (хто з нас лайдак?)*
*паслужу: Беларусь мне — планета!*

*Так, Нябёсы Стагоддзяў пры мне,*
*і малітва душы ў кожным вершы.*
*Як вяртаюцца гускі вясне, —*
*мне вяртаецца Ойча з-пад Вежы.*

*Валадарства яго не міне*
*ранкам, днём, у намоленым сне —*
*з Роднай Нацыяй*
*быць у суцешшы.*

*P.S. Гора дні не ў Горадні*
*і не ў падваротні…*
*Я ў шчаслівай святасцю*
*светлае Гародні,*
*дзе даўно быў з ветласцю радасна*
*крануты*
*лёзнымі падкрылкамі шчырае Дануты.*
*І не з путамі прымкнуты быў, — гожа*
*да падножжа асцярожнае Божае Каложы.*

**На Хрышчэнне Гасподняе, 2020 г.**

# Беларускія нарадавольцы



Уладзімір АРЛОЎ

**Пасля паўстання Кастуся Каліноўскага ў беларускіх губернях дзейнічалі асаблівыя жорсткія законы. Цяжэйшым стаў нацыянальны ўціск. Пад забаронай заставалася беларуская мова. На ёй нельга было друкаваць кнігі, газеты і часопісы, забаранялася размаўляць у дзяржаўных установах. Расейскія ўлады за ўвесь час гаспадарання на нашай зямлі не дазволілі адчыніць аніводнай беларускай школы. З 1840 года забароненай была і сама назва «Беларусь». Невыпадкова якраз яе каліноўцы ўзялі для свайго паролю. Каланізатарам не ўдалося запалохаць край. На змену ваярам 1863-га прыходзілі новыя адважныя людзі...**

## Людзі нязломнага духу

У 1870-я гады ў Расейскай імперыі набраў сілу рэвалюцыйны рух народніцтва. Многія з гэтых рэвалюцыянераў лічылі, што царызм можна перамагчы, калі «пайсці ў народ»: апрануць сялянскае адзенне, хадзіць па вёсках, раздаваць простым людзям кнігі, весці з імі гаворку пра тое, што нельга цярпець уладу цара і яго памагатых.

Але сяляне сустракалі такіх «хадакоў» насцярожана, часта здавалі іх паліцыі. Тысячы народнікаў і тых, хто ім спачуваў, былі арыштаваныя і засуджаныя на доўгія тэрміны. Расчараваўшыся ў «хаджэнні ў народ», частка рэвалюцыянераў пастанавіла перайсці да збройнага змагання і стварыла падпольную партыю «Народная воля».

Адзін з першых народніцкіх гурткоў у Беларусі заснавалі ў Магілёве навучэнцы мужчынскай гімназіі і духоўнай семінарыі. Такія гурткі дзейнічалі ў Менску, Віцебску, Слуцку, Воршы, Горы-Горках, Пінску.

Вядомымі народнікамі сталі нараджэнцы беларускіх губерняў Мікалай Судзілоўскі, Рыгор Ісаеў, Анатоль Бонч-Асмалоўскі, Антон Барэйша, Сяргей Кавалік, Язэп Лукашэвіч, Геся Гельфман. Яны прайшлі праз арышты, турмы, сібірскую катаргу, але не гублялі веры ў сваю праўду, захоўвалі гонар і годнасць.

## Язэп Лукашэвіч

Гэты народнік (родам з-пад Вільні) быў прысуджаны да пажыццёвага зняволення ў страшнай Шлісельбургскай турме. Праз некалькі гадоў вязням дазволілі перадаваць кнігі, і Язэп стварыў «турэмны ўніверсітэт». Зняволеныя рэвалюцыянеры займаліся геалогіяй і біялогіяй, хіміяй і фізікай, псіхалогіяй і філасофіяй.

Шлісельбургскія «студэнты» захапляліся самаахвярнасцю «прафесара» Лукашэвіча. Калі ў часе лекцыі яму трэба было маляваць геалагічныя карты або схемы, Язэп для чорнай фарбы браў копаць з турэмнай сцяны, для сіняй — сашкрабаў пазногцямі сінюю палоску на сцяне камеры, а для чырвонай ужываў уласную кроў.

Улада вырашыла выкарыстоўваць навуковыя распрацоўкі вязняў. З імі дазволілі звязацца аднаму з пецярбургскіх музеяў. Лукашэвіч з таварышамі атрымаў замову скласці калекцыю па батаніцы, мінералогіі ды палеанталогіі (навуцы пра выкапнёвыя парэшткі раслін і жывёлаў) для Сусветнай выставы 1889 года ў Парыжы. Калекцыя была адзначаная залатым медалём, аднак на выставе ніхто так і не даведаўся імёнаў сапраўдных лаўрэатаў.

## Геся Гельфман

У арганізацыях беларускіх народнікаў было нямала жанчын. Адна з іх — мазыранка Геся Гельфман — наймала ў Пецярбурзе кватэру, дзе нарадавольцы выраблялі бомбы для забойства цара Аляксандра II. Жандары высачылі і схапілі Гесю.

Маладую жанчыну прысудзілі да смяротнага пакарання на шыбеніцы. Але нарадаволька павінна была нарадзіць дзіця, і ў многіх еўрапейскіх краінах разгарнулася змаганне за яе жыццё. У Лондане і Брусэлі адбыліся мітынгі ў падтрымку Гесі. Цару прыходзілі сотні лістоў з патрабаваннямі захаваць ёй жыццё. Адзін з такіх лістоў напісаў французскі пісьменнік Віктор Гюго.

Хадайніцтва памілаваць рэвалюцыянерку на імя расейскай імператрыцы падпісала тысяча італьянак. Еўрапейская кампанія ў абарону Гесі Гельфман змусіла царскіх суддзяў замяніць смяротную кару вечнай катаргай, ды самой нарадавольцы пра гэта не паведамілі.

Да нараджэння дзіцяці заставалася чатыры месяцы. Турэмныя каты не пакідалі дапытваць Гесю, марна спрабуючы вырваць у яе паказанні. Пра замену прысуду сказалі адно перад родамі. У хуткім часе Геся, пазбаўленая дапамогі дактароў, памерла. Ненадоўга перажыло маці і няшчаснае дзіця.

Так распраўляліся з тымі, хто меў адвагу кідаць выклік царызму...

## Прэзідэнт Гавайскіх астравоў

Адзін з самых знаных у свеце беларускіх народнікаў — магілёвец Мікалай Судзілоўскі.

Студэнт-медык Кіеўскага ўніверсітэта, ён быў у ліку выдатнікаў. Захапіўшыся рэвалюцыйнымі ідэямі, Мікалай узяў удзел у «хаджэнні ў народ». Адурманеныя царскай прапагандай сяляне данеслі на Судзілоўскага ў паліцыю. Каб уратавацца ад арышту, ён назаўжды пакінуў імперыю.



Выбух другой бомбы падчас забойства расейскага імператара Аляксандра II. Малюнак Арнольда Балдынгера, 1881 г.



Ігнат Грынявіцкі (1856–1881)

Мікалай стаў доктарам медыцыны, але адмовіўся ад спакойнага заможнага жыцця, якое яму магла даць гэтая навуковая ступень. Пасяліўшыся ў Румыніі, Мікалай Судзілоўскі займаўся пастаўкамі зброі балгарскім паўстанцам, што змагаліся з турэцкім прыгнётам. У адным з рэстаранаў Бухарэста былы народнік зладзіў святочную вячэру ў гонар Парыжскай камуны.

Ратуючыся цяпер ужо ад румынскай паліцыі, Судзілоўскі трапіў у Амерыку. Ён жыў на Гавайскіх астравах і праславіўся там як лекар, што вярнуў здароўе сотням безнадзейна хворых астраўлянаў. Па сваёй натуры былы народнік не мог заставацца ўбаку ад палітыкі. Гаваі імкнуліся да незалежнасці ад ЗША, і Мікалай Судзілоўскі далучыўся да змагароў за свабоду. Ён меў такі вялікі аўтарытэт, што гавайцы абралі яго спачатку сенатарам, а потым і прэзідэнтам Гавайскіх астравоў.

Пазней Судзілоўскі жыў у Японіі ды Кітаі, авалодаў мовамі гэтых краін. Ён застаўся ў гісторыі як падарожнік і географ, адкрыў некалькі астравоў у Ціхім акіяне. Разам з тым быў здольным хімікам, біёлагам і аграномам.

Цягам усяго жыцця Мікалай Судзілоўскі заставаўся верны юначым народніцкім перакананням. Калі ў Расеі перамаглі бальшавікі, ён адмовіўся вяртацца на радзіму, бо прадбачыў, што яе чакаюць цяжкія выпрабаванні. Як толькі ў савецкай Расеі пачаўся голад, былы народнік арганізаваў першы ў Азіі «Камітэт дапамогі галадаючым Расеі».

Пра Судзілоўскага ў розных краінах свету напісаныя сотні нарысаў, артыкулаў і кніг.

**Рэвалюцыянеры памыліліся: ніякіх хвалянняў у народзе забойства цара не выклікала, а палітыка новага ўладара імперыі стала значна больш жорсткай**

## Запавет Ігната Грынявіцкага

Партыя «Народная воля» асудзіла цара Аляксандра II на смерць. Рэвалюцыянеры разлічвалі, што выкананне гэтага прысуду выкліча ва ўсёй імперыі народнае паўстанне. З сарака сямі добраахвотнікаў, што хацелі прынесці жыццё ў ахвяру дзеля перамогі рэвалюцыі, кіраўніцтва «Народнай волі» абрала чатырох. У гэтую групу трапіў Ігнат Грынявіцкі.

Ігнась быў сынам беларускага шляхціча. Ён вучыўся ў Беластоцкай гімназіі. Там даведаўся пра таемнае таварыства «Вайсковыя сябры», што некалі сарвала ў размешчаных вакол Беластока імперскіх палках прысягу Мікалаю I. Юнак ведаў імёны герояў 1863 года Кастуся Каліноўскага, Валера Урублеўскага, Зыгмунта Серакоўскага. У рукі беластоцкіх гімназістаў траплялі нумары газеты «Мужыцкая праўда». Ужо тады Ігната захапіла мара вызваліць Айчыну ад царскага прыгнёту.

З гімназічным атэстатам, дзе былі толькі выдатныя адзнакі, Грынявіцкі быў залічаны ў сталічны Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Выкладчыкі адразу вылучылі бліскуча падрыхтаванага і адказнага юнака. Яму абяцалі выдатную кар'еру інжынера або вучонага. Але Ігнат неўзабаве ўступіў у «Народную волю». Ён збіраў грошы на патрэбы палітычных вязняў, гаспадарыў у так званай «нябеснай канцылярыі», дзе рабілі неабходныя рэвалюцыянерам дакументы. Адначасова Грынявіцкі ўвайшоў у лік тых, хто сачыў за паездкамі цара, а затым — тых, каму даручылі выканаць смяротны прысуд.

Напярэдадні дня, вызначанага для рашучых дзеянняў, Ігнат склаў запавет. Ён прадбачыў, што ягонае маладое жыццё хутка абарвецца. «Недалёкая будучыня пакажа: мне або іншаму давядзецца нанесці апошні ўдар, рэха якога разнясецца па ўсёй Расеі, — пісаў Грынявіцкі. — Што будзе далей? Ці шмат яшчэ ахвяраў запатрабуе няшчасная радзіма дзеля свайго вызвалення?»

Гэты апошні ўдар 13 сакавіка 1881 года выпала зрабіць якраз беларусу Грынявіцкаму. Пасля выбуху бомбы на набярэжнай Кацярынінскага канала ў Пецярбурзе Ігнат перажыў імператара ўсяго на некалькі гадзін.

Рэвалюцыянеры памыліліся: ніякіх хвалянняў у народзе забойства цара не выклікала, а палітыка новага ўладара імперыі — Аляксандра III і ягоных міністраў стала значна больш жорсткай.

Сродкі змагання нарадавольцаў былі памылковыя, аднак гэтыя мужныя ахвярныя людзі заслужылі памяць нашчадкаў.

## «Гоман» загаманіў пра Беларусь

Ігнат Грынявіцкі помсціў цару і за расправу над каліноўцамі, і за тое, што была пад забаронай для друку і ў школах беларуская мова, што нельга было карыстацца самім найменнем «Беларусь».

У 1884 годзе пецярбургскія студэнты з Беларусі выдалі два нумары часопіса «Гоман». Грынявіцкага яны называлі папярэднікам і гарачым аднадумцам. «Мы — беларусы і павінны змагацца за інтарэсы беларускага народа», — гаварылася ў першым выпуску «Гомана».

«Гоманаўцы» заклікалі суайчыннікаў не абмяжоўвацца вывучэннем роднага краю і асветаю яго жыхароў. Яны пераконвалі беларусаў, што ім неабходна змагацца за палітычныя правы. Аўтары часопіса сцвярджалі: Беларусь мае магутныя сілы, у якія трэба ўрэшце паверыць. «Гоман» нагадваў пра жыццёвую трываласць беларусаў, што не зрабіліся ні палякамі, ні расейцамі. З гонарам успамінаючы вызвольныя паўстанні 1831 і 1863 гадоў, часопіс прадказваў, што хутка распачнецца новы этап барацьбы за будучую самастойнасць Айчыны.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ВІКТАРЫНА

### Гістарычная віктарына

1. Хто такія народнікі?
2. Хто з вядомых народнікаў паходзіў з Беларусі?
3. Як працаваў «турэмны ўніверсітт» Язэпа Лукашэвіча?
4. Чаму ва ўсёй Еўропе змагаліся за жыццё Гесі Гельфанд?
5. Чым адметны жыццёвы шлях Мікалая Судзілоўскага?
6. За што варты пашаны беларус Ігнат Грынявіцкі?
7. Што пісаў пра беларусаў і Беларусь часопіс «Гоман»?

# Ахінуты матыльком і бліскавіцай

Віктар ЯРАЦ

**Игорь Шкляревский. Ожерелье сушёных грибов. — Мінск: Кнігазбор (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»).**

Творы нашага земляка Ігара Шклярэўскага, які займеў трывалае месца ў сучаснай рускай літаратуры, прыцягваюць да сябе адразу. Яны ўражваюць. Не адпускаюць. Запамінаюцца...

«Ожерелье сушёных грибов» даволі шматпланавае — тут не толькі «Стихи, поэмы, эссе», звязаныя тэматычнай дамінантай з роднай аўтару Беларуссю. Акрамя гэтага — і пераклады-пераствараэнні на сучасную рускую мову паэм «Песня пра зубра» і «Слова пра паход Ігаравы», напісаных паводле анатацыі «выхадцамі з беларускіх земляў», і аб'ёмная, па-сапраўднаму




змястоўная, з моцным пульсам праблематыкі нашай рэчаіснасці гутарка паэта з Міхасём Скоблам пад назвай «Залатая блешня і каралі сушаных грыбоў»...

Паэзія Ігара Шклярэўскага натуральна пантэістычная па сваёй сутнасці, па разуменні дыялектыкі ўсяго жывога, адкрытай і прыхаванай ад людскога вока сувязі ўсяго існага.

У паэта і страказа, і мурашка, і жук-плывунец, і самая дробная кузюрка — не антураж і не экспанат у заалагічнай калекцыі, як і кожная зёлка, расліна і лісток — не для гербарыя натураліста. Для яго ўсё гэта — і ён сам. І ён адначасна і зямны, і нябесны, бо ў ім і з ім і подых неба, і зямная дрогкасць.

А пачынаўся шлях у нязведаны свет у напаўгалодным дзяцінстве па-юнаму дзёрзка, са смелым эпатажам насуперак далёка не ласункавым пасляваенным гадам:

*Знаешь, кто я такой*
*с перебитой рукой*
*и в одежде, висящей нелепо?*
*Заместитель директора синего неба.*
*Главный бухгалтер ворон.*
*Дирижёр приднепровского*
*майского жабьего хора.*
*Я парад журавлей*
*принимаю с вершины забора!*

Усё самае істотнае ў вершах, паэмах, перакладах І. Шклярэўскага — ад любові сапраўднай, без позы і крыку з эстраднымі рэверансамі, без шматслоўнасці. Ён надзвычай лаканічны ва ўсіх жанрах, дзе мастацкая сіла, гарманічная бездакорнасць дасягаюцца ёмістасцю сродкаў, асацыятыўнай энергетыкай, маляўнічасцю вобразаў, учэпістай зрокавасцю параўнанняў:

*Там баркалабовские грозы*
*Прошли, и мокрые стрекозы*
*блестят у брата на спине.*

*Там детство ловит в быстрине*
*форель прохладно-золотую,*
*и ласточкой в моём окне*
*там счастье ставит запятую.*

Тое, што кожны творца (паэт і празаік, драматург і жывапісец, кампазітар і дойлід, скульптар і даследчык слова з божым дарам) «родам з дзяцінства» — засведчана тысячы разоў. Адтуль, ад першых крокаў па зямлі, тчэцца ніць жыцця кожнага, хто прыходзіць у гэты свет, ніць, якая нярэдка можа абарвацца так дачасна:

*Я помню этот звон в ушах*
*и эту странную весёлость.*
*От магазина в трёх шагах*
*вдруг возникает невесомость.*
*И я смеюсь...*
*Буханка хлеба*
*меня не отпустила в небо.*

У гэтых радках з фрагмента ўспамінаў пра дзяцінства («Стихи о невесомости») — непрыхарошаны і без сентыментальнасці паказ якраз таго пачатку шляху, на якім будзе ўсё: і шчодрасць людская, і скваппасць, і шчыры давер, і хціві падман. Будзе, як было вякамі: і цемра, і зло. Але ж будзе — і надзея. На светлыню, чысціню, высакародства, любоў, дабрыню.

Незаможная дзяцінства і маладосць згадваюцца часта як свята. Высновы ўзрост расквечаны шчодрасцю пачуццяў, разнасцежанай завяззю спадзяванняў, жаданнямі дасягнуць нават немагчымага. З гадамі паэт, па-філасофску асэнсоўваючы пройдзеныя дарогі, спакойна, без клічнікаў, прызнаецца:

*Когда на берегу Днепра*
*ночь коротаю у костра,*
*лицом горю, спиной дрожу,*
*под бок подсовываю сено*
*и до утра в костёр гляжу,*
*мне кажется, что я живу*
*во всех веках одновременно.*

Для І. Шклярэўскага верш, у якім болей чатырох катрэнаў, ужо досыць аб'ёмны. Шануючы вагу слова, ён імкнецца быць як мага больш эканомным, сціслым у лексічным плане. І ў сюжэтным, зусім не кароценькім творы «Воспоминание о славгородской пыли», у якім амаль пратакольнае хранікёрства, россып фактаў (што тлумачыцца мастацкімі прынцыпамі адпаведнага паказу, «заземленага» да самых драбніц — побытавых, паўсядзённых — адлюстравання), усе дэталі шчыльна спалучаны ў шырокай апавядальнай плыні.

Пры ўсім гэтым — ніякай прахаднай, інфантыльнай ілюстрацыйнасці. Падпарадкаванасць агульнай задуме стварэння рэалістычнага палатна — без псеўдапафаснасці, без трубадурства. З другога боку — без снабісцкага скепсісу і распаўсюджанай бадзёра-лёгкай гуллівасці. Ад падобных рэцыдываў імунітэт Ігара Шклярэўскага з гадамі ўсё больш аберагаў, усё болей узмацнялася арганічнае неўспрыняцце гульні ў паэзію, у заняткі рыфмавання з мэтай пацешыць і здзівіць кагосьці ўмельствам вершаплёцення...

Душа лірычнага героя (а ён жа — сам паэт) пратэстуе супраць насілля, жорсткасці, хцівасці, чэрствасці, якія ўсё болей запалоньваюць людзей, адбіраючы ў іх шчырасць, давер, спагаду, узаемаразуменне і ўзаемападтрымку. Паэзія заклікана дапамагчы спыніць працэс дэградацыі чалавека ў чалавеку.

Паэт б'е ў звон трывогі. Але звон гэты не аглушае гучнасцю металу. Ён без істэрычных канвульсій, без мітуслівай эстраднасці. Нервы мелодыі — аголены элекрычны провад. Там, дзе неабходна сур'ёзна думаць, разважаць, турбоціцца, бяссонны званар не дазваляе сабе ладзіць «пир во время чумы» ці скакаць польку-весялуху...

Нярэдка імпэтны, энергічна-мускулісты ў радках Ігар Шклярэўскі не імкнецца прыхарошваць, ідэалізаваць сваю асобу. Ён — не ўдзельнік кастынга, дзе на подыуме намагаюцца зарабіць як мага больш балаў ад членаў журы і ўцешных ухвал прыхільных сузіральнікаў. У яго ацэнка сябе самога (і юнага, і сталага) — самакрытычная, без рэтушы:

*Деревянные руки и ноги,*
*деревянный казённый язык*
*да ещё этот шарфик убогий,*
*а под ним, словно камень, — кадык.*
*Я — убожество! Ты — божество!*

У героя твораў нямала прэтэнзій да самога сябе. Затое ён здольны любіць і разумець, слухаць словы і маўчанне іншых у розных абставінах — як у цалкам беларускай па геаграфіі, па пафасе, сялянскім укладзе жыцця (а ў многім — і па лексіцы) паэтычнай хроніцы «Жалоба счастья»:

*Руки болять! Ноги болять!*
*Клевер скосили. Жито поспело.*
*Жито собрали. Сад убирать.*
*Глянешь, а греча уже покраснела.*
*Гречу убрали. Лён колотить.*
*Лён посушили. Сено возить.*
*Сено сметали. Бульбу копать.*
*Бульбу вскопали. Хряка смолить.*
*Клюкву мочить. Дро́вы пилить.*
*Ульи снимать. Сад утеплять.*
*Руки болять! Ноги болять!*

Адзінаццаць радкоў. У кожным (за выключэннем адзінага — чацвёртага) па два сказы з двух слоў — назоўніка і дзеяслова. Эфект дасягаецца рэалістычнасцю і лаканізмам, дакладнай ёмістасцю ў паказе кругавароту простых, без сенсацый, будзённых клопатаў, без якіх будуць галоднымі і генералы, і міністры, і касманаўты, і артысты...

Калі ж гаварыць пра майстэрства паэта жывапісаць, ствараць адпаведны настрой — то яно бездакорнае, з непрыхаванымі сімпатыямі да фраз пластычных, паўнаважкіх, дзе прысутнічае той магнетызм, які бярэ ў палон самім гучаннем паяднаных у цэлае чуйна выбраных слоў: «Ткётся и светится дождик грибной», «Желтеет мокрая дорога», «Снятся мне затонувшие швы...», «Закроешь глаза — подосиновик!», «Грибного детства снится мне трясина», «Вечерами таинственно-синими»... Не ў кожнага сустрэнеш такія два сціслыя радкі, у якіх — шырокі прастор для асацыяцый і багатая меладычная гама:

*Кончались летние каникулы,*
*и вёсла в заводи курлыкали.*

Калі ў паэтычным раздзеле «Могилёвская круча» беларуская тэматыка дамінуе, то ў цыкле «Неопалимое», складзеным з сямі лаканічных эсэ, яна гаспадарыць скрозь. Нават у кароценькіх запісах з назвай «Грибное ожерелье» — непаўторны пах беларускіх грыбоў, якімі ў Пецярбургу паэт частуе карыфея філалогіі Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова, даследчыка старажытнай літаратуры ўсходніх славян, ганаровага доктара многіх еўрапейскіх універсітэтаў (у тым ліку — Оксфарда, Парыжа, Эдынбурга).

Эсэістычны раздзел можна назваць своеасаблівымі лапідарнымі нататкамі (некаторыя з іх — меней за старонку). Індывідуальныя рысы, асаблівасці персанажа даюцца і сцісла, і ёміста: «...в редакцию журнала идёт и наслаждается свободой, раскуривая папиросу «Беломорканал», — Рыгор Берёзкин. В светлой кепке и в светлом плаще...». «Наслаждается» — не дзеля нейкай пабочнай рэакцыі. Бо зведаны рэпрэсіі і жах сталінскай канцлагершчыны. Спазнаны голад і здзекі. І далей — тэлеграфна-пункцірна: «Любую фальшь в поэзии он чувствовал за километр, как волк!».

Аўтар вядзе чытача па Мінску самага пачатку 60-х гадоў, знаёмячы з паэтамі старэйшага ўзросту: «Вдали видна сиятельная голова добрейшего Петра Устиновича Бровки», «А вот и синеглазый Пимен Панченко, прищурился и весь сияет, написал стихи «Мінск едзе па грыбы» — «Непагоды паняло жоўтых лісцяў намяло...». А разам са старэйшымі — ідзе з маладзейшымі: Навумам Кіслікам, Яфімам Лапушыным, Рыгорам Барадуліным, мастаком Барысам Забаравым, у якога ўсё самае значнае, па-еўрапейску шматфарбнае і з падтэкстам — яшчэ наперадзе і тут, і ў Парыжы... Пра свайго сябра Рыгора Барадуліна, якога І. Шклярэўскі па-майстэрску перакладаў рэльефна, вобразна — у эсэ «Бородулин — это не фамилия...». Тут цэлы каскад параўнанняў: «это отзвук дыхания, отраженный ведром у колодца, — нагбом», «это метафоры, которые, как под дождем, произросли в его живучем словаре», «это озимая рожь белорусского языка». И на завяршэнне, як цвёрды вывад: «Ведь Бородулин — это навсегда».

Паэт прызнаецца ў любові гораду сваёй маладосці — сталіцы Беларусі («Ода городу Минску»): «Минск — город, полный воздуха, квадратов синевы, просветов, далягляд — выход есть, и ты его найдёшь...». А «Оперный театр на холме напоминает римский Капитолий...».

Роднаму брату прысвечана «Радуга Олега Шкляревского» — цёплы і змястоўны аповед пра аўтара неардынарных дакументальных фільмаў «Тонежскія бабы» і «Пранясі, Божа, хмару». Іх лічаць нават шэдэўрамі свайго жанру...

Арганічна ўпрыгожваюць «Ожерелье...» пераклады паэмы беларускага аўтара, прадстаўніка гуманізму эпохі Адраджэння Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» і «Слова пра паход Ігаравы»...

І. Шклярэўскі ішоў сваім шляхам: ён не дапаўняў, не расцягваў аб'ём тэкста. Наадварот, у сваім «вольном переводе» імкнуўся да мастацкага лаканізму, не капіруючы ўвесь лексічны маштаб і не дапісваючы тое, што ў тэксце адсутнічае.

Пераклад «Слова пра паход Ігаравы» на сучасную рускую мову І. Шклярэўскім акадэмік Дз. Ліхачоў лічыў адным з найлепшых і ў мастацкіх адносінах, і ў адпаведнасці яго рэаліям даўніх часоў: фальклорна-песенным традыцыям, дэталям побыту, этнаграфічным адзнакам, воінскай атрыбутыцы... У рукапісе вялікага твора маюцца мясціны, якія па-рознаму ўспрымаюцца і сёння. Ёсць, напрыклад, назоўнік «бель». У перакладзе Янкі Купалы «бель» — «белка». І гэтая вавёрка скача не толькі ў Купалы: «Дань берут по белке со двора» (у Забалоцкага), так і ў некаторых іншых аўтараў. Рыгор Барадулін пакінуў няпэўнае для яго нераскрытым: «...з двара па белі даніну бралі». Ігар Шклярэўскі дае сваю версію: «...и по белой монете дань берут со двора».

Вельмі чуйная да слова мая мама Любоў Трафімаўна словам «бель» называла маладую незамужнюю дзяўчыну. А ў беларусаў — столькі светлых і сінявокіх прыгажуняў! І гэтае слова яна, хутчэй за ўсё, пераняла, узяла для свайго набытку ад роднай маці, ад мясцовых жыхароў.

Этымалагічныя карані — у сівой мінуўшчыне, якая даносіць да нас свае важкія, незамутнёныя стагоддзямі водгукі...

А беларуская зямля ўзбагаціла ўсю найноўшую рускую паэзію, як мінімум, двума па-славянску шчодрымі аўтарамі: Яраславам Васільевічам Смеляковым і Ігарам Іванавічам Шклярэўскім. З прапіскай, не абмежаванай часам.

*Паэзія заўсёды ахінута ледзь чутнаю малітвай матылька і дрогка-вогненным прызнаннем бліскавіцы...*

**P.S.** *У паэзіі і пудра на крыльцах матылёў можа быць цяжэй імшыстых валуноў.*

**Тэкст друкуецца ў скароце.**

# Месца пахавання Данііла Хармса

**У Санкт-Пецярбургу ўстаноўлена дакладнае месца пахавання пісьменніка Данііла Хармса. Цяпер прыхільнікі таленту літаратара могуць успамінаць пра яго на Піскароўскіх могілках — у раёне брацкіх магіл нумар 9 і 23.**



Як распавёў пісьменнік, заснавальнік прэміі імя Данііла Хармса Аляксандр Марс, пошукі праводзілі на падставе мноства архіўных дакументаў. Яшчэ 4 гады таму арганізатары прэміі высветлілі, што паэт пахаваны на Піскароўскіх могілках.

Данііл Хармс загінуў у лютым 1942 года, падчас блакады, у псіхіятрычным аддзяленні турэмнага шпіталя ў «Крестах» на Арсенальнай набярэжнай, 7. Даследнікі вывучылі, куды нябожчыкаў вывозілі з «Крестов», і прыйшлі да высновы, што ў месяц смерці пісьменніка іх везлі менавіта на Піскароўскія могілкі. Заставалася знайсці брацкую магілу, дзе пахаваны Данііл Хармс. Для гэтага звярнуліся ў архіў могілак, там і паведамілі, што ў пачатку лютага 1942 года пахаванні праводзіліся ў сектары брацкіх магіл нумар 9 і 23. Дакладней месца, на жаль, назваць не магчыма.

Названыя магілы размяшчаюцца направа ад цэнтральнай алеі Піскароўскіх могілак, за Вечным агнём, недалёка ад крыжа ў памяць суайчыннікаў, якія загінулі пры абароне Ленінграда.

# Кнігавыдаўцу — 10 гадоў турмы

**Суд горада Нінбо правінцыі Чжэцзян Усходняга Кітая асудзіў затрыманага ў КНР шведскага выдаўца і публіцыста кітайскага паходжання Гуй Міньхая да 10 гадоў пазбаўлення волі «за шпіянаж на карысць замежнай дзяржавы».**

Рашэннем суда публіцыста «пазбавілі палітычных правоў на 5 гадоў». У пастанове суда адзначана, што Гуй Міньхай пагадзіўся з прысудам і заявіў, што не мае намераў абскарджваць яго, і папрасіў аднавіць яго кітайскае грамадзянства.

Шведска-кітайскі выдавец і публіцыст з Ганконга Гуй Міньхай распаўсюджваў кнігі, якія ўтрымлівалі крытыку палітычнага кіраўніцтва і кампартыі КНР. У кастрычніку 2015 года ён знік у Тайландзе, дзе адпачываў, пазней у СМІ апублікавалі інфармацыю, што ён і яшчэ чацвёра ганконгскіх выдаўцоў былі выкрадзены спецслужбамі КНР. У студзені 2016-га ў эфіры Цэнтральнага тэлебачання Кітая паказалі відэазапіс, у якім Гуй Міньхай паведаміў, што вярнуўся ў Кітай па ўласнай волі, каб адказаць за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане ў снежні 2003 года, калі ў ДТЗ загінула школьніца. Ён адседзеў у турме 2 гады, у 2017-м яго вызвалілі, але не дазволілі пакідаць межы КНР. Праз 3 месяцы Міньхая зноў затрымалі, калі ён ехаў у Пекін у цягніку разам з двума шведскімі дыпламатамі.

Прадстаўнік Amnesty Internationa Патрык Пун, назваўшы прысуд «сумным», заявіў: «Гуй Міньхай асудзілі таемна, што пазбавіла яго шанцаў на справядлівае судовае разбіральніцтва».

Улады Швецыі 25 лютага выклікалі кітайскага амбасадара ў Стакгольме, каб выказаць яму пратэст з нагоды прысуду і запатрабаваць вызвалення Міньхая. Прадстаўнік шведскага МЗС адзначыў: «Урад працягвае патрабаваць вызвалення Гуй Міньхая і прадастаўлення нам доступу да нашага грамадзяніна для аказання консульскай падтрымкі». Дачка Міньхая таксама патрабуе яго вызвалення. Паводле яе слоў, ён стаў ахвярай незаконнага палітычнага пераследу.

Прэс-сакратар МЗС КНР на брыфінгу заявіў, што правы Міньхая не парушаліся і што ўлады КНР дазволяць дыпламатам са Швецыі сустрэцца з Гуй Міньхаем пасля згасання каронавіруса.

У мінулым лістападзе ПЭН-клуб Швецыі завочна ўганараваў Гуй Міньхая прэміяй імя Курта Тухольскага, пра што па нацыянальным тэлебачанні паведамілі міністр культуры і дэмакратыі Швецыі Аманда Лінд.

## ПРЭМІІ

### Прэмія імя Іва Андрыча

**Аўтарытэтную міжнародную ўзнагароду — Прэмію імя Іва Андрыча — атрымала расійская пісьменніца Гузэль Яхіна (за раман «Дети мои»).**

Урачыстае ўзнагароджванне пераможцы праходзіла па традыцыі ў Андрычградзе — «горадзе-музеі», які быў створаны пры актыўным удзеле вядомага кінарэжысёра Эміра Кустурыцы ў Вішаградзе (Рэспубліка Сербская Босніі і Герцагавіны). Інстытут імя Іва Андрыча, журы якога прысудзіла ўзнагароду расійскай пісьменніцы, таксама ўзначальвае Эмір Кустурыца.

«Мы жывем у турбулентны перыяд, калі, часам, здаецца, што мы спускаемся ў мінулае, а вялікая гісторыя пагражае паўтарыцца, — сказала Гузэль Яхіна на ўручэнні ўзнагароды. — Неабходна зноў будаваць масты, у першую чаргу масты культуры. Раман Іва Андрыча «Мост на Дрыне» завяршаецца сцэнай разбурэння моста, які праіснаваў 400 гадоў. Сёння, аднак, мост на Дрыне зноў стаіць і служыць людзям.

Гузэль Яхіна нарадзілася ў 1977 годзе ў Казані (Рэспубліка Татарстан). Да трох гадоў размаўляла толькі па-татарску. Рускую мову, на якой піша, вывучыла пазней. Жыве ў Маскве. Працавала ў сферы PR, рэкламы і маркетынга. Закончыла сцэнарны факультэт Маскоўскай школы кіно. Друкавалася ў часопісах «Нева», «Октябрь». У часопісе «Сибирские огни» выйшлі раздзелы яе дэбютнага рамана «Зулейха открывает глаза». Пасля шэрагу няўдалых спробаў самастойна знайсці выдаўца для свайго рамана Гузэль Яхіна звярнулася ў літаратурнае агенцтва. З яго дапамогай кніга ўбачыла свет і стала пасяховай. У 2015 годзе пісьменніца стала лаўрэаткай Нацыянальнай літаратурнай прэміі «Вялікая кніга», таксама яе раман быў адзначаны прэміямі «Ясная паляна» і «Кніга года». Па дадзеных на красавік 2018 года, першы раман «Зулейха открывает глаза» Гузэль Яхінай выдадзены на 20 мовах, а ўся проза пісьменніцы перакладзеная больш чым на 30 моў свету.

У 2018 годзе Гузэль Яхіна стала аўтарам «татальнай дыктоўкі» — трох тэкстаў для розных гадзінных паясоў, названых «Утро», «День» і «Вечер», якія ўвайшлі ў раман «Дети мои». Новая кніга пісьменніцы прысвечаная жыццю выкладчыка нямецкай мовы, які жыве ў калоніі немцаў у Паволжы. Дзеянне кнігі разгортваецца ў перыяд ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

### Прэмія імя Кэрол Шылдс

**Новы літаратурны прыз заснаваны для літаратарак Паўночнай Амерыкі. Галоўным крытэрыем адбору на Прэмію Кэрал Шылдс з'яўляецца гендэрная прыкмета: яе не могуць атрымаць аўтары мужчынскага полу.**

За апошнія 20 гадоў толькі 6 жанчын атрымалі Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Таксама толькі 6 пісьменніц былі ўзнагароджаны Пулітцэраўскай прэміяй за мастацкую літаратуру. Нацыянальная кніжная прэмія ЗША найбольш блізкая да парытэту — 9 жанчын-пераможцаў за два апошніх дзесяцігоддзі.

Але ў 2022 годзе будзе ўручана Прэмія Кэрал Шылдс, на якую не прэтэндуе ні адзін паўночнаамерыканскі мужчына. Арганізатары выказваюць надзею, што прыцягнуць увагу пісьменніц-жанчын, у прыватнасці, сумай, намнога большай за многія іншыя кніжныя ўзнагароды.

Некалькі гадоў таму канадская пісьменніца С'юзэн Свон правяла даследаванне, падлічыўшы аўтараў рознага полу ў мастацкай літаратуры, і была ў шоку ад вынікаў. Так яна стала сузаснавальніцай згаданай прэміі.

С'юзан Свон заявіла, што ўстаноўчая рада заўважыла абуральную неадпаведнасць: гістарычна аўтары-мужчыны ўзнагароджваліся значна часцей, чым жанчыны, нават нягледзячы на тое, што колькасць апублікаваных твораў мужчын і жанчын зраўнялася. Яна таксама адзначыла, што Вялікабрытанія мае прэстыжную жаночую прэмію за мастацкую літаратуру, у Аўстраліі ёсць прэмія «Stella», у Францыі — «La Prix Femina», а ў ЗША падобнага аналага няма.

Устаноўчая рада назвала ўзнагароду імем Кэрал Шылдс (Carol Ann Shields; 1935–2003), вядомай канадскай пісьменніцы, якая атрымала Пулітцэраўскую прэмію ў 1995 годзе за раман «Дзённікі Стоўна / The Stone Diaries», у



якім прасочваецца жыццё жанчыны на працягу аднаго стагоддзя. Кэрал Шылдс распавядала ў сваіх творах пра паўсядзённае жыццё жанчын, выдуманых і рэальных. «Яна пісала раманы, якія крытыкі-мужчыны традыцыйна лічылі б «лёгкімі», таму што яны «адбываліся» дома і апавядалі пра сямейныя адносіны», — адзначыла Свон.

Першая лаўрэатка Прэміі імя Кэрал Шылдс атрымае 150 тысяч канадскіх даляраў (каля 115 тысяч даляраў ЗША).

### Прэмія імя Паўла Бажова

**У Екацярынбургу ўручылі Усерасійскую літаратурную прэмію імя Паўла Бажова, ці, як яе называюць, «Бажоўку».**

Прэтэндаваць на медаль, дыплом і грашовую ўзнагароду прэміі (50 тысяч расійскіх рублёў) могуць аўтары з усіх куткоў не толькі Расіі, але і з-за мяжы. Сёлета журы склала кароткі спіс з 12 кніг, якія вылучаны на перамогу ў 4-х намінацыях: «Майстар. Проза», «Майстар. Паэзія», «Майстар. Публіцыстыка» і «Карысць справы» (апошняя ўзнагарода не мае грашовага складніка).

Майстрам прозы прызналі Алега Хафізава з Тулы. Майстрам паэзіі назвалі Аляксандра Вавілава з Екацярынбурга (за зборнік «Евангелие от Люцифера»). Цікавай кнігай сезона, якая таксама атрымала ўзнагароду, назвалі «Ab ovo. Франц Кафка с самого начала» Валерыя Беланожкі з Карпінска. Фінальную ўзнагароду «Карысць справы» падзялілі паміж праектам «Белинка — 12 разделов истории» і альманахам для сямейнага чытання «Детская» ад часопіса «Урал».

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы парталаў CNN, Iskra, novostiliteratury.ru і «The Washington Post».**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Першы прэзідэнт Нелукашэнка

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

Дарэчы, пра яе кіраўніцтва СССР задумвалася і раней. Але «таварыш прэзідэнт» да Гарбачова так і не з'явіўся. Што да розных палітычных сілаў, то кансерватары спадзяваліся, што з прэзідэнцкім статусам Гарбачоў навядзе парадак моцнай рукой, а дэмакраты, наадварот, разлічвалі на больш глыбокія рэфарматарскія захады. У выніку Гарбачоў мітусіўся ў розныя бакі, а многія расчараваліся яго палітыкай. Зрэшты, інакш і быць не магло: Савецкі Саюз натуральным чынам канаў.



**1989 год.** Фота РИА Новости

## Нашы ў Маскве

Новы дэпутацкі корпус у СССР быў абраны на першых дэмакратычных выбарах за год да абрання Гарбачова на прэзідэнта. Ён фарміраваўся рознымі спосабамі — і спаборнымі выбарамі, і па квотах для розных арганізацый. У выніку туды трапіла дастаткова шмат антыкамуністаў, але большасць была агрэсіўна-паслухмянай, як ахарактарызаваў яе крылатай фразай адзін з лідараў згаданай Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы Юрый Афанасьеў.

Ад БССР саюзныя дэпутатамі сталі некалькі дзясяткаў чалавек. Як наменклатура, так і інтэлігенцыя з працоўнымі. Выбарчы ажыятаж быў няслабы. Напрыклад, згаданы Віктар Карняенка ў інтэрв'ю «Новаму Часу» прыгадаў, што ён балатаваўся ў Гомелі разам з дзясяткам супернікаў. Сярод іх — шмат асобаў, якія сталі потым дастаткова вядомымі ў незалежнай Беларусі. Напрыклад, прафсаюзны лідар Аляксандр Бухвостаў, міністр працы Аляксандр Сасноў, пасол ва Украіне Валянцін Вялічка. А перамог 31-гадовы наладчык станкоў Гомельскага радыёзавода Карняенка. Па яго словах, поспех перадвызначыла яго актыўная перабудовачная дзейнасць у тым ліку ў асяродку працоўных і арганізацыя акцый па праблеме Чарнобыля.

Як дэпутаты ў Маскве таксама папрацавалі, апрача тых, каго мы ўжо згадалі, Мікалай Слюнькоў, які перад выбарамі пераехаў у Маскву, дзе працаваў у Палітбюро ЦК КПСС; кіраўнікі кампартыі БССР Яфрэм Сакалоў і Мікалай Дзямянцей; намеснік прэм'ерміністра і старшыня Дзяржплану БССР Вячаслаў Кебіч; старшыня прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР Георгій Таразевіч; доктар эканамічных навук Аляксандр Жураўлёў; будучы першы генпракурор незалежнай Беларусі Мікалай Ігнатовіч. Апошнія двое, як і Станіслаў Шушкевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі, балатаваліся на дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР і перамаглі пры актыўнай падтрымцы Беларускага Народнага Фронту.





ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

УДАРНЫ ФРОНТ

Газета заснавана 1-га лютага 1919 года

АЎТОРАК 21 ЛЮТАГА 1989 года

№ 23 (7965) Цана 3 кап.

ОРГАН ШКЛОЎСКАГА РАЙКОМА КП БЕЛАРУСІ І РАЁННАГА САВЕТА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ

НАСУСТРАЧ ВЫБАРАМ

З ПАЗІЦЫІ ПЕРАБУДОВЫ

**Лукашэнка на выбарах у СССР. 1989 год**

Вось якія ўспаміны лідара БНФ Зянона Пазьняка прыводзіць у сваёй кнізе «Дзевяноста чацверты» Сяргей Навумчык:

«У 1989 годзе ў часе першых выбараў у Вярхоўны Савет СССР па новым так званым "гарбачоўскім" выбарчым законе на практыцы стала зразумела, што прайсці фільтр так званых "акруговых" сходаў грамадскасці, якія фармавалі камуністычныя райкамы партыі, кандыдатам-фронтаўцам не ўдасца. Тады мы пачалі шукаць прыстойных людзей з партбілетамі з асяроддзя не наменклатуры, якія хоць бы часткова падтрымлівалі фронтаўскія пазіцыі і сваім абраннем пры дапамозе структураў БНФ заблакавалі б прысутнасць у Вярхоўным Савеце махровых наменклатуршчыкаў.

Такім чынам у абойме нашых кандыдатаў з'явіўся прафесар БДУ Станіслаў Шушкевіч. Шушкевіч хацеў вылучацца кандыдатам у дэпутаты, але ў яго не было ні структур, ні арганізаваных людзей для шырокай агітацыі на выбарах. Я прапанаваў Шушкевічу падтрымку яго кандыдатуры з боку структураў БНФ пры ўмове адстойвання ім у Маскве асноўных праграмных пазіцый Фронту (суверэнітэт, дэмакратыя, праўда пра Чарнобыль, ліквідацыя шостага артыкулу Канстытуцыі СССР аб дзяржаўнай ролі КПСС і інш.). Шушкевіч пагадзіўся.

На выбарчую кампанію Шушкевіча мы выдзелілі вялікія фронтаўскія сілы, якія працавалі з вялікай аддачай, разгарнулі шырокую агітацыйную кампанію і такім чынам забяспечылі яму перамогу на выбарах у народныя дэпутаты СССР».

Але затым «фронтаўцы», паводле слоў Пазьняка, бляклымі і недастаткова прабеларускімі выступамі ў Маскве Шушкевіча былі расчараваныя.

## Як Лукашэнка Кебічу прайграў

Паколькі буяла перабудовачная дэмакратыя, асабліва ў Мінску, бээсэсэраўскія кіраўнікі спрабавалі балатавацца ціха і безальтэрнатыўна ў рэгіёнах. Так зрабіў і Вячаслаў Кебіч — пайшоў па Магілёўскай сельскай нацыянальна-тэрытарыяльнай акрузе №94. Але там у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР памкнуўся (та-дам!) амбіцыйны дырэктар саўгаса «Гарадзец» Аляксандр Лукашэнка.

Лукашэнка быў дастаткова вядомы як кіраўнік гэтай сельгасарганізацыі, укараняў у яе працы новыя метады гаспадарання. Яго нават неяк запрасілі ў Маскву на нараду ў ЦК КПСС, дзе ён абмяркоўваў праблемы галіны з самім Гарбачовым. Стаўшы супернікам аднаго з кіраўнікоў БССР, Лукашэнка зазнаў на сабе крытыку прапаганды. Але часіны былі дэмакратычныя, і яму давалі слова на старонках як мясцовай, так і рэспубліканскай прэсы. Там ён чахвосціў наменклатуру і заклікаў зрабіць жыццё сялян такім самым, як у гарадскога насельніцтва. Перабудову Лукашэнка вітаў, бо яна адкрывала перад такімі, як ён, новыя кар'ерныя магчымасці.

Вось што казаў падчас адной з сустрэчаў з выбаршчыкамі кандыдат Лукашэнка ў лютым 1989 года, паводле рэпартажу шклоўскай раённай газеты «Ударны фронт»:

«Як вядома, дзякуючы галоснасці, перабудове, адбыліся і адбываюцца ў грамадскім жыцці вялікія дэмакратычныя перамены. Сённяшняя сустрэча — яркае сведчанне таму, што застойныя часы паступова, хоць і з цяжкасцямі адыходзяць усё далей і далей. Свежы вецер перамен пануе і ў гэтай зале». Газета з сімпатыяй пісала пра земляка так: «Становіча ахарактарызаваў свайго суперніка» (то-бок, Кебіча) і «з уласцівай яму тактычнасцю падзяліўся праграмай». Пазнаеце кіраўніка Беларусі?

Перамог Кебіч з сенсацыйна невялікім адрывам — 105 тысяч галасоў на 94 тысячы. Натуральна, што пасля такой годнай паразы Лукашэнка не мог не працягнуць свой шлях у вялікую палітыку. А яго разгромная перамога ў якасці ўжо дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі над прэм'ер-міністрам Кебічам у другім туры на першых выбарах прэзідэнта Беларусі ў 1994 годзе сталася ў тым ліку эфектным рэваншам.

Цікава, што прэзідэнтам Беларусі Аляксандр Лукашэнка мог стаць і раней за 1994 год. У пачатку 1990-х гадоў, яшчэ застаючыся ў складзе СССР, рэспублікі пачалі абіраць сабе прэзідэнтаў. Барыса Ельцына ў Расіі, Леаніда Краўчука — ва Украіне... Абмяркоўвалася ўвядзенне такой пасады і ў Беларусі. Віктар Карняенка згадвае размову з Лукашэнкам, падчас якой той прасіў яго арганізаваць сустрэчу з народам у Гомелі: «Сказаў, што Кебіч мае намер стаць прэзідэнтам, а яму прапанаваў пасаду віцэ-прэзідэнта. Але я, маўляў, хачу большага. Сустрэчу я Лукашэнку арганізаваў, у абвестках так і было напісана: "Сустрэча з кандыдатам у прэзідэнты". Але прайшла яна не надта ўдала для яго — з абструкцыяй».

То-бок, нельга сказаць, што Лукашэнка стаў прэзідэнтам Беларусі выпадкова — прынамсі, сам ён ішоў да гэтага мэтанакіравана. А не сканай СССР, то не выключана, што амбіцыі маглі сягнуць і на кіраўніка савецкай імперыі. Лукашэнка цалкам мог уяўляць сябе на месцы Гарбачова, калі размаўляў з ім з высокіх трыбун на нарадах кампартыі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАТАРСТАН. Татарскай мове — статус адзінай дзяржаўнай!

Татарская актывістка Люцыя Карымава на старонцы Change.org запусціла петыцыю з шэрагам патрабаванняў да ўлады, у тым ліку замяніць у Канстытуцыі РФ дзяржаўную рускую мову на татарскую. Петыцыя стала рэакцыяй на шэраг абмежавальных захадаў у Расіі ў дачыненні да моваў нярускіх народаў, у тым ліку на ініцыятыву Пуціна аб «дзяржаўнай рускай мове як мове дзяржаваўтваральнага народа». Актывістка ў якасці рэакцыі прапануе вызначыць легальны парадак пераходу на працягу 20 гадоў з дзяржаўнай рускай на дзяржаўную татарскую мову на ўсёй тэрыторыі Расіі. Аўтарка тэксту таксама прыводзіць гістарычнае абгрунтаванне неабходнасці моўнай рэформы і нагадвае, што татары разам з іншымі цюркскімі народамі з'яўляліся заснавальнікамі Залатой Арды, у якой, паводле яе меркавання, Масковія больш за сто гадоў была толькі невялікі часткай. Пры гэтым Карымава гатовая прызнаць за этнічнымі рускімі іх права на мову і абяцае дазволіць навучэнцам школ добраахвотна вывучаць рускую мову і літаратуру два ўрокі на тыдзень «па заяве бацькоў». Відавочна, што петыцыя мае хутчэй іранічны характар, аднак у нацыянальных аўтаноміях яе разглядаюць як няхай гратэскную, але хоць нейкую форму пратэсту супраць новай рэдакцыі Канстытуцыі Расіі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Вяртанне пашпарту

Вялікабрытанія, як і іншыя краіны Еўропы, пакутуе на каронавірус, аднак гэта — не падстава, каб адмяняць працэс выхаду краіны са складу Еўрасаюза. У рамках Brexit брытанцам пачалі раздаваць пашпарты новага дызайну. На вокладках такіх пашпартоў адсутнічае надпіс «Еўрапейскі Саюз». Таксама дакумент мае блакітны, а не чырвоны колер. Першым уладальнікам пашпарту новага ўзору аказалася Даніэла Хагман — дзяўчынка, якой напярэдадні споўніўся адзін год, што даваляе ёй, паводле мясцовых законаў, ужо мець пасведчанне асобы. Дарэчы, яе 25-гадовая маці кажа, што не ведае, што такое Brexit, і ўвогуле яна не цікавіцца палітыкай. Але найбольш узрушыла брытанцаў тое, што пашпарты друкуюцца ў Польшчы на прадпрыемстве, якое належыць фірме з Нідэрландаў. За друк пашпартоў яна атрымае амаль 200 мільёнаў еўра. Усё гэта выклікала шмат жартаў на адрас прэм'ера Барыса Джонсана, які абяцаў за кошт Brexit забяспечыць брытанцаў працоўнымі месцамі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ІРАН. Спецыяльны вірус?

Духоўны лідар Ірана абвінаваціў ЗША ў стварэнні адмысловага штаму каронавіруса — смяротнага выключна для іранцаў. Пасля таго, як экс-прэзідэнт Ірана заявіў, што каронавірус — гэта створаная ў лабараторыі біялагічная зброя, духоўны лідар краіны, аятала Алі Хаменэі публічна абвінаваціў ЗША ў распрацоўцы асаблівага штаму віруса. Алі Хаменэі ўпэўнены, што амерыканцы стварылі «адмысловую версію» COVID-19, заснаваную на генетычнай інфармацыі, для таго, каб «прыцэльна» знішчаць іранцаў. З улікам таго, што Злучаныя Штаты ўтрымліваюць 3–4 месца ў свеце па колькасці заражаных вірусам, заяву аятала можна лічыць проста піярам. З іншага боку, відавочна, што сярод палітыкаў ва ўсім свеце становіцца ўсё больш папулярна перакладаць адказнасць за эпідэмію і яе наступствы на геапалітычных ворагаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ФІЛІПІНЫ. Унітаз з кветкамі

Усе краіны свету так ці інакш вымушаныя змагацца з эпідэміяй каронавірусу, што патрабуе ў тым ліку папулярызацыі культуры асабістай гігіены. Падавалася, гэта не вельмі цяжкая задача, паколькі прапаганда гігіены не патрабуе дарагіх тэхналогій і сродкаў. А вось для філіпінскага ўраду гэта выглядае вельмі цяжкім. Нягледзячы на тое, што на Філіпінах 9 з 10 дарослых маюць смартфон, толькі 75 працэнтаў мясцовых жыхароў карыстаюцца нармальнай прыбіральняй і, адпаведна, мыюць рукі. Шмат хто — а ў правінцыі гэта кожны другі — выкарыстоўваюць у якасці прыбіральні суседнія палі. Нават і без цяперашняй эпідэміі гэтая практыка выклікала шмат інфекцый, а цяпер сітуацыя можа яшчэ пагоршыцца. Не кажучы пра тое, што раней ужо рабіліся спробы прымусіць філіпінцаў хадзіць у цывільныя прыбіральні. З гэтай мэтай ім нават бясплатна раздавалі ўнітазы. Аднак падарунак, як піша прэса, часта выкарыстоўваўся ў якасці вазы для кветак. Цяпер у Маніле шукаюць новыя падыходы для вырашэння праблемы прыбіральняў. Застаецца дадаць, што колькасць філіпінцаў, якія ходзяць на двор, ацэньваецца спецыялістамі ў 6 мільёнаў чалавек.

**Паводле амерыканскай прэсы**






Фота www.gazeta.ru

# Туалетная папера — наша ўсё!

*Алег НОВІКАЎ*

**Ажыятаж вакол туалетнай паперы, чэргі па яе і нават бойкі прымусілі навукоўцаў задумацца пра ролю гэтых чароўных рулонаў для цывілізацыі.**

Тых, хто жыве на тэрыторыі былога СССР або ва Усходняй Еўропе, яшчэ можна зразумець. У калектыўнай памяці грамадзян рэгіёну дакладна захаваліся файлы пра часы сацыялізму, спадарожнікам якога быў хранічны дэфіцыт. Як тут ні згадаць, што падчас вайсковага становішча ў Польшчы ўроцлаўская анархісцкая групоўка «Аранжавая альтэрнатыва» збірала масавыя маніфестацыі, абяцаючы іх удзельнікам бясплатную раздачу туалетнай паперы.

Аднак як растлумачыць паводзіны бюргераў старых краін ЕС і Злучаных Штатаў, якія літаральна штурмуюць крамы дзеля туалетнай паперы? Каб спыніць бойкі, у некаторых заходніх супермаркетах нават уведзены ліміт на набыццё пэўнай колькасці рулонаў. Дайшло да таго, што аўстралійская газета зрабіла ў адным з выпускаў дадатак у выглядзе аркушаў туалетнай паперы. Той нумар быў прададзены за лічаныя хвіліны. Не дапамагаюць і аргументы. Згодна з разлікамі Масачусецкага тэхналагічнага інстытута, упакоўкі з шасці рулонаў павінна хапіць сямейнай пары на ўвесь перыяд каранціну з запасам. У чым крыніца такой незвычайнай з'явы?

Феномен можна растлумачыць сфарміраванымі ў медыя штампамі. Напрыклад, тым, што ў рэпартажах з Уханю дэманстравалі кітайцаў, якія з-за адсутнасці антысептыкаў выкарыстоўвалі туалетную паперу ды паўсюдна цягалі яе з сабой. Іншая тэорыя грунтуецца на асаблівасцях рэпартажаў пра венесуэльскі крызіс. Заходнія журналісты, калі распавядалі пра дэфіцыт у Венесуэле, абавязкова ўзгадвалі недахоп туалетнай паперы. Падобныя рэпартажы, мяркую, і сфарміравалі на Захадзе калектыўную ўстаноўку — калі пачнецца нешта жудаснае, туалетную паперу трэба набываць у першую чаргу.

А вось канадскі псіхолаг Стывен Тэйлар шукае адказ на з'яву ў глыбінных пластах нашай псіхалогіі выжывання. У выпадку з'яўлення нейкай незразумелай вонкавай пагрозы, наш мозг дыктуе нам загад набываць элементарныя сродкі выжывання. Часткова вінаватыя, на думку Тэйлара, і чыноўнікі, якія не прадумалі лексікон. Словы «каранцін» або «ізаляцыя», якія яны ахвотна ўжываюць, выклікаюць у людзей панічную думку пра хуткія бытавыя нязручнасці, калі лішні рулон туалетнай паперы, натуральна, лішнім не будзе.

З іншага боку, дасюль ніхто не ведае, як супакоіць спажыўцоў у такой сітуацыі. У 1973 годзе праз нафтавы крызіс у Злучаных Штатах назіраліся праблемы на запраўках. Народ адразу ламануўся па прадукты, у тым ліку і па туалетную паперу. Збіць напружанасць вырашыў тагачасны мясцовы Іван Ургант — вядоўца папулярнага шоу Джон Карсан. У сваёй праграме ён пасмяяўся з тых, хто бегае па крамах у пошуках паперы. І што ж зрабілі амерыканскія спажыўцы? Яны, калі паглядзелі шоу Карсана, кінуліся набываць яшчэ больш запаветных рулонаў. Істэрыя доўжылася чатыры месяцы.

**Паляванне за паперай, як лічыць эксперт, кампенсуе ўстаноўку, якая патрабуе нешта рабіць ва ўмовах крызісу. Наяўнасць туалетнай паперы сведчыць, што сітуацыя пад кантролем**

Наконт тэорый папулярнасці туалетнай паперы, цікавую ідэю прапанаваў брытанскі навуковец Дзімітрас Цыврыкас. Паляванне за паперай, як лічыць эксперт, кампенсуе прысутную ў нашай псіхіцы ўстаноўку, якая патрабуе нешта рабіць ва ўмовах крызісу. Наяўнасць туалетнай паперы сведчыць, што сітуацыя пад кантролем. Адпаведна, чым больш у хаце паперы, тым больш упэўненасці.

Ёсць апалагеты і ў версіі, якая тлумачыць істэрыку наконт туалетнай паперы рацыянальнымі матывамі. Людзі ўмеюць лічыць і, натуральна, разумеюць, што кошты на базавыя прадукты спажывання ва ўмовах крызісу ўсё роўна будуць расці.

Напэўна, з гэтым не пагодзіцца калега Цыврыкаса Эма Кені. Яна бачыць тут відавочны прыклад статкавага інстынкту. «Вы не рэагуеце на вірус, вы рэагуеце на страх таго, што, можа быць, адбудзецца. Калі ўсе людзі панічна купляюць паперу, і вы самі робіце панічную пакупку, — гэта падсілкоўвае ўвесь цыкл». Яе ўскосна падтрымлівае прафесар Дэбора Грэй. Яна адзначае, што, калі 50 упаковак туалетнай паперы знікаюць з паліц, вы сапраўды заўважаеце гэта, таму што яны займаюць шмат месца. Як вынік, людзі пачынаюць трошкі панікаваць.

Нарэшце, амерыканскі псіхолаг Кацярына Вітгенс мяркуе, што крыніцы феномену трэба шукаць у асаблівасцях заходняга менталітэту. У еўрапейскай культуры, калі ёй верыць, сфарміраваліся забабоны, калі санітарыя і чысціня цела ўспрымаюцца як элемент індывідуальнай бяспекі і гармоніі.

Пакуль навукоўцы спрачаюцца, ажыятаж наконт паперы працягваецца. 20 сакавіка ў Паўночнай Караліне (ЗША) злачынец паспрабаваў скрасці цэлы фургон з грузам туалетнай паперы. На фоне падобных паведамленняў застаецца толькі спадзявацца на казахскіх навукоўцаў. З Казахстану паведамляюць, што група мясцовых інжынераў і навукоўцаў вынайшла шматразовую туалетную паперу.

# Амністыя пад назвай «Каронавірус»

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашняя пандэмія можа выклікаць радыкальную рэформу сістэмы пакарання — аж да адмовы ад турмаў.**



Памятаеце, як два тыдні таму італьянскія зняволеныя ў шматлікіх турмах зладзілі бунты з патрабаваннем адпусціць іх, каб не стаць ахвярай заразы? А ў горадзе Мадэна пры спробе масавых уцёкаў трое зэкаў нават загінулі! Між тым, усё больш краін вызваляюць асуджаных за няцяжкія злачынствы, каб знізіць рызыку заражэння.

Такі крок не дзіўны. Патрабаванні жорсткага каранціну нельга выканаць усюды, у тым ліку ў турмах. Турмы ў цэлым лічацца фактарамі, якія ўзмацняюць распаўсюджванне інфекцыі на месцах. Інструкцыю дактароў — як мага часцей мыць рукі з мылам і карыстацца антысептыкам, — у камеры, дзе часам у антысанітарных умовах жывуць некалькі чалавек, апрыёры выканаць немагчыма. Не кажучы ўжо пра тое, каб трымаць дыстанцыю ад суседа ў паўтара метра.

Паводле папярэдніх ацэнак эпідэміёлагаў з універсітэцкага каледжу Лондана, некантралюемыя ўспышкі інфекцыі могуць прывесці да гібелі да 1% зняволеных брытанскіх турмаў. І вязнямі можа не абмежавацца. Паводле ацэнак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, па ўсім свеце за кратамі сядзяць каля 11 мільёнаў чалавек. Але яшчэ прыкладна 30 мільёнаў штогод наведваюць турмы ў рамках сустрэчаў з вязнямі або працуюць там.

Дадатковым негатыўным момантам з'яўляецца змрочная атмасфера ў камерах, адсутнасць у асуджаных дакладнай інфармацыі наконт эпідэміялагічнай сітуацыі ва ўстанове. Гэта дае падставы для трывожных чутак, якія могуць справакаваць хваляванні. Так, 22 сакавіка як мінімум 23 чалавекі загінулі ў адной з найбуйнейшых турмаў у Багаце (Калумбія) пасля спробы бунту на фоне росту напружанасці з-за плётак, што вірус нібыта трапіў у турму.

Зрэшты, дзе-нідзе спрабуюць абмежавацца касметычнымі мерамі. Напрыклад, у Расіі з 18 сакавіка дзейнічае часовая забарона на працяглыя і кароткатэрміновыя спатканні ў СІЗА, калоніях і турмах. Акрамя таго, абмежаваныя перамяшчэнні зняволеных. У ЗША асацыяцыя адвакатаў заклікала адміністрацыі турмаў выдаваць зняволеным не толькі мыла, але і алкаголь. Ва Украіне адпаведны дэпартамент сцвярджае, што пасля пачатку каранціну медработнікі штодня вымяраюць тэмпературу не толькі супрацоўнікам турэмных адміністрацый і зняволеным, але нават наведвальнікам установ.

**Асноўная супярэчнасць амністыі зняволеных з-за эпідэміі заключаецца ў іншым. Калі сёння амністыя можа спыніць эпідэмію, то заўтра яна здольная справакаваць рост злачыннасці**

Аднак да такіх рэляцый (асабліва ў краінах экс-СССР) давер невялікі. Кіеўскае выданне «Страна» публікуе тэкст ліста зняволенага з мясцовага СІЗА пра тое, што там змянілася пасля ўвядзення ў краіне каранціну. «Нічога не змянілася, акрамя ўзмацнення забаронаў і пастаянных шмонаў. Прагулкі сталі больш рэдкімі і кароткімі. Перадачы прымаюць горш, праз раз. Ніякіх дэзінфекцый няма. Іх проста няма чым рабіць. (...) А "падазроных" проста ў бальнічкі пры СІЗА ізалявалі і лечаць анальгінам», — піша арыштант. У сваёй «маляве» ён таксама дадае, што ўсё ідзе да турэмнага бунту.

У такіх умовах напрошваецца толькі адно рашэнне — выпусціць як мінімум частку зняволеных на свабоду. Адным з першых гэта зрабіў Іран, дзе вызвалілі 85 тысяч чалавек. Як удакладняецца, гэта былі асуджаныя не больш чым на пяць гадоў. У дадатак за сваё вызваленне яны ўнеслі грашовы заклад. Буйная амністыя, паводле прэсы, рыхтуецца ў Турцыі, дзе збіраюцца выпусціць на волю каля траціны зняволеных (гэта прыкладна 100 тысяч). Дарэчы, на крымінальную статыстыку выхад такой колькасці вязняў можа не паўплываць. Шмат хто трапіў за краты пасля правалу спробы ваеннага путчу ў 2016-м, калі па краіне пракаціліся цунамі арыштаў па палітычных матывах.

Вельмі спецыфічная сітуацыя на амерыканскіх «зонах». Прыкладна з пачатку гэтага тыдня кіраўніцтва пенітэнцыярных установаў некалькіх штатаў (сярод іх Каліфорнія, Тэхас, Нью-Ёрк і іншыя) выпусціла пажылых, непаўналетніх і хворых вязняў. Аднак гэта — дробязь у агульнай масе. У амерыканскіх турмах сядзяць каля 2,3 мільёна чалавек. Вызваленне такой колькасці злачынцаў нават цяжка ўявіць.

Акрамя таго, сістэма барацьбы з крыміналам за акіянам вельмі суровая. На вакантныя месцы ў турмах адразу прыбываюць новыя зняволеныя. У многіх турмах ужо цяпер асцерагаюцца прымаць навічкоў, паколькі на волі, адкуль яны прыйшлі, шчыруе вірус.

Зрэшты, асноўная супярэчнасць амністыі зняволеных з-за эпідэміі заключаецца ў іншым. Калі сёння амністыя можа спыніць эпідэмію, то заўтра яна здольная справакаваць рост злачыннасці. Менавіта з пачаткам выпуску зняволеных звязваюць бум пакупак зброі ў Злучаных Штатах. Пішуць, што амерыканцы запасаюцца аўтаматамі, вінтоўкамі і пісталетамі, баючыся, што ва ўмовах крызісу турэмнай сістэмы паліцыя не будзе занадта старанна ганяцца за злачынцамі. У расійскай прэсе ў рамках дэбатаў наконт амністыі пішуць пра магчымы рымейк «халоднага лета 1953-га». Нагадаем, што тады Лаўрэнцій Берыя пасля смерці Сталіна чамусьці амніставаў шмат крымінальнікаў, што выклікала ў Савецкім Саюзе шалёны разгул злачыннасці.

Некаторыя прапануюць шукаць трэці шлях. Напрыклад, у часопісе The Rolling Stones агітуюць у будучым не саджаць злачынцаў у турмы, а выпісваць ім велізарныя штрафы. У Італіі актыўна заклікаюць развіваць такую форму пакарання, як хатні арышт.

Як бачым, грамадства пакуль не гатовае да рэформаў. Між тым, нейкае рашэнне наконт турмаў прымаць давядзецца — і хутка. Яшчэ напрыканцы лютага New York Times пісаў, што менавіта турмы бліжэйшым часам стануць галоўным эпіцэнтрам пандэміі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Віктар Орбан



Прэм'ер Венгрыі, падобна, стане першым кіраўніком краіны ЕС, які на час эпідэміі атрымае паўнамоцтвы амаль дыктатара. 23 сакавіка парламент краіны пачаў разглядаць закон, які дазваляе ўраду прымаць законы без згоды дэпутатаў. Згодна з праектам, будуць таксама ўведзеныя пакаранні за два новыя крымінальныя злачынствы: любы венгр, хто публікуе фальшывыя ці скажоныя паведамленні, якія перашкаджаюць «паспяховай абароне грамадскасці», можа быць асуджаны да пяці гадоў турэмнага зняволення. Асобы, якія парушаюць каранцінныя правілы, таксама могуць быць асуджаныя на пяць гадоў турмы. Такія папраўкі вельмі непакояць грамадства, паколькі асабіста Орбан будзе вызначаць, што такое «паспяховая абарона грамадскасці». У тым ліку ніхто не будзе мець права аспрэчыць заявы ўраду пра тое, што каронавірус у Венгрыю прынеслі людзі Джорджа Сораса і ўцекачы з Азіі. Парадаксальна, аднак лагер крытыкаў законапраекта папоўнілі і актывісты праварадыкальнай партыі Jobbik, якая ідэалізуе часы дыктатуры Хорці (1920–1944). На думку праварадыкалаў, Орбан вырашыў пабудаваць рэжым па тыпу паўднёвалацінскіх дыктатур 1970-х гадоў. Зрэшты, урадавая кааліцыя мае канстытуцыйную большасць, і ўжо на наступным тыдні прапановы Орбана могуць быць падтрыманыя.

### Тэрэнс О'Шонэсі



Паводле амерыканскіх медыя, у выпадку, калі прэзідэнт ЗША і іншыя вышэйшыя службовыя асобы пацерпяць ад эпідэміі, праўленне ў Злучаных Штатах часова пяройдзе менавіта да кіраўніка Паўночнага камандавання Узброеных сіл ЗША О'Шонэсі. Паўнамоцтвы генерала, паводле дадзеных часопіса Newsweek, ужо агавораныя ў сакрэтных дырэктывах і ўказах. Пры ўсёй фантастычнасці такога сцэнару, выключаць яго, на жаль, нельга. Практычна штодня прыходзяць паведамленні пра тое, што той ці іншы палітык у Злучаных Штатах падхапіў вірус. Раней каронавірус падазравалі ў Дональда Трампа. Таксама дапускаюць, што ўлада можа быць перададзеная вайскоўцам у выпадку ўспышкі гвалту ў розных частках ЗША з-за недахопу харчавання, фінансавых складанасцяў і іншых праблемаў, звязаных з эпідэміяй. Такі варыянт таксама не выключаны. Нагадаем, па стане на 23 сакавіка ў ЗША было зарэгістравана 35 200 выпадкаў заражэння Covid-19 і 470 смяротных выпадкаў. Больш за ўсіх церпіць Нью-Ёрк, дзе было зарэгістравана амаль 17 000 выпадкаў заражэння. Губернатары штатаў па ўсёй краіне выдаюць рэгіянальныя ўказы, якія закрываюць прадпрыемствы і школы на ўсё лета. Зрэшты, сам Дональд Трамп упэўнены, што ўсё будзе добра. Для гэтага ён збіраецца… адмяніць каранцін! 24 сакавіка Трамп выступіў з заклікам пра неабходнасць адмены праз 15 дзён усіх абмежаванняў для эканомікі, уведзеных з-за эпідэміі.

### Арсен Авакаў



Украінская прэса сцвярджае: усё ідзе да таго, што хутка дырэктар украінскага МУС, якім ён кіруе ўжо шэсць гадоў, будзе сапраўдным кіраўніком краіны. Пра падобныя намеры галоўнага паліцэйскага краіны, быццам, сведчыць яго незразумелая актыўнасць. Так, Авакаў раптам апублікаваў свой антыкрызісны план па выратаванні эканомікі Украіны падчас каранціну, што яўна не ў межах яго кампетэнцыі. Сярод іншага аўтар дае зразумець, што ён здольны ўтрымаць на час каранціну сітуацыю пад кантролем з дапамогай праваахоўных органаў і нацыяналістаў. Абсалютная большасць каментатараў тэзісаў Авакава перакана
ныя, што міністр палічыў цяперашнюю сітуацыю ва Украіне прыдатнай для таго, каб адкрыта заявіць пра свае палітычныя амбіцыі. Лічыцца, што Авакаў пашырыць свае паўнамоцтвы на падставе надзвычайнага стану для барацьбы з эпідэміяй. Пры гэтым Зяленскі захавае месца дэкаратыўнага лідара краіны. Сапраўды, атмасфера ў краіне спрыяе такому плану, хаця нельга забываць пра нізкі рэйтынг Авакава (6 працэнтаў). Нарэшце, незразумела, як паліцэйскі рэжым дапаможа ў барацьбе з вірусам. Усім відавочна, што праз месяц пачнецца дачны сезон, і ўкраінцы, насуперак усім каранцінам, выправяцца садзіць бульбу.

# Выбары без выбару. Сталінская бутафорыя ў Заходняй Беларусі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Палітыка бальшавікоў у Заходняй Беларусі пасля яе далучэння да Беларускай ССР і да пачатку вайны СССР з гітлераўскай Германіяй увайшла ў гісторыю як саветызацыя. Гэта — комплекс шырокамаштабных захадаў, накіраваных на ўкараненне сацыялістычнага ладу ў рэгіёне ва ўсіх сферах сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця. Неад'емным элементам палітыкі саветызацыі сталі выбары ў новыя вышэйшыя органы ўлады і кіравання. 80 гадоў таму, 24 сакавіка 1940 года, у Заходняй Беларусі адбылася буйная электаральная кампанія.**



Агітацыйны матэрыял падчас выбараў у Заходняй Беларусі

## Высокія мэты

Заходняя Беларусь мусіла дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў як у Вярхоўны Савет БССР, так і ў агульнасаюзны парламент. Кампанія пачалася 21 студзеня 1940 года, калі выйшлі адпаведныя ўказы Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР і Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР.

У Вярхоўны Савет БССР Заходняя Беларусь планавала дэлегаваць 202 дэпутаты: гэты вышэйшы заканадаўчы і прадстаўнічы орган фарміраваўся з разліку 1:20 000. Пры гэтым найбольшая колькасць кандыдатаў (58) рэгістравалася ад Беластоцкай вобласці, а найменшая (21) — ад Пінскай. Баранавіцкая, Вілейская і Брэсцкая вобласці вылучалі 51, 40 і 32 адпаведна.

Што да Вярхоўнага Савета СССР, то з улікам двухузроўневай канструкцыі дадзенага органа, неабходна было абраць дэпутатаў у Савет Саюза і Савет Нацыянальнасцяў.

У першую палату планавалася накіраваць 16 кандыдатаў. З іх 5 прыпадала на Беластоцкую вобласць, 4 — на Баранавіцкую, 3 — на Вілейскую, 2 — на Брэсцкую і Пінскую вобласці.

У Савет Нацыянальнасцяў павінны былі быць абраныя 6 дэпутатаў. Прычым ад Беластоцкай як самай большай па тэрыторыі і насельніцтве дэлегаваліся 2 дэпутаты, ад астатніх абласцей — па 1.

Арганізацыйная канструкцыя па выбарах у Вярхоўны Савет СССР і БССР выглядала наступным чынам. Ніжэйшым звяном з'яўляліся 4 100 участковых выбарчых камісій. Далей ішлі акруговыя выбарчыя камісіі: 22 — па выбарах у Вярхоўны Савет СССР і 202 — у Вярхоўны Савет БССР. Канструкцыю замыкалі Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Савет БССР і асобная Рэспубліканская камісія па выбарах у Савет Нацыянальнасцяў.

Выбарчую кампанію ў Вярхоўны Савет СССР рэгулявала спецыяльнае Палажэнне ад 9 ліпеня 1937 года, а ў Вярхоўны Савет БССР — практычна ідэнтычнае, спісанае з агульнасаюзнага, Палажэнне ад 27 лютага 1938 года. Нягледзячы на шэраг нормаў (напрыклад, вылучэнне кандыдатаў ажыццяўлялася выключна кампартыяй, прафсаюзамі, іншымі зарэгістраванымі арганізацыямі, а таксама працоўнымі калектывамі калгасаў, саўгасаў і вайсковымі часткамі), якія нівелявалі саму ідэю выбараў, палажэнні па некаторых момантах вонкава выглядалі даволі дэмакратычна. Яны ліквідавалі класавыя, сацыяльныя, рэлігійныя і іншыя перашкоды для свабоднага волевыяўлення грамадзянаў, што раней мелі месца, прадугледжвалі другі тур, уводзілі крымінальную адказнасць — пазбаўленне волі на тэрмін да 3 гадоў — за фальсіфікацыю («заведомо неправильный подсчет голосов») вынікаў выбараў.

**Становішча ў Заходняй Беларусі напярэдадні выбараў ускладнялася жудасным станам эканомікі рэгіёна, абцяжараным беспрацоўем і бежанцамі, катастрафічна нізкім узроўнем жыцця большасці насельніцтва і вострым недахопам тавараў**

## Без прапаганды — нікуды!

Намаганнямі прапагандыстаў і агітатараў быў распрацаваны прыкладны план па вывучэнні гэтых палажэнняў. На працягу сямі ўрокаў грамадзяне павінны былі вывучыць грамадскі лад СССР і БССР, Вярхоўны Савет СССР і БССР, парадак вылучэння кандыдатаў, утварэнне выбарчых акругаў, прынцып фарміравання выбарчых камісій, парадак галасавання, падвядзенне вынікаў выбараў. Абавязкова неабходна было закрануць і такія пытанні: уз'яднанне вялікага беларускага народа ў адзінай беларускай дзяржаве — бліскучая перамога ленінска-сталінскай палітыкі; былая панская Польшча была турмой народаў; дзясяткі тысячаў беспрацоўных атрымалі працу; СССР — краіна самай буйной у свеце сацыялістычнай сельскай гаспадаркі і г.д.

У праграму ўрокаў уключаліся тэмы, датычныя заключэння пакта Молатава-Рыбентропа, савецка-германскага дагавора аб сяброўстве і мяжы, савецка-японскіх ваенных канфліктаў на возеры Хасан і рацэ Халхін-Гол, савецка-фінскай вайны.

## Складаная сітуацыя

Савецкая ўлада выдатна разумела рызыкі, звязаныя з будучай кампаніяй, і памятала вопыт выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі 22 кастрычніка 1939 года, калі сутыкнулася са шматлікімі фактамі праяваў сапраўднага антысаветызму, выпадкаў зрыву выбараў.

З іншага боку, падчас гэтых выбараў улады ў пэўнай ступені ўніклі ў сітуацыю ў рэгіёне, вывучылі настрой насельніцтва. Акрамя таго, меўся станоўчы вопыт у правядзенні выбараў у Вярхоўны Савет СССР у 1937-м і ў БССР у 1938 гадах.

Становішча ў Заходняй Беларусі напярэдадні выбараў ускладнялася шэрагам абставінаў. Адна з праблемаў палягала ў жудасным стане эканомікі рэгіёна, абцяжаранай беспрацоўем і бежанцамі, катастрафічна нізкім узроўнем жыцця большасці насельніцтва, для якога праблемай нумар адзін стаў востры недахоп тавараў. Так, на спецыяльнай нарадзе ЦК КП(б)Б па пытаннях Заходняй Беларусі 8 студзеня 1940 года канстатавалася, што *«в городе нет зубной щетки, иголки, шнурков, мази для обуви, одеколона»*. Па гэтай прычыне сапраўдным бедствам рэгіёну стала спекуляцыя.

2 лютага 1940 года наркам гандлю Беларускай ССР Уладзімір Ванееў, які знаходзіўся ў Беластоку, у лісце на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі прасіў разгледзець пытанне пра ўжыванне вышэйшай меры пакарання ў дачыненні да «особо злосных спекулянтов».

Кіраўніцтва БССР выкарыстала беспрэцэдэнтныя захады для насычэння рынку заходніх абласцей рэспублікі прамысловымі і харчовымі таварамі. Спецыяльная нарада ЦК КП(б)Б па арганізацыйных і гаспадарча-палітычных пытаннях Заходняй Беларусі 9 сакавіка 1940 года зацвердзіла рашэнне аб аператыўнай адгрузцы ў рэгіён 18 тысяч тон солі, 2 тысяч тон цукру, 830 тон кандытарскіх вырабаў. Сярод тавараў таксама значыліся баваўняныя тканіны, мыла, запалкі, ніткі і нават папяросы «из Керчи и Феодосии».

## Савецкае дзікунства

Асаблівую ўвагу савецкая адміністрацыя звяртала на «асаднікаў», ваенных, леснікоў, вартаўнікоў, то-бок на тых, хто быў патэнцыйным уладальнікам зброі і мог павярнуць яе супраць новай улады. Былі ўжытыя надзвычайныя меры — высяленне.

Тэхнічны бок будучай дэпартацыі 7 студзеня 1940 года абмаляваў наркам унутраных спраў БССР Лаўрэнцій Цанава на адмысловай нарадзе аб працы ў Заходняй Беларусі. Па словах кіраўніка НКУС, высяленне планавалася ў адзін дзень з прыцягненнем вялікай колькасці насельніцтва, лаяльнага да савецкай улады. Пяць заходніх абласцей разбіваліся на 37 аператыўных участкаў, што, па словах Цанавы, дазваляла *«провести операцию одним коротким ударом»*.

21 лютага 1940 года Панамарэнка ў дакладной запісцы на імя Сталіна, а таксама сакратароў ЦК УКП(б) Андрэева і Малянкова паведамляў, што 10 лютага ў Заходняй Беларусі пры ўдзеле 15 тысяч мясцовых жыхароў былі ажыццёўлены мерапрыемствы, у ходзе якіх выселілі 9 775 «польскіх» сем'яў агульнай колькасцю 50 732 чалавекі.

Кіраўніцтва БССР таксама вырашыла зглуміць на працоўным энтузіязме жыхароў рэгіёну і адначасова змякчыць праблему беспрацоўя. На афіцыйным узроўні было абвешчана аб фарсіраванай рэканструкцыі Днепра-Бугскай воднай сістэмы, у якой, па звестках Арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦК КП(б)Б ад 27 лютага 1940 года, былі задзейнічаны 3 тысячы чалавек.

## Сталінская бутафорыя

Сведчаннем таго, што выбары ва ўмовах сталінскага рэжыму з'яўляліся толькі фікцыяй і дэкарацыяй, стала сакрэтная пастанова ЦК КП(б)Б ад 5 лютага 1940 года № П-125 *«О выборах в Западной Белоруссии»* з рэзалюцыямі Панамарэнкі, Цанавы і старшыні СНК БССР Кузьмы Кісялёва. Пад грыфам *«опубликование запрещается»* гэты дакумент быў разасланы абкамам, гаркамам і райкамам КП(б)Б усіх заходніх абласцей.

З яго вынікае, што планавалася свайго роду сілавая спецаперацыя, дзе не павінна было быць ніякіх збояў: «Партийные организации должны учесть, что выборы в Верховный Совет СССР и БССР будут значительно сложнее, чем выборы в Народное собрание: буржуазно-националистические агенты приложат все силы, чтобы помешать выборам, "протащить" своих людей в депутаты».

Пастанова ўтрымлівала гранічна кароткія падрыхтоўчыя тэрміны. Спісы выбарчых участкаў павінны былі быць складзеныя не пазней за 8 лютага. Да гэтага ж тэрміну патрабавалася сфарміраваць акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі ў складзе старшыні, намесніка, сакратара і 4–8 членаў, з якіх 25–30% — жанчыны. Не пазней 20 лютага 1940 года ЦК КП(б)Б павінен быў атрымаць звесткі пра агульную колькасць выбаршчыкаў па абласцях.

Пастанова груба парушала нормы выбарчага заканадаўства, зацверджанага ў рамках самой савецкай сістэмы. Напрыклад, насуперак артыкулу 71 вышэйадзначаных палажэнняў, яна адмяняла канверты, у якія ўкладваліся бюлетэні для галасавання. Пункт «б» артыкула 80 палажэнняў прызнаваў несапраўднымі бюлетэні, *«поданные без конверта или в конверте неустановленного образца»*. Замест канвертаў для адрознення бюлетэняў уводзіліся розныя колеры: белы — Савет Саюза, светла-блакітны — Савет Нацыянальнасцяў і светла-зялёны — Вярхоўны Савет БССР. Безумоўна, адмова ад канвертаў мела на мэце прадухіліць псаванне бюлетэняў і адсочванне надпісаў антысавецкага характару.

## Вялікія грошы

Выбары запатрабавалі немалых выдаткаў. Калі на ўчастковыя выбарчыя камісіі па каштарысе Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 8 лютага 1940 года было выдзелена 1 947 500 рублёў, то на акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах у Вярхоўны Савет СССР — 220000 рублёў, у Вярхоўны Савет БССР — 343000 рублёў.

10 лютага 1940 года з Дзяржаўнага выдавецтва пры СНК БССР на імя сакратара ЦК КП(б)Б Маліна прыйшла *«предварительная калькуляция на агитационно-массовую литературу для избирательной кампании в западных областях БССР»* — 163930 рублёў. У гэтай суме львіную долю складалі выдаткі на партрэты кандыдатаў (43050 руб.) і на агітацыйныя каляровыя плакаты (51600 руб.). Астатнія сродкі ішлі на выданне палажэнняў аб выбарах у Вярхоўны Савет СССР і БССР на рускай і беларускай мовах, а таксама Канстытуцыі СССР (на рускай і беларускай мовах) і Канстытуцыі БССР (на рускай і беларускай мовах). Калі наклады палажэнняў у залежнасці ад вобласці ваганіся ў межах ад 17000 да 30000 асобнікаў, то Канстытуцый — ад 1000 да 4000.

Планаваўся выпуск і іншых выданняў, прызначаных спецыяльна для моладзі Заходняй Беларусі. 26 лістапада 1939 года ЦК КП(б)Б была зацверджана адпаведная даведка, у якой значыліся брашуры «О комсомоле» (Сталін), «Что советская власть дала трудящимся» (Калінін), творы савецкага пісьменніка Касіля, апавяданні пра Паўліка Марозава. Па прычыне матэрыяльных цяжкасцяў выхад гэтых выданняў затрымліваўся. 11 снежня 1939 года сакратар ЦК УЛКСМ Мішакова звярнулася з лістом да першага намесніка начальніка Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК УКП(б) Паспелава з просьбай пасадзейнічаць гэтаму шляхам выдзялення 25 тон звычайнай і 5 тон вокладкавай паперы.

Велізарную колькасць паперы планавалася выкарыстаць пры вырабе бюлетэняў і іншай дакументацыі. Згодна з каштарысам, зацверджаным ЦК ВКП(б) 8 лютага 1940 года, Масква павінна была выдзеліць Беларускай ССР 509 стоп паперы: 116 — на кожны від бюлетэня і 161 — на спісы выбаршчыкаў, пратаколы галасавання і г.д.

## Кадры вырашаюць усё!

Карціну прыцягнення людскіх рэсурсаў раскрывае дакладная запіска Маліна на імя Паспелава ад 26 траўня 1940 года. З яе вынікае, што ў перадвыбарчай кампаніі ўзялі ўдзел 46013 агітатараў: Беластоцкая вобласць — 17000; Брэсцкая — 7500; Баранавіцкая — 6391; Пінская — 8000; Вілейская — 7122. У асноўным дзейнасць агітатараў ажыццяўлялася ў традыцыйным фармаце — перадвыбарчыя мітынгі і гурткі. Так, згодна з дакладной запіскай Маліна, у лютым 1940 года ў Вілейскай вобласці было праведзена 1970 мітынгаў з удзелам 218958 чалавек, з якіх выступілі 3233 выбаршчыкі. У Брэсцкай вобласці прайшло 1128 мітынгаў з удзелам 205652 чалавек.

29 лютага 1940 года загадчык Арганізацыйна-інструктарскага аддзелу ЦК КП(б)Б Эйдзінаў у дакладной запісцы ў ЦК ВКП(б) адзначаў, што *«по неполным данным»* у пяці заходніх абласцях Беларускай ССР працуюць 9403 гурткі, якімі ахоплена 346175 чалавек.

У некаторых выпадках агітатары ўжывалі крэатыўныя формы прапаганды, праяўлялі вынаходлівасць. Напрыклад, у Баранавіцкай вобласці, як вынікае з той жа дакладной запіскі Маліна, у лютым 1940 года спецыяльная агітбрыгада ажыццявіла лыжны прабег працягласцю 482 кіламетры, пабывала пры гэтым у 9 раённых цэнтрах і 48 мястэчках, зрабіла 50 дакладаў і правяла 28 гутарак.

## Кандыдаты

На старонках сродкаў масавай інфармацыі ўсяляк папулярызаваліся кандыдаты «непарушнага» блока камуністаў і беспартыйных. Фармат такой папулярызацыі ўяўляў сабой нарысы, пабудаваныя па адным шаблоне: спачатку ішла гаворка пра цяжкае жыццё кандыдата ў дарэвалюцыйны час. Затым сцвярджалася, што толькі савецкая ўлада дала яму шанец выбіцца ў людзі, стаць шчаслівым чалавекам. Фаварытам у гэтым плане стаў кандыдат у дэпутаты Савета Нацыянальнасцяў, вядомы дзеяч камсамола Заходняй Беларусі Сяргей Прытыцкі. Газеты актыўна піярылі эпізод з жыцця Прытыцкага, звязаны з замахам у студзені 1936 года на правакатара Якава Стральчука ў віленскім судзе.






Галасуюць жыхары Заходняй Беларусі

Іншым вядомым людзям таксама было наканавана стаць народнымі выбраннікамі. Панамарэнка, Кісялёў і беларускі літаратар Піліп Пестрак вылучаліся ў Савет Саюза. Кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР сталі Цанава, а таксама народныя паэты БССР Янка Купала і Якуб Колас.

## Тэарыстычная істэрыя

Становішча ў рэгіёне напярэдадні выбараў старанна кантралявалася НКУС. Любая пазаштатная сітуацыя (нават нязначнае здарэнне) станавілася аб'ектам пільнай увагі спецслужбаў і, натуральна, пра гэта дакладвалася вышэйшаму кіраўніцтву рэспублікі. З сакавіка 1940 года Цанава ставіў у вядомасць Панамарэнку пра тое, што органы *«старательно расследуют»* інцыдэнт, звязаны *«с задымлением дымоходной трубы»* 29 лютага 1940 года ў вёсцы Пружаны Брэсцкай вобласці ў памяшканні школы — выбарчага ўчастка № 10.

Самі органы ўнутраных спраў культывавалі ў рэгіёне атмасферу падазронасці, недаверу, раскрывалі міфічных ворагаў. 14 сакавіка 1940 года Цанава рапартаваў Панамарэнку аб выкрыцці на тэрыторыі Гадуцішскага раёна Вілейскай вобласці контррэвалюцыйнага нацыяналістычнага падполля, куды нібыта ўваходзілі чальцы былых літоўскіх арганізацый «Святы Казімір» і «Культура». Іх мэта, сцвярджаў наркам, палягала ў тым, каб сарваць выбары ў заходніх абласцях БССР.

## «Аксамітны» супраціў

Многія выбаршчыкі рэгіёну шчыра прагаласавалі за камуністычных і беспартыйных вылучэнцаў. У новай уладзе яны бачылі альтэрнатыву старых польскіх парадкаў, якія пазбавілі іх многіх правоў і магчымасцяў, у тым ліку і свабоды волевыяўлення. Таму савецкія выбары, нягледзячы на іх фармальны характар, выклікалі ў жыхароў Заходняй Беларусі пачуццё дачынення да вялікіх падзеяў, будавання новага жыцця, пра што сведчаць надпісы на выбарчых бюлетэнях, якія праслаўляюць Сталіна, камунізм.

У той жа час выбары сведчылі пра незадаволенасць савецкай уладай пэўнай часткі насельніцтва і нават пра яе непрыманне. Самымі распаўсюджанымі спосабамі негатыўнага стаўлення да выбараў сталі прымаўкі, прыпеўкі, а таксама псаванне бюлетэняў і надпісы, карыкатуры, малюнкі на іх антысавецкага характару.

Вельмі папулярнай, асабліва сярод моладзі, стала прыпеўка, якая нарадзілася ў вёсцы Салаўі Пастаўскага раёна Вілейскай вобласці: ***«В колхоз дорога проста, а с колхоза — косяком, в колхоз — в ботах, а из колхоза — босяком».***

Матэрыялы па выбарах у Вярхоўны Савет СССР і ў Вярхоўны Савет БССР ад заходніх абласцей рэспублікі (студзень-снежань 1940 года) сведчаць аб тым, што антысавецкія настроі мелі і выразнае палітычнае адценне, замешанае на рэлігійнасці з аднаго боку і кульце Польшчы — з другога. З'яўленню адпаведных надпісаў на бюлетэнях тыпу «Жыве Польшча!», «З намі Бог!» у вялікай ступені спрыяла правядзенне выбараў у дзень каталіцкага Вялікадня, што яшчэ больш напружвала жыхароў рэгіёна.

У якасці своеасаблівага эталона такіх настрояў можна прывесці надпіс на бюлетэні ў Сакалоўскім раёне Беластоцкай вобласці: ***«Уничтожили нашу дорогую мать-Польшу, душите ее своими грязными лапами, но мы, дети ее, бодрствуем и уже готовим ножи, чтобы разрезать оковы, ее стесняющие. Польша не умерла, а уснула, чтобы вспыхнуть огромной силой и пламенем зажечь и уничтожить ваш проклятый коммунизм. Христос, воскреси Польшу, как пробудил и воскресил умершего Лазаря!».***

## Прадказальныя вынікі

Афіцыйныя вынікі выбараў дае справаздача спецыяліста Арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦК КП (б) Гершмана. З агульнай колькасці выбаршчыкаў (2 930 628 чалавек) удзел у выбарах прынялі 2 909 450 чалавек, альбо 99,27%. За кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных прагаласавалі 2 850 406 чалавек, альбо 97,97%. Пры гэтым 11 раёнаў дамагліся стопрацэнтнай яўкі выбаршчыкаў: Лідскі, Клецкі (Баранавіцкая вобласць), Відзаўскі, Дзісненскі (Вілейская вобласць), Антопальскі, Дзівінскі, Камянецкі, Косаўскі, Пружанскі, Шарашэўскі (Брэсцкая вобласць), Цеханскі (Пінская вобласць). Найбольш нізкая яўка (83,67%) назіралася ў Гадуцішскаўскім раёне Вілейскай вобласці.

Як бачым, выбары ў вышэйшыя органы дзяржаўнай улады ў Заходняй Беларусі ў 1940 годзе праходзілі па старанна распрацаваным сцэнары з выкарыстаннем немалых матэрыяльных і людскіх рэсурсаў. Дасягненню патрэбнага выніку спрыяла добра адладжаная прапагандысцкая машына і сілавыя органы. Аднак нельга казаць пра татальную падтрымку камуністаў з боку жыхароў Заходняй Беларусі, дзе былі моцныя прапольскія і антысавецкія настроі. Гэты фактар савецкія ўлады вымушаны былі ўлічваць у далейшай саветызацыі рэгіёну.

**Фота з архіва аўтара**

# 20 гадоў музычнаму альбому «Я нарадзіўся тут»

Імполь НАГБОМАВІЧ

**У 2000 годзе пабачыў свет знакавы супольны музычны праект «Я нарадзіўся тут». У 2000 годзе нарадзіўся і я. Вядома, сваіх эмоцый з нагоды выхаду альбома я не памятаю, а вось ураджанні ад яго праслухоўвання ў сярэдзіне нулявых у памяці засталіся.**




Альбом адкрывала аднайменная песня «Я нарадзіўся тут», якая амаль ідэальна накладвалася на рэаліі, якія ўтваралі той свет, што быў вакол мяне:

*Радзільня, дзіцячы садок,*
*Школа ды інстытут.*
*Я нарадзіўся тут,*
*І я буду жыць тут.*

З вокнаў маёй кватэры паўставаў аналагічны краявід: мастацкая вучэльня, дзіцячы садок ды школа. Для паўнаты карціны не хапала толькі радзільні, але ж з іншага боку дома раскінуўся вялікі яблыневы сад, у якім таксама шмат што нараджалася. Мне давялося нямала падарожнічаць па Беларусі, я бачыў парушаныя храмы, наведваў гарады, якія страцілі сваю былую веліч. Шмат маіх знаёмых і знаёмых маіх бацькоў з’ехалі з краіны, выбралі лёс эмігрантаў. Усё гэта, вядома, не радавала. Але па-сапраўднаму глыбокі смутак апанаваў мяне, калі пачуў гэтую песню, якая стала камертонам таго, што адбываецца навокал. Альтэрнатывы гэтаму жыццю я не бачыў, але вера ў тое, што можа быць па-іншаму, не знікала:

*Я ведаю, што*
*Паслязаўтра на нашых*
*калгасных палетках*
*Замест пустазелля й палыну*
*Узыдуць белыя і чырвоныя*
*кветкі.*

Збольшага, усе астатнія песні альбома тую веру і падтрымлівалі. Песні на словы і музыку выбітных дзеячаў беларускай культуры — Я. Купалы, М. Багдановіча, М.К. Агінскага, Н. Арсенневай, Л. Геніюш, К. Буйло, У. Тэраўскага, М. Краўцова, С. Новіка-Пяюна, А. Русака, М. Равенскага, Л. Вольскага, А. Сушы, У. Сушы, З. Вайцюшкевіча, У. Алоўнікава, А. Бачылы, В. Качанскага, Н. Сакалоўскага, А. Астрэйкі, М. Янчука, А. Памідорава, І. Любана, С. Сокалава-Воюша — запальвалі зніч веры ў тое, што Беларусь не знікне і беларусы будуць жыць шчасліва на сваёй зямлі.

Калі «Народны альбом» — гэта міф, у якім хацелася апынуцца, то «Я нарадзіўся тут» — гэта гімн надзеі і веры ў Беларусь. «Народны альбом» выходзіў на касетах, а «Я нарадзіўся тут» быў выдадзены на CD. Беларусу прапаноўвалася па прыступках пераходзіць з прасторы міфа ў рэальнасць, ад касеты да дыска. Асобна хацелася б адзначыць укладыш да дыска: тут можна было пабачыць фотаздымкі ўдзельнікаў праекта, а таксама прачытаць тэксты ўсіх песень альбома. Менавіта па фотаздымках я вызначаў, чые песні я хачу паслухаць першымі.

*Мінуць у тумане стагоддзі,*
*І сталь спарахнее ўшчэнт,*
*А мы тут былі, і мы тут будзем,*
*Пакуль існуе гэты свет.*

Свайго роду пасляслоўем да праекту «Народны альбом» стала песня Аляксандра Кулінковіча «Tut.by (Я пamру тут)», у якой пастаўлены выключна важны, як мне здаецца, акцэнт: месца нараджэння мы не абіраем, а застацца на радзіме ці пакінуць яе — гэта свядомы выбар. І выбар Аляксандра Кулінковіча — найвышэйшы паказчык любові да Радзімы. Гэта вельмі сугучна думкам і пачуццям, якімі прасякнутыя вершы беларускага паэта Анатоля Сыса:

*І калі вясёлка над труной*
*вып’е кроў да кроплі з маіх жылаў,*
*Беларусь, накрый мяне зямлёй.*
*Не, счакай, яшчэ аддам я вочы*
*сваёй здані,*
*каб мая душа*
*не зблудзіла на чужыне ўночы,*
*каб між намі не лягла мяжа.*
*Беларусь мая, мая магіла,*
*з бел-чырвона-белага радна*
*ці кашулю мне на смерць пашыла?*
*Беларусь мая, мая магіла,*
*ты ж адна ў мяне, як ёсць адна.*

Такім чынам песня «Tut.by», якая сімвалічна працягнула гісторыю «Я нарадзіўся тут», надала завяршанасць і цэласнасць праекту: прыняцце радзімы адбываецца як праз адчуванне непарыўнай сувязі з ёй па факце нараджэння, так і праз выбар застацца тут, каб, калі надыдзе час, легчы ў гэтую зямлю.

Атрымалася кола: адны аўтары засведчылі любоў да Радзімы праз нараджэнне тут, іншыя — праз свядомы выбар памерці тут.

Напрыканцы я хацеў бы ўзгадаць усіх удзельнікаў праекта, імёны якіх былі пазначаныя на вокладцы, а менавіта: З. Вайцюшкевіч, Л. Вольскі, А. Дземідовіч, В. Круглова, Ю. Ляўкоў, А. Памідораў, П. Паўлаў, А. Суша, С. Ахрамовіч, Ю. Беляхоў, В. Вадзюшка, Я. Каваленка, Я. Любец, Марат, К. Мусінскі, Ю. Гарачка, В. Шарапаў, Э. Альтшулер, С. Сцяколенка, С. Лабандзіеўскі, А. Пушкін, А. Асіпенка, Ю. Шамкаловіч.

# БагатаДата

**На тыдні нарадзіўся чалавек, які фактычна стварыў беларускі кінематограф. Што яшчэ мы адзначым у гэтыя дні?**

### 28 сакавіка

**1925.** У сяле Таццянаўка Томскай вобласці Расіі нарадзіўся савецкі акцёр з беларускімі каранямі Інакенцій Смактуноўскі (сапраўднае прозвішча — Смактуновіч). Прадзеда Смактуноўскага саслалі ў Сібір у 1861 годзе. А прозвішча акцёр змяніў у другой палове 1940-х гадоў, калі служыў у тэатры ў Нарыльску. Гэта настойліва парэкамендаваў зрабіць тамтэйшы дырэктар: маўляў, прозвішча Смактуновіч выглядае на яўрэйскае.

**1985.** У французскім Сен-Поль-дэ-Вансе памёр славуты мастак родам з Віцебска Марк Шагал. Як і прадказала яму варажбітка, 97-гадовы Шагал пайшоў з жыцця ў палёце: падымаючыся на ліфце ў сваю майстэрню.

### 29 сакавіка

**1900.** У Маскве нарадзіўся адзін з заснавальнікаў беларускага кіно, кінарэжысёр Уладзімір Корш-Саблін. Быў асістэнтам галоўнага рэжысёра першага беларускага фільма «Лясная быль» Юрыя Тарыча. Зняў першы наш гукавы гульнявы фільм «Першы ўзвод». Працаваў мастацкім кіраўніком кінастудыі «Беларусьфільм» і першым сакратаром Саюза кінематаграфістаў БССР.

### 30 сакавіка

**1940.** У вёсцы Папоўшчына (цяпер Новая Слабада) Чэрыкаўскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся мастак і грамадскі дзеяч Аляксей Марачкін. Творчы псеўданім — Алесь Мара. Быў галоўным мастаком Мастацкага фонду, выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў: загадваў кафедрай жывапісу. Адзін з заснавальнікаў і першы старшыня мастацкай суполкі «Пагоня».

### 31 сакавіка

**1910.** У маёнтку Аколіца-Рудава ў Браслаўскім раёне на Віцебшчыне нарадзіўся польскі паэт і крытык Юзаф Буйноўскі. Адзін з заснавальнікаў польскага ПЭН-цэнтру.

### 1 красавіка

**Дзень смеху.** А таксама **Міжнародны дзень птушак.**

**1940.** У Слуцку на Міншчыне нарадзіўся графік Уладзімір Басалыга. Пэўны час кіраваў Беларускім саюзам мастакоў.

### 2 красавіка

**Міжнародны дзень дзіцячай кнігі. Сусветны дзень распаўсюду інфармацыі аб праблеме аўтызму.**

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 518

Падпісана да друку 27.03.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб’ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.